





*Янка Купала:* ЗВЯРНУСЯ К СОНЦУ,
СОНЦУ БЕЗ КАНЦА Й ПАЧАТКУ !..

ЦЯЖКІЯ ГУЛЬНІ
ЖАЛЕЗНЫХ ХЛОПЦАЎ!

„БОНДА“: ДАЙЦЕ ГУК !!!

АЛЁ! Я АДНА...

РЭЙ БРЭДБЕРЫ:
„І НЕЙКІ ВАР'ЯТ ЗАПАЛІЎ СВЯТЛО...“

...ды г. Мінск

вул. Кісялёва – 11

рэдакцыя часопіса

# крыніца

1

1988

ISSN 0234-1387



# СЛОВА — ГЭТА ЎЧЫНАК

Нарэшце, Чытач, мы спаткаліся.

Хто ты?..

З кім ты?..

За што і супраць чаго?..

У кожным асобным выпадку нам тое невядома. Мы не ведаем, колькі табе гадоў, як цябе зваць, дзе ты вучышся, працуеш, чым цікавішся і захапляешся. Мы мяркуем пра гэта ўвогуле, цалкам. Аднак нам ніяк не хацелася б мець справу з нейкім сярэднестатыстычным чытачом, безыменным і безаблічным, а з табою асабіста, з рэальным чалавекам, які мае ўласнае сваё імя і ўласныя адносіны да ўсяго і да ўсіх.

Мы б хацелі, пачаўшы з табой дыялог, размаўляць на роўных, як сучаснікі і суайчыннікі. У нас з табою, у нашым часе і нашым грамадстве, раптам выявілася мноства балючых пытанняў, нявырашаных праблем — і наіўна думаць, што колькасць іх у бліжэйшай будучыні сама па сабе зменшыцца, нельга чакаць, што яны самі сабою вырашацца. На наш век праблем і пытанняў хопіць — і не камусьці, а нам іх вырашаць, нам з імі спраўляцца. Таму, Чытач, мы жадаем, каб менавіта ты быў і самы галоўны наш рэдактар, і найгалоўнейшы аўтар. Мы гатовыя прыслухацца да ўсіх тваіх развагаў, прызнанняў і слушных прапаноў не зважаючы на тое, чаго яны будуць тычыцца: праблем духоўных альбо пабытовых, перабудовы свету ці адбудовы школьнай спартыўнай пляцоўкі. Абы яно было відаць, што гэта для цябе надзвычай важна, што ты не абыякавы да ўсяго, што адбываецца, нешта робіш, даводзіш, ва ўсім адказваючы за свае справы і падпісваючыся пад сваімі словамі. Толькі гэтак — сумесна, разам — мы здолеем зрабіць наш часопіс жывым, цікавым і патрэбным.

Разам з табою, Чытач, нам давядзецца не проста ствараць часопіс, а вучыцца паўнацэнна жыць ва ўмовах перабудовы, карыстаючыся ўсімі яе магчымасцямі, на справе сцвярджаючы дэмакратыю і галоснасць. Перад намі не можа паўставаць пытанне ўсіх асцярожных, староніх, усіх, хто хістаецца ў сумненнях: пераможа перабудова ці яна адступіць? Толькі — пераможа! Для гэтага за яе неабходна змагацца.

Мы павінны ведаць і памятаць: там, дзе адступім мы, дзе саступіць кожны з нас — там сённяшні дзень адступіць у цень дня ўчарашняга; не адступіўшы — зробім крок наперад.

Мы павінны памятаць і верыць: будучыня перабудовы ў руках маладых пакаленняў. Людзям старэйшага ўзросту ў большасці сваёй неверагодна цяжка і складана перайначыцца, вызваліцца ад зручных, напрацаваных звычак. Многім з іх заўсёды будзе здавацца, нібыта раней было лепей. Хоць бы таму, што раней яны былі маладзейшыя.

Нам лепей — сёння.

Чытач і Аўтар!

З павагай да ўсяго, што зроблена бацькамі, улічваючы іх вопыт, нам адказваць за саміх сябе, спраўджваць свой уласны лёс на зямлі. Гэта магчыма толькі праз дзеянне, праз учынак.

У часопісе наш учынак — Слова.

Не застрахаваныя ад памылак, будзем рызыкаваць, дзейнічаць, вучыцца здзяйсняць учынкі.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**



ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# крыніца

**ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС ЦК ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

Мінск, «Полымя» Выдаецца са студзеня 1988 года

# У нумары





Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Над афармленнем нумара працавалі фатографы:
БЯЛЯЕВА А., ВІЛЬКІН Д., ГРЫБ Ц., ДЗМІТРЫЕЎ А., ІВАНОЎ Ю., КАЗАЧЭНКА Г., ШУБА У.
і мастакі аб'яднання «Цэнтр».
Макет нумара разлічыў на камп'ютэры А. КІРУШКІН
Аўтар і мастак коміксаў — А. КАРШАКЕВІЧ

**ПІШЫЦЕ:**
**220807**
**г. Мінск, ГСП,**
**вул. Кісялёва, 11**

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 16. 11. 87.
Падпісана да друку 16.12.87.
АТ 08420.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 6.
Ум. фарб.-адб. 18.
Ул.-выд. арк. 9,0.
Зак. 603.
Тыраж 8 790 экз.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 79





Санет Янкі Купалы «Сярод магіл» — адзін з твораў песняра, якія мала вядомы шырокаму чытачу, найперш маладому. Напісаны ён 15 лютага 1915 года (разам з вершамі «На вуліцы» і «Нашто?») і быў апублікаваны толькі аднойчы: у газеце «Наша Ніва» 14 сакавіка 1915 г.

Што трэба мець на ўвазе, каб глыбей разумець змест гэтага купалаўскага твора, яго вобразнасць, паэтыку? Па-першае, відаць, тое, што напісаны ён у час імперыялістычнай вайны, калі ў творах паэта часцей пачалі (напрыклад, у цыкле «Песні вайны», верасень — снежань 1914 г.) паяўляцца вобразы магіл, крыжоў, пажараў, дамавін і трупаў, курганоў, калі вялікі боль за лёс Бацькаўшчыны працінае яго гаротнае, трывожнае сэрца.

Па-другое, не трэба скідаць з рахунку і тое, як ішла ў гэты час работа ў «Нашай Ніве», якую Я. Купала як рэдактар-выдавец вёў, змагаючыся і з безграшоўем, і з цэнзурнымі канфіскатамі (№ 2 за 1915 г.), і з белымі плямамі вайсковай цэнзуры.

І трэцяе. Гэта трэба асабліва падкрэсліць і пастаянна мець на ўвазе — перыпетыі асабістага лёсу паэта, яго цяжкія асабістыя пакуты і перажыванні. Менавіта ў гэты самы час, недзе перад Новым 1915 годам Я. Купала прапанаваў Паўліне Мядзёлцы «падзяліць з ім долю і нядолю ў жыцці» і атрымаў... адмову. Менавіта таму з яго душы і выплакаўся трагічны цыкл вершаў, які пачаўся санетам «Маё цярпенне», напісаным 3 студзеня 1915 г., а таксама горкімі «Быў гэта сон...» і «Не судзіла доля», створанымі ў той самы дзень, і меў працяг у іншых вершах («Таей даўгажданай», «Сыйду...»). Закончаны цыкл такім шэдэўрам Купалавай лірыкі, як «А яна...», 7 ліпеня 1915 г.

Упершыню гэты цыкл паглыблена прачытаны Алегам Лойкам у ягоным рамане пра Я. Купалу «Як агонь, як вада...» (Мінск, 1984, стар. 210—229). Да гэтай кніжкі і адсылаю чытачоў.

**Янка Саламевіч**

**Янка КУПАЛА**

# САНЕТ

Сярод магіл, на плечы ўзняўшы крыж свой, стану
Як пасланец з магіл ад спячых там прарокаў,
І ў даль сягну, дзе можа толькі сягнуць вока,
І скрозь туды, дзе вольнай думкаю дастану.

І кліч пушчу скрозь ад кургану да кургану,
Як віхроў лёт па ўсёй бязмежнасці шырокай,
Кліч-заклінанне векавечнага зарока,
Што ў гуслях толькі дрэме, у песню ўчараваны.

Прадсмертнаю кляцьбой канаючага раба
Малітвай грэшніка, зарэзаўшага матку,
Звярнуўся к сонцу, сонцу без канца й пачатку!

Хай спаліць мне душу, як ствол разбіты граба,
Хай вочы высмаліць, як кветку ў лілеі слабай,
Але і крык мой спапяліць хай папарадку!

15/II—15







АДКРЫТАЯ РАЗМОВА

Святлана БАРТОХАВА

# Давайце пісаць лісты

## АГЛЯД РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ З ПРАДМОВАЙ І ПАСЛЯСЛОЎЕМ, АЛЕ БЕЗ КАМЕНТАРЫЯ

Я выбрала 23 канверты. Яны ляжаць перада мною невялікімі стосікамі. На адваротным баку многіх з іх, якраз па лініі заклейкі, красуюцца «ахоўныя» рысачкі. Відаць, нашы карэспандэнты баяліся, што прачытаюць іх лісты не толькі рэдактары. Спяшаюся паведаміць: рысачкі засталіся непарушныя, і, такім чынам, канверты гэтыя па дарозе ў рэдакцыю нікім не ўскрываліся, як, зрэшты, і ўсе астатнія, на якіх падобных «замкоў» не было. Гэта гаворыць пра тое, што паштовыя работнікі сумленна захоўваюць і ахоўваюць наша з вамі святое права на тайну перапіскі. Так што давайце пазбаўляцца ад прывычнага жадання перастрахавацца, давайце перастанем азірацца і забудзем добра вядомае «як бы што не выйшла», давайце не будзем нічога баяцца!

Здавалася б, гэтыя «ахоўныя» рысачкі — такая дробязь, што і гаварыць пра іх не варта. Але ж з такіх вось малюпасенькіх драбніц і складваецца наша рэчаіснасць. Спачатку рысачкі, потым боязь адкрыта казаць праўду, потым... Ланцужок гэты можна працягваць доўга, а да чаго ён прыводзіць, мы, на жаль, ужо ведаем. Дык давайце ж усе разам удасканальваць наша грамадства. І, дарэчы за неарыгінальнасць думкі, давайце пачынаць гэтае ўдасканальванне з дробязей і з сябе саміх.

Але гэта так, між іншым. А зараз паставім кропку ў прадмове і звернемся да лістоў, у якіх нашы патэнцыяльныя чытачы

### ДАЮЦЬ ПАРАДУ...

...стварыць у часопісе аддзел сатыры і гумару, а таксама адводзіць у кожным нумары месца для якой-небудзь займальнай навукі. Напрыклад, у адным нумары «Крыніцы» будзе займальная фізіка, у другім — займальная хімія і г. д. Да такіх публікацый трэба дадаваць красворды, малюнкі, цікавыя паведамленні (Ала Дзядовіч, в. Стайкі Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці);

...дапаўняць часопіс старонкай «Маладой гаспадыні», на якой расказваць пра напрамкі моды, праблемы маладой сям'і, даваць нескладаныя кулінарныя рэцэпты. Не шкодзіла б рабіць і агляд кніг на гэтыя тэмы (Тацяна Дударчык, г. Мінск);

...публікаваць займальныя апавяданні з працягам, каб чытачы з нецярплівасцю чакалі кожнага наступнага нумара. Рэгулярна праводзіць конкурсы на лепшую гумарэску, карыкатуру, апавяданне. Адкрыць рубрыку для тых, хто хоча пазнаёміцца. Прыдумваць кожнаму нумару яркую, прыкметную вокладку, гэта значыць, не забываць аб рэкламным моманце (В. Н. Ненартовіч, в. Сняжкова Вілейскага раёна Мінскай вобл.);

...стварыць рубрыку «Запрашаем да перапіскі», у якой паведамляць узрост, схільнасці, захапленні і г. д. Калі такая рубрыка магчымая, вось першы адрас: Гомельская вобласць, г. Жлобін, вул. Катоўскага, д. 58, Бязручка Алег Анатольевіч.

Яму 21 год, вельмі любіць сучасную музыку;

...даваць невялікую, але пастаянную рубрыку, прысвечаную мінскаму рок-клубу. Усё свядомае жыццё займаюся так званай «самаробнай» рок-музыкай (не металіст!). Калі патрэбна дапамога — разлічвайце на мяне (Яўген Манькоў, г. Мінск);

...многія прыхільнікі творчасці У. Высоцкага хацелі б убачыць у часопісе публікацыі, прысвечаныя гэтаму выдатнаму паэту, акцёру, спеваку, а галоўнае, Чалавеку. Гэта могуць быць успаміны тых, хто працаваў з ім у кіно і тэатры, яго вершы, фатаграфіі (В. В. Дзямчанкаў, г. Мінск);

...абяцаныя коміксы на каляровай уклейцы нікому не патрэбныя! Лепш друкавалі на ёй фатаграфіі папулярных рок-гуртоў, пра якія будзеце расказваць на старонках часопіса. І не трэба баяцца гаварыць падрабязна нават пра тых, чые пераканнні поўнасцю пярэчаць нашым (Мікалай Куранкоў, г. п. Фаніпаль Дзяржынскага раёна Мінскай вобл.).

### СТАВЯЦЬ ПРАБЛЕМУ...

...У нас у дзесятым класе тры разы на тыдні ўрокі хіміі і столькі ж — фізікі. Большасць вучняў гэтыя прадметы не любяць, не ведаюць ды і не хочуць глыбока вывучаць, многім досыць пачатковых ведаў. Мабыць, варта вызначаць схільнасці кожнага вучня і, з улікам жаданняў, дзяліць вучняў на групы па схільнасцях: навукі дакладныя, прыродазнаўчыя, гуманітарныя? Зрэшты, пытання і быць не павінна, а павінна быць зацвярджэнне і — як мага хутчэй — рашэнне. Цікава, кім і як рыхтавалася школьная рэформа, раз гэтая праблема не знайшла ў ёй адлюстравання? Вядома, можна займацца на факультатывах пасля ўрокаў, але ўрокаў тых — па сем на дзень. А хто ведае, колькі часу трэба кожнаму з нас, каб падрыхтаваць хатнія заданні хоць бы на «чатыры»? Падрыхтоўка забірае і начныя гадзіны, вось і чуецца тут крык усіх тых, хто «патанае ў ведах»: «Дапамажыце! Ратуйце!». Хацелася б ведаць, што думаюць пра гэта настаўнікі, пра што яны наогул гавараць на жнівеньскіх семінарах. Нас пераконваюць, што мы павінны дапамагчы ім, а як мы дапаможам, калі нам не давяраюць, калі ў нас ні пра што не пытаюцца?.. Думаю, сапраўднае маё імя не патрэбнае, таму — проста В. Корсева (г. Ліда Гродзенскай вобл.).

...Пакуль вы яшчэ «не навучыліся забараняць», мы звяртаемся да вас з просьбаю. Мы — гэта члены клуба «Карчагінец». Вы, напэўна, ведаеце пра існаванне інвалідных клубаў у шэрагу рэспублік і абласцей краіны. Дапамажыце стварыць нешта падобнае ў нас у рэспубліцы. Чаму звяртаемся менавіта да вас? Таму што «камсамолу да ўсяго ёсць справа», а вы — орган ЦК ЛКСМБ. Нам як паветра патрэбна пастаянная афіцыйная трыбуна. Мы, «карчагінцы», ужо даўно перараслі саматужніцтва, нам вельмі цяжка «варыцца ў сваім саку». Мы таксама людзі, а не проста «выдаткі цывілізацыі», нам страшэнна неабходны зносіны, жывы кантакт. Ведаю, што стаўлю цяжкае і для многіх балючае пытанне. Ведаю, што адразу нічога не зменіцца, але ж калі-небудзь трэба пачаць! Калі ж, як не цяпер, і хто ж, як не мы? Ну трэба ж нешта рабіць!

Каб падтрымліваць гэты кантакт, дзяўчаты і хлопцы самі, сваімі сіламі выпускаюць рукапісныя часопісы, інфармацыйныя бюлетэні і інш. Але папера — праблема, тыражаванне — праблема. А многія ж не толькі гэтым і жывуць. Таму і выходзяць, нягледзячы на цяжкасці, нашыя «Ветразь», «Балтыка», «Паходня».





КЛУБ ЗНАЁМСТВАЎ

# АЛЁ! Я—АДНА

Кааператывы растуць бы грыбы. Здаецца проста фантастыкай, што прапануюць яны насельніцтву — ад абіўкі дзвярэй дэрмацінам да... стопрацэнтнай гарантыі пры паступленні ў інстытут. Сёння грамадзянін мае магчымасць прыдзірліва выбіраць паміж умельцамі, што так і палаюць жаданнем добраўпарадкаваць ягонае жытло ці пераплесці любімую, але зачытаную кнігу. Але дзеля поўнае аб'ектыўнасці заўважым, што ва ўмовах энергічнае канкурэнцыі жыццё кааператываў досыць складанае. На жаль, даводзіцца канстатаваць, што многія кааператывы не вытрымалі перагрузак і ўжо сышлі з дыстанцыі.

А вось мінскаму кааператыву «Спадарожнік» («Спутник») падобная тужлівая перспектыва, здаецца, не пагражае. «Спадарожнік» перажывае ўзлёт!

А што такое «Спадарожнік» і чым займаюцца дзевятнаццаць яго супрацоўнікаў? Адкажам. Кааператыў «Спадарожнік» пераадольвае парог некамунікабельнасці і яднае раз'яднаных людзей.

Вы адзінокія! «Спадарожнік» дапаможа вам знайсці таварыша, у якога аднолькавыя з вамі праблемы і захапленні. Вы хочаце знайсці спадарожніка жыцця! Псіхолагі, сацыёлагі, педагогі, юрысты аб'ядноўваюцца ў «Спадарожніку», гатовыя прыйсці вам на дапамогу.

Ясна цяпер, што такая дзейнасць можа гарантаваць мінскаму «Спадарожніку» шматгадовае працвітанне!

Праблема з'яднання раз'яднаных людзей хвалюе і наш часопіс. Мы звярнуліся да «Спадарожніка», і нашая ідэя кааперавання прыйшлася дзелавым людзям даспадобы. Вось што гэта азначае: мы будзем чакаць вашых лістоў, некаторыя з іх будуць апублікаваны ў «Крыніцы», уважліва вывучаны ў «Спадарожніку». Вам абавязкова дапамогуць!

Сёння мы публікуем некалькі лістоў ад людзей, якія жадаюць знайсці адно аднаго. Зрэшты, ёсць невялічкае ўдакладненне: нашую старонку не варта разглядаць як друкаваны дадатак да «шлюбнай канторы». Мы чакаем лістоў ад тых, хто хоча пазнаёміцца з равеснікамі, звязанымі аднолькавымі захапленнямі: філатэліяй, турызмам, спортам — усяго не пералічыш.

«Мы вучымся ў Гродзенскім універсітэце. Завуць нас Марына і Ірына. Нам па дваццаць адному году.

Вечары бавім дома, бо пайсці практычна няма куды. Клуба знаёмстваў у Гродні няма. Ёсць вечары «Тым, каму за 30», але гэта ўсё не тое. Людзі сарамлівыя на гэты вечар так проста не пойдуць — не лёгка ім гэта зрабіць. Хацелася б пазнаёміцца з чалавекам, які стаў бы добрым сябрам».

«У нашай вёсцы многа хлопцаў, але няма нявест. А гаспадарка ў нас вялікая — адна з лепшых у Магілёўскай вобласці. Ёсць дзе прыкласці рукі моладзі, саўгас дае жытло, ёсць дзіцячыя садочкі. Я працую механізатарам, адслужыў у арміі. Так што, калі б знайшлася дзяўчына, якая пажадала б звязаць са мною лёс, я быў бы ўдзячны вам за дапамогу.

Аляксандр».

«...Мне 17 гадоў. Я жыву ў Мінску, захапляюся маладзёжнай музыкай, маю даволі вялікую і цікавую фанатэку. Хацеў бы пазнаёміцца з равеснікам, які разбіраецца ў рок-музыцы.

Алег».

Чакаем вашых лістоў.

Скажыце, ці можна на старонках «Крыніцы» адкрыць пастаянную рубрыку, прысвечаную «карчагінцам»? Разлічваем на вашу дапамогу (Ларыса Тамільчык, г. Слонім Гродзенскай вобл.).

...Мне, як педагогу-пачаткоўцу адной са школ г. Ліды, хочацца закрануць тэму, якая, на маю думку, хвалюе многіх. Гэта — адзінота. Неяк на класнай гадзіне я спыталася ў дзесяцікласнікаў, што яны робяць у вольны час, з кім сябруюць, ці ёсць у іх сапраўдныя сябры. І выявілася, што ўсе яны (амаль усе!) адзінокія. Казаць пра гэта ўголас ім было няёмка, але выгаварыцца, мяркуючы па ўсім, хацелася, і я прапанавала выкласці свае думкі на паперы — не называючы прозвішчаў.

Прачытаўшы патаемныя думкі маіх вучняў, я жахнулася. Усе яны пісалі, што не знаходзяць узаемаразумення з бацькамі, сяброў сапраўдных у іх няма, а ёсць прыяцелі або, як напісаў адзін дзесяцікласнік, «кенты», з якімі іх звязваюць агульныя захапленні, музыка, забавы, дыскатэкі...

Я ведаю, што ў жыцці ўсё яшчэ больш балюча і роспачна. Таму прашу адкрыць рубрыку «Пагаворым пра жыццё», у якой можна будзе раскрыць душу, пагаварыць пра вельмі асабістае і патаемнае... (Ліст без подпісу).

## ДЗЕЛЯЦЦА ДУМКАМІ...

Гэта вельмі добра, што ў нас у рэспубліцы будзе выдавацца такі часопіс. Я сёння ж пайду афармляць падпіску на яго і абавязкова на беларускай мове. У рэкламным артыкуле, надрукаваным у газеце «Знамя юности», галоўны рэдактар часопіса вельмі слушна гаворыць пра не зусім зычлівае і прытым зусім незаслужанае стаўленне нашай моладзі да беларускай мовы, такой роднай, такой пявучай, такой цёплай. Я лічу, што над гэтай праблемай варта задумацца. (Вольга Тарасевіч, г. Глуск).

...Мова — душа народа, памрэ яна — памрэ народ. Пакуль не позна, трэба ратаваць нашую старажытную і прыгожую мову. Праўда, аднымі заклікамі і лозунгамі мы нічога не дасягнем. Думаю, патрэбны адміністрацыйныя меры... (С. В. Зонаў, г. Мінск).

...Пасля такой рэкламы ў «Знаменцы» патрабаванні да вашага часопіса будуць самыя высокія. Я параіла б вам быць паблажлівымі да тых, хто не пабег адразу падпісвацца на «Крыніцу». Ведаеце самі: чытачы не спешчаныя, таму першае пачуццё, якое ўзнікае пры з'яўленні новага выдання, мае адценне недаверу.

Добра, калі вы рашылі паступова настройваць чытачоў на чытанне на роднай мове.

Даводзіцца прызнаць, што рускі тэкст прачытваецца намі хутчэй і лягчэй успрымаецца, чым беларускі. Большасць людзей, аднак, разумеюць, што так быць не павінна. Мне здаецца, трэба не толькі з пафасам заклікаць да нацыянальных пачуццяў, але і спрабаваць дапамагчы чытачу. Толькі з годнасцю і на добрым узроўні... (Валянціна Ларыёнава, г. Магілёў).

Свядома не раблю каментарыяў да гэтых лістоў. Упэўнена, што ў людзей актыўных яны і без таго выклічуць жаданне паразважаць, абмеркаваць узнятыя праблемы, расказаць пра набалелае, падзяліцца вопытам... Лісты, якія не трапілі ў наш першы нумар, будуць выкарыстаны ў іншых, а па некаторых з іх мы падрыхтуем асобныя матэрыялы...

Дарэчы, калі я рыхтавала гэты агляд, да мяне нечакана прыйшла госця, даўняя прыяцелька, журналістка па прафесіі. Зазірнуўшы цераз маё плячо ў аркуш, які тырчаў з пішучай машынкі, яна, думаючы, што ўгадала, усміхнулася і спытала: «Сама прыдумала?». Я якраз працавала над ананімным лістом маладой настаўніцы з г. Ліды (памятаеце — пра адзіноту). «Ох, колькі я такіх лістоў напрыдумвала! — дадала госця.— І ўсё дзеля якой-небудзь праблемкі...» — «А я не прыдумваю»,— адказала я, паказаўшы ёй ліст. Яна паціснула плячыма, і мы загаварылі на іншыя тэмы...

Гэта прымусіла мяне задумацца. Што маніць, многія журналісты выкарыстоўваюць даўно выпрабаваны прыём: як не хапае цытат з праблемных лістоў чытачоў, дык іх можна проста прыдумаць. Лічыцца, што крыміналу тут няма, бо раз думкі прыдуманага аўтара прыйшлі ў галаву журналісту, дык чаму нельга ўявіць, што такія ж цудоўныя і, галоўнае, неабходныя думкі маглі нарадзіцца яшчэ ў чыёйсьці галаве? Шчыра кажучы, сустрэўшы ў друку подпіс накшталт «В. С. з г. Мазыра» або фразу «сапраўднае прозвішча не называю...», я сама вельмі рэдка верыла ў рэальнае існаванне такіх лістоў. Ведаю, не ўсе тэксты з такімі подпісамі абавязкова прыдуманы вынаходлівымі журналістамі, але ўласны вопыт і вопыт маіх калег па пяру дае часам падставу для сумненняў...

Навошта я пра ўсё гэта? А вось чаму: супрацоўнікі рэдакцыі часопіса «Крыніца» прынцыпова адмаўляюцца ад любых фальсіфікацый. Прыміце наш дэвіз: «Давайце не будзем нічога баяцца». Калі за пэўны час не прыйдзе аніводнага ліста, як гэта ні параніла б нашыя душы, мы не пабаімся прызнацца, што чытачы пра нас забыліся. Мы абяцаем, што ўсе, абсалютна ўсе лісты, калі-небудзь надрукаваныя або працытаваныя на старонках часопіса, будуць толькі сапраўдныя. Але...

Зраблю маленькую перадышку і зноў скажу гэтае інтрыгуючае «але»... Каб расставіць усе кропкі над і, хачу сказаць вам пра некаторыя асаблівасці журналісцкай кухні: перш чым здаць ліст чытача ў набор, мы яго апрацоўваем. Гэта значыць: выпраўляем граматычныя памылкі, выкрэсліваем нецэнзурныя выразы (калі такія ёсць) і неістотнае, шліфуем стыль і г. д.— інакш кажучы, рэдагуем, не скажаючы сэнсу.

Такім чынам, дарагія чытачы, калі хочаце, каб вашы патаемныя думкі ішлі ў друк у першапачатковым выглядзе, вучыцеся пісаць лісты. А каб у вас быў стымул удасканальвацца ў эпісталярным жанры, мы, параіўшыся, можам аб'явіць конкурс... на самы цікавы ліст. Канчатковае рашэнне па гэтым пытанні прымем пасля вашай згоды. Дык хто «за»?..

## ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА АГЛЯДУ РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

**Мы не толькі супраць ананімных лістоў. Мы ўвогуле супраць ананімнасці. Таму, каб вы ведалі, з кім маеце справу, прадстаўляем супрацоўнікаў рэдакцыі, якія разам з вамі ствараюць часопіс.**

## ПРАДСТАЎЛЯЕМ РЭДАКЦЫЮ



### Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, галоўны рэдактар

**Калі я пытаюся ў сваёй дачкі: «Што ты любіш больш за ўсё ў свеце?» — яна адказвае: «Усё, што ў свеце ёсць». Шчаслівая, яна пакуль не ведае, што можна ў гэтым свеце надта моцна нешта не любіць.**

**Вызнаючы любоў, я не баюся нянавісці: гэта жывыя рухі душы. Раўнадушша — мёртвае. Менавіта яно ператварае пачуцці ў звычкі, а ідэі — у догмы.**

**Я вельмі моцна не люблю звычкі і догмы, а таксама іх носьбітаў — людзей з адубелай душой і закасцянелымі мазгамі. Таму я з моладдзю і за моладзь. Як за надзею руху.**

**Таму, узважыўшы ўсе «за» і «супраць», я і прыйшоў працаваць у маладзёжны часопіс.**



### Міхась КАЦЮШЭНКА, першы намеснік галоўнага рэдактара

**І тут раптам з'явіўся гэты тып з дыктафонам у руках.**

**— Мне даручана ўзяць у вас інтэрв'ю. Да таго ж вельмі тэрмінова. Пытанне ўсяго адно: пра што вы марыце?**

**Я пачаў загінаць пальцы. Кожны загіб значыў мару.**

**— Пачакайце,— гаворыць ён.— Пры чым тут вашы «загібы»? Вы пра часопіс, пра часопіс!**

**Я ўздыхнуў:**

**— Вось гэтак бы адразу!**

**І зноў пачаў загінаць:**

**— Каб ён быў самы смелы, друкаваў толькі адну чыстую праўду, не баяўся аўтарытэтаў, заўсёды быў на баку маладых, змагаўся за справядлівасць.**

**Тады ён сказаў:**

**— Паслухайце, а ці не занадта? Можа, цішэй? Больш стрымана. Каб чытачу было добра, і ў нас з вамі на душы спакайней. Цішыня, задавальненне. І, галоўнае, нервы, нервы ў парадку.**

**Я здрыгануўся... І схаваў рукі ў кішэні.**



**Анатоль СЫС**

## МАНАЛОГ РАМУАЛЬДА ЖАКОЎСКАГА

Рамуальд Жакоўскі быў артыстам Першага беларускага таварыства драмы і камедыі, якое існавала ў Мінску з красавіка 1917 года да сярэдзіны 1920 года і было створана Ф. Ждановічам пры ўдзеле І. Буйніцкага і У. Фальскага. Выступаў у спектаклях, пастаўленых таварыствам, з 1917 года. Выконваў ролю Старца ў «Раскіданым гняздзе» Я. Купалы, стварыў глыбокі псіхалагічны вобраз. 1 студзеня 1919 года, дваццацігадовым юнаком, скончыў жыццё самагубствам, паўтарыўшы лёс С. Палуяна.

Беспрытульная птушка прыстанку ў аблоках шукае,
на ўбогай зямлі ёй нябесных вятроў не стае,
спее ў небе маланка, і скроні мае адчуваюць,
як смяротным агнём наліваюцца вены яе.

І аднойчы сябрам я скажу, што ідзе навальніца,
абдыму іх адзіных і скронь прытулю да грудзей,
і так блізка ля скроні іх сэрцы жыццём будуць біцца...
толькі я з навальніцай пайду ў іншы свет ад людзей.

Гэта лёс. Вы не верце, што гэта стыхія,
пэўна ж трэба камусьці вось так расказаць пра жывых,
каб пачулі глухія, відушчымі сталі сляпыя
дый убачылі — зоркі ўзыходзяць таксама для іх.

Вось і ўсё — маланка ля скроні шугае.
Перадайце наступніку: хай у народзе сваім
праз стагоддзе зімы, на Свята, мой твар адшукае,
і мы — вочы ў вочы, шчаслівыя, стрэнемся з ім!

### КОЛЬКІ СЛОЎ АД РЭДАКЦЫІ

**Анатоль Сыс у свой час спрабаваў паступаць у тэатральны інстытут на акцёрскае аддзяленне, бо меркаваў, што так чытаць вершы, як гэта ўмее ён, дадзена не кожнаму... Не стаўшы акцёрам, Анатоль вывучыўся ў Гомельскім універсітэце на філолага, але працуе не ў школе, а на тэлебачанні, бо эпатаж, тэатральнасць, кіношнасць у яго ў крыві, яны нарадзіліся раней за Анатоля ў вёсцы Гарошкаў, у 1959 годзе. Там жа з'явіўся ў свет і ягоны апантаны дух, які, шукаючы выйсця, увасабляецца ў вершы.**



## ПАЦІР

Знайшлі пацір, слязамі поўны,
ніхто не ведае чыймі.
Сярэбранае ў срэбным —
поўню
пакутнік нейкі расчыніў.

Ад зла, спакус, грахоў замову
гугнявіў голас за сцяной...
Знайшлі на дне паціра слова,
з малітвы выпала яно:

КАХАЮ —
вочы прачыталі,
КАХАЮ —
вусны прашапталі,
КАХАЮ —
душы прастагналі,
КАХАЮ —
людзі закрычалі.

Каго?
Паэт сказаў: Айчыну!
Жаўнер: дзяўчыну!
Хтось: сябе!
І сталі дружна, шчыра, шчыльна,
як на касьбе ці на сяўбе.

А ён канчаўся у знямозе —
ніхто яго не пакахаў,
з паціра выплюхнулі слёзы,
налілі праз краі віна
і сталі дружна, шчыра, шчыльна,
як на касьбе ці на сяўбе,
паэт сказаў: п'ем за Айчыну!
І кожны выпіў — за сябе!

## ДУХ

...а Слова не угняві
бо Слова належыць Духу.
Кіньце Слова гайні —
і паляціць пацяруха...

Змоўчыць абражаны Дух,
новае слова народзіць,
спыніць натоўпу рух,
каб гаварыць аб народзе,

Зноў прыляціць гайня,
выйдзе з яе плюгавы:
«Дух — гэта, людзі, я!» —
скажа, а сам з рагамі.

Людзі разявяць рот,
як жа ж, такія словы:
«...З намі ўвесь народ!..
...Шлях да адзінай мовы!..»

Людзі закрыюць рот,
кожны сябе спытае:
гэта ж і я — народ —
лёс такі прычакаю?..

Людзі закрыюць рот,
людзі апусцяць вочы:
вось табе і народ,
думаць прывыкнуў моўчкі.

З думай такой і вы:
выжыве Дух-заступнік,
знойдзе для нас правы,
знішчыць пасад наш кутні...

Выжыве — гэта так,
знойдзе... і вам на тацы
медны падасць пятак:
вось вам на хлеб, засранцы!

## ЗМЯІНЫ ЦАР

Мой гаспадар Змяіны Цар,
ты ведаеш, як словы
над вогнішчам купальскіх чар
складаюцца ў замовы.

Мой гаспадар Змяіны Цар,
ад хіжакоў дубровы
хаваюць дзіўны твой алтар
без абразоў і словаў.

Мой гаспадар Змяіны Цар,
твайго аблічча рысы
да алтара нясём як дар
і я, і сёстры рысі.

**Леанід ЕКЕЛЬ**

ПАЗІЦЫЯ

# НАДЗЕЯ І АПОРА



**РОЗДУМ КАВАЛЯ-ШТАМПОЎШЧЫКА МТЗ ВЯЧАСЛАВА РАДЗЮКА ПРА АБАВЯЗАК, ГОНАР, ПРАЎДУ З КАМЕНТАРЫЯМІ АЎТАРА**

— Экскурсіі да нас у цэх не водзяць. А што тут паказваць? Дапатопнай тэхнікай пахваліцца, аглушыць пякельным грукатам, здзівіць нашымі прамасленымі, прапаленымі, абтрапанымі робамі? Цікавага нічога, няма чаго і гаварыць. Іншая справа — галоўны канвеер, з якога праз кожныя 3—4 хвіліны збягае зіхоткі ад лаку трактар. Нібыта сам па сабе з'яўляецца на свет — усё роўна як міфічная Афрадыта з марскога шуму. А што за плячыма гэтага новенькага зіхоткага «беларуса» праца тысяч і тысяч рабочых — гэта нібыта застаецца за кадрам. І ледзь не галоўнае звяно ў шматкіламетровым тэхналагічным ланцугу — наш кавальскі.

Але, старэнькая ў нас тэхніка. Скажам, мой прэс на пяць гадоў старэйшы за мяне. Так, грукат. А што тут зробіш, калі на распаленую балванку абвальваецца дзве з паловай тысячы тона-сіл. А ёсць жа яшчэ ў цэху і чатырохтысячнікі. Адно гэта можа збянтэжыць пабочнага чалавека — сам я гэтага ніколі не бачу і не чую. Перада мною бясконцая чарада распаленых дабяла загатовак. Толькі паспявай рабіць асадку, збіваць акаліну, а потым — гарачая штампоўка. Здараецца, акаліна (тэмпературка ў яе градусаў 700—800) трапляе на голую скуру. І тады міжволі робіш такі віртуозны скачок, што, бадай, майстар балета пазайздросціў бы белай зайздрасцю. Гэтыя скачкі мы называем танцамі белых лебедзяў.

Вось мы кажам, тэхніка, тэхніка... А дзіцяці ж вядома, што без чалавечых рук яна мёртвая. Гэта ўсяго толькі груда металу. Даводзілася мне бываць у ПНР на трактарным аб'яднанні «Урсус». Гэта быў цяжкі час для рэспублікі. Дык вось, у іх у кавальскім цэху абсталюнак самы сучасны. Але калі я на сваім старэнькім прэсе магу даваць у гадзіну пяцьсот паковак, дык там — не больш за сто. У чым прычына? Збітыя з панталыку рабочыя адкрыта не жадалі працаваць як след.

А рабочы чалавек — гэта надзея і апора дзяржавы.

**Каментарый аўтара**

Лаўрэату прэміі Ленінскага камсамола, кавалю-штампоўшчыку МТЗ Вячаславу Радзюку 30 гадоў. На трактарным ён працуе восем гадоў, і ўсе гэтыя гады на самым цяжкім участку. А Слава, між іншым, скончыў машынабудаўнічы тэхнікум. Мог быць і майстрам, і тэхнолагам, і канструктарам. Мог — і не стаў. Чаму? Няўжо прычына толькі ў высокім заробку? Ці, можа быць, у нежаданні браць на свае плечы лішнюю адказнасць? Адбарабаніў змену, сцягнуў брудную робу — і будзьце здаровы! Няхай хоць землятрус, няхай хоць патоп — у мяне душа не баліць: я сваю змену адпрацаваў. Зручная пазіцыя? Напэўна. Калі толькі жыць у вузенькім свеце сваіх інтарэсаў, калі ва ўсім бачыць сваю выгоду, няхай маленькую, ды ўсё ж сваю... Вельмі хацелася б сказаць пра такіх людзей: але, яшчэ сустракаюцца ў асобных выпадках... Хацелася б, ды язык не павернецца: тыповая яна, гэтая сітуацыя. А хіба ж магло быць інакш, калі выхаваўчы канвеер не ствараў унутраны свет чалавека, а наадварот — руйнаваў яго. Сваёй дэмагогіяй, двудушшам, жахлівай пустэчаю паміж жаданым і сапраўдным. І, дальбог, несправядліва звальваць усё на застойны перыяд. Яго стваральнікі — не міфічныя асобы, а канкрэтныя людзі, многія з якіх жывуць і сёння і на здароўе не скардзяцца. І багата хто з іх цяпер — барацьбіты. З тым, што самі колісь распаўсюджвалі, што прапаведвалі (з перакананнем або як таго вымагала пасада — гэта іншае пытанне), самі з сабою... Толькі вось як перакаваць душы людзей, глыбока перакананых у сваёй ісціне: калі сам пра сябе не падумаеш, дык ніхто цябе і не заўважыць нават? Чым пераканаць іх, што гэта не зусім так? Што, акрамя плана, прадукцыйнасці працы і іншых «жалезных» паказчыкаў, ёсць яшчэ ці не самы галоўны паказчык — душэўны лад чалавека. Не камфорт (сытая душа — мёртвая душа), а менавіта лад.

«А што за людзі працуюць у вас у цэху, Слава?» — пытаюся ў Радзюка. «Ды розныя людзі. Спецыфіка кавальскага такая — не кожны рабочы згодзіцца туды пайсці. Таму і перабіраць кадры не прыходзіцца. Маеш жаданне працаваць тут — і за гэта дзякуй. Калі ўсё ідзе ў цэху больш-менш нармальна, дык нас нібыта і няма. А здарыцца які збой — залiхаманіць усё аб'яднанне, дакоціцца хваля нервознасці і да супольнікаў. Вось тады да нас і завітаюць хадакі ўсіх рангаў, маўляў, што, ды як, ды чаму. Толькі ад ходак гэтых не багата што мяняецца...»

І ўсё-такі, што аднаго рабочага вымушае выкладвацца да апошняга, а другога — адно адбываць змену? Чаму адзін без работы не ўяўляе свайго жыцця, забяры ў яго на якісьці час яе, і ён — самы няшчасны чалавек, непрыкаяная душа? А другому плацілі б грошыкі, дык ён і носа з кватэры б не высунуў. Хіба што купіць што ў гастраноме... Значыць, у кожным чалавеку ёсць нейкая ўнутраная сіла, і мяркую, што кожны падуладны ёй. Іншая справа, калі адзін падпарадкоўваецца ёй без пярэчанняў, а другі — усяляк спрабуе заглушыць яе голас.

«Ці ж так гэта?» — удакладняю сваю думку ў Вячаслава. «Прыкладна так. Колькі б разоў ні прамаўляліся словы «гонар», «абавязак», для кожнага чалавека, які проста не мае сумлення, яны так і застануцца пустым гукам. Не дастукацца да яго свядомасці ніякімі словамі, калі ўсё ў яго ўсярэдзіне на моцных запорах. «Навошта забіваць мне галаву ўсякімі мудрагельствамі — мая справа працаваць» — вось яго прынцып. А тое, што ён сябе самахоць робіць прыдаткам да станка, яму, бадай, і ў галаву не прыходзіць. Паспрабуй у такога чалавека разбудзіць пачуццё гаспадара! Ягоная свядомасць закарочана на самым элементарным: прыйшоў — адпрацаваў — атрымаў. Апраўдаў заробак надзею — добра, не — без скандалу не абысціся.

Скажаце, такіх не шмат. Так, не большасць іх, але і не адзінкі. І лічыцца з гэтым проста неабходна.

Спачатку ў мяне нярэдка пыталіся — што ты сунеш нос ва ўсе дзіркі, навошта табе гэтае перавыкананне? Хочаш усе грошы пакласці ў сваю кішэню — дык усё роўна ж не пакладзеш. А расцэнкі зрэжуць. Нашто ж праз такі твой гераізм пакутаваць усім астатнім?

Пыталіся, пакуль не пераканаліся: я не магу інакш. Злы я ў рабоце. Не ўмею і не хачу бадзяцца марна. Прыйшоў на работу — значыць, усё аддай справе, што можаш. І не спісвай сваё нежаданне працаваць на ўсякія там незалежныя ад цябе прычыны. Часцей за ўсё іх выдумляюць, каб апраўдаць марнаванне часу...

Вядома, калі няма металу — няма і работы. Гэта адназначна. Але вось гадзінамі чакаць, пакуль да прэса падыдзе наладчык, каб ліквідаваць элементарную няспраўнасць, вельмі накладна. Вазьмі дый зрабі сам. Ах, за гэта не плоцяць... Вось-вось, тут усё і пачынаецца.

Мае 120, 130, а іншы раз і болей працэнтаў — не ад паказухі. Гэта спрасаваныя ў работу перакуры (замест 10—15 адведзеных на адпачынак хвілін я пакідаю 2—3). На змену прыходжу за паўгадзіны, сорак хвілін, каб самому навесці парадак на канвееры. І строга вытрымліваю рытм. Звярнулі ўвагу: у мяне адзін удар адначасова дае загатоўцы асадку і штампуе пакоўку. Можна, вядома, рабіць гэта і паасобку, але гэта ўжо будзе два ўдары. Значыць, у два разы болей пойдзе і электраэнергіі.

Лухта ў нас з эканоміяй выходзіць. Як кажуць, поўны змрок. У аднаго сапраўды эканомія, а ў другога — адно марнатраўства. Аднак і той, і другі ў выніку — у зусім аднолькавых умовах. Такая вось ураўнілаўка не так б'е па кішэні, як па свядомасці: эканом не эканом, усё роўна вылеціць у трубу. І выхоўваецца наплявацельства да ўсяго. Неяк прайшоўся я па тэрыторыі — і здрыгануўся: новенькія колы, якія ні разу яшчэ не праехалі па зямлі, зусім згнілі. Дэталі, якім у сельскіх майстэрнях цаны няма, закатаны ў асфальт. Кажу хлопцам са штаба «КП» — куды ж вы глядзіце, або курыная слепата на ўсіх напала? «Ды сто разоў і пісалі, і гаварылі пра гэта»,— адказваюць ледзь не з раздражненнем. Значыць, дрэнна пісалі, не так гаварылі, калі нічога, абсалютна нічога не змянілася. Калі па-ранейшаму ўсё гэта — чужое. А ў саміх вас, пытаюся, баліць душа, ці вы толькі выконваеце даручэнне, несяце нагрузку?».

**Каментарый аўтара**

Не ведаю, як у іншых, але вось у мяне гадоў дзесяць назад кожнае новае паведамленне пра выдатныя працоўныя дасягненні, калі за адну пяцігодку выконвалася дзве ці тры, выклікала не захапленне і замілаванне, а наадварот — абурэнне. Але ж ператвараліся гэтыя вытворчыя сенсацыі ледзь не ў справу будзённую. Пра іх трубілі газеты, радыё і тэлебачанне. Чыталася, слухалася, ды ўсур'ёз не прымалася, таму што не верылася. А вось земляку майму Вячаславу Радзюку я паверыў, ані кроплі не сумняваючыся, што за тры гады і дзесяць месяцаў выканаў ён пяцігодку. Як яму гэта ўдалося — размова пра гэта ўжо была. Скараціў да мінімуму перакуры, абыходзіўся зазвычай без наладчыка. А колькі разоў прыходзілася працаваць па дзве змены запар і ў выхадныя дні. І вось — вынік. І прызнанне: лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола. Напраўду выходзіць: якая праца, такі і гонар.

Пераканаў мяне Вячаслаў у шчырасці і натуральнасці такога вось стаўлення да працы. Сялянскае жыццё навучыла яго працавітасці, упартасці, самастойнасці. «Ледзь касу падымаў, а касіць ужо ўмеў». Няма работы ў вёсцы, якую ён не змог бы выканаць.

Жыла іх сям'я без дастатку — кожная лішняя капейка дасылалася яго сёстрам-студэнткам. Што казаць, знаёмы Вячаславу смак чэрствай скарынкі. Таму і выбар пасля школы спыніў на вучылішчы грамадзянскай авіяцыі — ведаючы, што там і адзенуць, і накормяць... Але... не прайшоў медкамісію. Доўга не раздумваючы, узяў дый паступіў у Мінскі машынабудаўнічы тэхнікум. І не шкадуе.

Як далей складзецца яго жыццё — час пакажа. Але відавочна адно: з кавальскага цэху ён не пойдзе. Ні за што на свеце. І не толькі таму, што характар у яго ўпарты. Ён — з пароды апантаных. З тых, на кім зямля трымаецца.

## ПРАДСТАЎЛЯЕМ РЭДАКЦЫЮ



**Леанід ЕКЕЛЬ,**
намеснік галоўнага рэдактара

**Любы газетчык (няхай даруюць мне калегі) марыць аб працы ў часопісе. Можна не спяшацца, не гнаць радкі, а засяродзіцца, падумаць... Пра што? Пра многае. Прыемнае і не зусім. У гэтыя хвіліны я думаю аб прыемным — аб тым, як будзе выглядаць першы нумар часопіса. Толькі б не падмануць вашы надзеі, не падмануцца ва ўласных... Пакуль гэтага не здарылася — я ўсміхаюся.**



**Алесь АСТАШОНАК**

**У жыцці часта залішне сур'ёзны і роспачны. Бывае, і сум на людзей наганяе. Спрабуе кампенсаваць недахоп у п'есах і апавяданнях: напісаў, напрыклад, камедыю «Камедыянт» — кажуць, смяюцца, калі глядзяць спектакль. Ды толькі і ў п'есе не абышлося без смутку — інакш ён, відаць, не можа. Любіць музыку. Ведаючы сённяшніх зорак, захоўвае вернасць куміра м свайго пакалення (яму 33 гады) — «Бітлз», «Ролінг Стоўнз»... Але цяпер ужо з большым задавальненнем слухае Вердзі і Бартака. Трохі паліглот, колісь французскую мову ведаў лепш за беларускую, валодае і англійскай. Падлеткам досыць паспяхова займаўся боксам, выступаў у вазе да 63,5 кг у агрэсіўнай манеры — але як у гэта паверыць з яго цяперашнімі 80,5 кг, мяккасцю і задуменнасцю!..**

**Як рэдактар-перакладчык марыць, каб на старонках часопіса гучала ў Думцы Слова, каб расла ў сэрцах чытачоў любоў да беларускай культуры, а чытачоў гэтых было ўсё болей.**

Павел СТАРАДУБ

НА ГРАНІ ФОЛУ

# У чадзе



Павольна стыне ў кубках чай, амаль знікаюць контуры заснежанай галінкі, якая час ад часу драпае акно, я міжволі пазіраю на гадзіннік, і Віктар Андрэевіч, перахапіўшы мой позірк, таропка пытаецца:

— Яшчэ чаю?

— Дзякуй,— кажу я і разумею, што размова скончылася, што нічога ўжо мы адзін аднаму не скажам, што трэба развітвацца. У вітальні, падаючы мне шапку, ён кажа замест «да пабачэння»:

— Думайце пра мяне і пішыце што хочаце. Дамоў я яго не вазьму.

На бязлюднай вуліцы падганяе снежаньскі мароз, вецер абпальвае твар і прымушае падняць каўнер, але я раблю крук, каб прайсці ўздоўж высокага бетоннага муру, за якім па вокнах, што мільгацяць match рознакаляровым святлом, угадваецца вялізны куб будынка. Ён усяго ў дваццаці хвілінах хады ад утульнага пярэдняга пакоя, дзе мы развіталіся з Віктарам Андрэевічам і дзе замест «да пабачэння» прамаўляліся зусім іншыя словы. Я іду далей, да тралейбуснага прыпынку, і бетонны куб бальніцы знікае ў марозным змроку.

Усяго дваццаць хвілін хады...

Учора я быў у бальніцы, размаўляў з галоўным урачом, маладой жанчынаю, пра якую і хворыя і дактары гавораць з аднолькавай пачцівай павагай: «Строгая». Ніна Пятроўна такой мне на гэты раз не здалася. Наадварот, была разгубленая.

— Зразумець не магу, што рабіць,— казала яна, нервова разгладжваючы прынесены мной ліст.— Усё так і ёсць на самай справе, як напісалі Мішавы суседзі па пакоі. Мы бяссільныя, яго нельга вылечыць. Параліч спіннога мозгу. Што рабіць? Можа, вы параіце?

Яна дапытліва паглядзела на мяне, на спісаны дробным почыркам ліст са шматлікімі ў слупок подпісамі...

Потым мы зайшлі з Нінай Пятроўнай у пакой. Міша ляжаў ля акна, зверху прасціны, бяссільна звісалі рукі, па твары павольна рухаўся сонечны зайчык. Калі ён трапляў у вочы, Міша зажмурваўся і спрабаваў павярнуць галаву. Гэта ўсё, што ён можа цяпер.

Убачыўшы дактароў, ён разняў губы — пачуўся нейкі хрып... Мяне Міша не пазнаў. Наўрад ці ў той вечар год назад, калі прывялі яго, бесшабашна-вясёлага і дзёрзкага, у міліцыю, ён звярнуў увагу на чужога ў дзяжурным пакоі. Ён тады быў «пад кайфам», вырываўся з рук старшыны, пагражаў «прыбіць яго» і, раскінуўшы ногі цыркулем, імітаваў рок-гітарыста, потым падаў на падлогу і вісклівa, да істэрыкі, рагатаў.

— «Калёсаў», паршывец, наглытаўся,— растлумачыў дзяжурны.— Ці нанюхаўся чаго. Не зразумееш. Ужо не раз яго ў такім стане прывозілі. Ён у нас кароль дахаў. Яго ў мікрараёне ўсе ведаюць і нават баяцца.

— Беспрытульны?

— Ды не, якраз з добрай сям'і. Маці медсястра, бацька інжынер на буйным заводзе. Выклікалі бацькоў, участковы дамоў прыходзіў. Ніякага сэнсу. Што ні дзень, дзесьці збіраюцца, нюхаюць бензін і лакі, дурэюць.

— Чаго ты там? — пачуўшы раптам дзяжурнага, закрычаў юнак.— Ты хоць раз спрабаваў поўны кайф? Гэта толькі сапраўдны мужчына можа.

— Добра, сапраўдны, данюхаецеся...

І вось праз год мы сустрэліся. Я ўжо ведаў, што з-за Мішы ў бацькі вялікія непрыемнасці. Ён, вядучы інжынер праекта, звольніўся з завода, працуе ў нейкім ЖЭСе; маці ў бальніцы, будучь афармляць «групу», не вытрымала сэрца, быў інфаркт. А Мішу восеньскім ранкам знайшлі на лесвіцы, ён ляжаў у ненатуральна выгнутай паставе, прыехала «хуткая», завезлі ў бальніцу. Дыягназ быў страшны.

Той самы, які паведаміла Ніна Пятроўна. Як кажуць у такіх выпадках, медыцына была бяссільная. Рабілі ўсё, кансультаваліся, але пары нітрафарбаў пераўтварылі арганізм у руіны. У 16 гадоў ён безнадзейны...

З бальніцы бацька забіраць свайго сына катэгарычна адмовіўся. Ён не прыходзіў зусім, толькі першай раніцай у прыёмным пакоі бачылі яго, а потым усё — і слухаць не хацеў. Міша ляжаў паўтара месяца, размаўляць не мог, і пра тое, што адбывалася з ім, здагадваліся толькі суседзі па пакоі, калі пераварочвалі ўранку мокрую ад бязгучных слёз падушку.

Бацькі ў бальніцу не прыходзілі. І тады суседзі напісалі ліст, і наведаў кватэру Віктара Андрэевіча. Ён быў прыгнечаны, але, як ні здалося мне спачатку дзіўным, трымаўся цвёрда. У нас была нялёгкая размова.

Што я мог сказаць яму, 45-гадоваму здольнаму чалавеку, які калісь рабіў і мог зрабіць кар'еру. Цяпер ён, калі апынуўся на ўзбочыне таго жыцця, якім дасюль жыў, казаў мне:

— Маё сумленне чыстае. Я быў добры бацька. Паверце. І ён зараз павінен за ўсё разлічвацца сам. І за мой зламаны лёс. За сэрца маці. За свае ўчынкі.

Я падрыхтаваў быў шмат тырад пра мiласэрнасць, пра бацькоўскую адказнасць. Але гледзячы на змарнелы твар, зазіраючы ў адчайныя вочы гэтага чалавека, гаварыць многа не стаў, таму што надта недарэчныя былі б любыя словы... На жаль, жыццё больш складанае за схемы і ўяўленні, мне вельмі хацелася зразумець Віктара Андрэевіча і нават паспачуваць яму, але ўсё роўна я памятаў, што ў дваццаці хвілінах хады бязгучна плача нерухомы Міша — чалавек згасае...

Уранку мяне чакала яшчэ адна сустрэча. З мінскімі дзевяцікласнікамі Мішам Патрэбіным, Славам Фёдаравым і Колем Сіроціным. Усіх іх, нягледзячы на маладыя гады, добра ведаюць у міліцыі як заўзятых таксікаманаў.

Мінулым летам хлопцы «пастараліся», звярнулі на сябе ўвагу. Яны сабраліся чарговы раз у бункеры (так рамантычна быў названы склеп, дзе яны абсталявалі нешта накшталт жылога пакоя), прынялі звычайную дозу «кайфу», інакш кажучы, надыхаліся да мільгацення ў вачах сінтэтычнага клею.

— Балдзеем?

— Балдзеем!

Прайшло паўгадзіны, яны звычна балбаталі, бязбожна манячы, як здабылі нядаўна звышцудоўныя «металічныя касеты», казалі, што трэба расквітацца з Горыкам з суседняй каманды, што брэйк ім — драбяза, і яшчэ «разважалі» пра нешта падобнае. Потым хтосьці ўздыхнуў:

— Шкада, Вэла і Сэма няма.

Уздыхнулі ўсе.

— Шкада.

Валодзя Петравіч і Ігар Самсонаў, хлопцы з іх «тусоўкі», нядаўна «спаліліся», іх выявілі дружыннікі ў непрытомным стане на гары аднаго дома і завезлі ў бальніцу. Дактары ледзь вярнулі да жыцця аматараў «кайфу»... Потым іх перавялі ў закрытае наркалагічнае аддзяленне, вестак ад іх не было. І вось у склепе, атмасфера якога нагадвала кватэру ў час рамонту, адкуль, адурманіўшы ўсё сваім нітралакам, толькі што пайшлі паркетчыкі, раптам прагучала думка:

— Паедзем у «дурку», завязем нашым «кайфу». Вось узрадуюцца!

Прапанову прынялі з захапленнем.

Пра далейшае гавораць скупыя радкі міліцэйскіх дакументаў. Невядомыя (так потым скажуць пра вядомых нам таксікаманаў) трапілі на тэрыторыю бальніцы, знялі краты з дзвярэй, дапамаглі хворым, якія знаходзіліся на прымусовым лячэнні, уцячы. Ох, і напракудзілі яны тады! Якімі смелымі і высакароднымі здаваліся сабе пасля таго, як пераскочылі цераз плот, аддыхаліся ў лесе і накіраваліся вясёлым гуртам у любы склеп.

Ранкам, працверазіўшыся, усе яны — і ўцекачы, і «высакародныя вызваліцелі» — зразумелі, што нарабілі. Пачалося следства. Вось тады жахнуліся ў школе, здрыгануліся бацькі. Але самі хлопцы, здаецца, хутка прыйшлі ў сябе...

Вопытны следчы, які займаўся гэтай справай, казаў мне, што, улічваючы ўзрост падследных, ён вырашыў адмовіцца ад жорсткіх санкцый. Хлопцы пастаўлены на ўлік, іх узялі пад асаблівы кантроль. Але, між іншым, твар у следчага быў такі, што я зразумеў: ён у вялікай трывозе за іх будучае. Яны пры сустрэчы са мною былі вясёлыя, штурхалі адзін аднаго, гулялі ў дасціпнасць. І наогул, калі б хто ў гэтую хвіліну ўбачыў нас, падумаў бы ўсё, што хочаце, толькі не тое, што бачыць таксікаманаў, хлопцаў, якія стаяць за паўкроку ад вялікай і непапраўнай бяды.

— Што вы ведаеце пра жыццё? — спытаўся ў мяне Слава Альгерчык.— Вы хоць раз балдзелі па-сапраўднаму? Лавілі кайф? Ну і ўсё, на гэта смеласць патрэбная.

Я глядзеў на яго малады, загарэлы за лета твар, адкрытую ўсмешку, і мне згадваўся сонечны бальнічны зайчык на нерухомым Мішавым твары. І яго бацька, які знерухомеў ля акна ўсяго ў дваццаці хвілінах хады ад бальніцы. Усяго ў дваццаці хвілінах...

Рэй БРЭДБЕРЫ

# ГУЛЬНЯ

АПАВЯДАННЕ

**Рэя Брэдберы няма патрэбы знаёміць з чытачамі: ён вядомы як пісьменнік-фантаст. Не будзем, аднак, забываць, што ўся творчасць Брэдберы прасякнута глыбокай сацыяльнасцю, што пісьменніка хвалюе лёс чалавечага грамадства, чалавека. У апавяданні «Гульня» мы чытаем жудасную гісторыю, што адбылася ў амерыканскім мястэчку. Мы бачым унутраны свет індывіда, пакутлівы працэс дэфармацыі свядомасці, распаду асобы. У гэтым кароткім творы Брэдберы паказвае сябе майстрам псіхалагічнага аналізу і напружанай інтрыгі.**

**Жанр «апавядання жахаў» разам з фантастыкай і дэтэктывам часам несправядліва залічваюць у літаратуру другога гатунку. Але гэты жанр мае трывалыя класічныя традыцыі (варта прыгадаць хоць бы імёны Мэры Шэлі, Эдгара По, Амброза Бірса). Побач з таннай, чыста камерцыйнай літпрадукцыяй (як, зрэшты, і ў іншых дзялянках літаратуры) гэты жанр мае неаспрэчныя здабыткі і ў нашы дні. Аб гэтым сведчыць і змешчанае тут апавяданне.**

**Застаецца дадаць невялічкую даведку. Дзея «Гульні» адбываецца на фоне традыцыйнага амерыканскага свята «Хэлоўін», для якога якраз характэрная дзіўная макабрычная атрыбутыка, апісаная ў творы.**

Ён паклаў пісталет назад у стол і засунуў шуфляду.

Не, гэта не падыдзе. Бо гэтак Луіза не будзе пакутаваць. Яна б памерла, усё было б скончана, і яна б не пакутавала. Важна якраз, каб яна як мага болей пакутавала. Хаця б у душы. Як працягнуць душэўную пакуту? Як жа ўсё гэта зрабіць? Вось у чым праблема.

Чалавек, што стаяў перад вялікім люстэркам у спальні, старанна зашпіліў запінкі. Пасля крыху пастаяў, паслухаў, як нанізе, у двары гэтага ўтульнага двухпавярховага дома гуляюць дзеці, нібы маленькія шэрыя мышкі, нібы лісточкі, што абляцелі з дрэваў.

Па іх галасах можна было вызначыць дату. Можна было сказаць, што гэта быў за вечар. Канец года. Кастрычнік. Апошні дзень кастрычніка, маскі з чарапамі, пустыя гарбузы з дзіркамі-вачыма і шчылінамі-ратамі, пах запаленых свечак.

Ужо нейкі час справы не ладзіліся. Настаў кастрычнік, але лепей не стала. Можа, нават і яшчэ горш. Ён паправіў гальштук-матылёк. Калі б была вясна — ён павольна, спакойна, халодна кіўнуў сам сабе — калі б была вясна, можа, і заставалася б нейкае выйсце. Але гэтым вечарам увесь свет ляцеў у прорву. У гэтым свеце не засталося больш зелені — знаку вясны, свежасці і надзеі.

З залы пачуліся мяккія крокі. «Гэта Мэрыан,— сказаў ён сам сабе.— Мая маленькая. Усе свае восем год такая ціхая. Хоць бы слоўца калі сказала. Адно бліскучыя светлыя вочкі і прыгожанькія вусны». Дачка ўвесь вечар бегала то ў двор, то дадому, спрабавала розныя маскі, пыталася, якая з іх страшнейшая. Яны абое ўрэшце выбралі маску шкілета. Яна была «страшэнна жахлівая». Усе проста памруць са страху!

Ён раздумліва глядзеў на сябе ў люстэрка. Ён заўсёды не любіў кастрычнік. Яшчэ з тых часоў, калі ён упершыню ляжаў у восеньскай лістоце перад бабуліным домам, даўно-даўно, слухаў скавытанне ветру і глядзеў на голыя дрэвы. Тады яму невядома чаму хацелася плакаць. І тая невымоўная туга штогод да яго вярталася. Але ўвесну ўсё праходзіла.

А гэтым вечарам было яшчэ нясцерпней. Здавалася, што надыходзіць восень даўжынёю ў мільён гадоў.

Вясны больш ніколі не будзе.

Ён увесь вечар ціха плакаў. Але звонку не было відаць нічога, ніякіх слядоў на твары. Ён хаваўся недзе ўнутры, гэты бясконцы жудлівы плач.

Увесь дом напоўніўся густым пахам сіропу. Луіза паставіла на стол глазіраваныя яблыкі. Ужо стаялі гатовыя вялізныя кубкі з пуншам, на ўсіх дзвярах віселі яблыкі на нітках, з кожнага халоднага акна вытрэшчваліся выразанымі вачыма пустыя гарбузы. Пасярод вялікага пакоя стаяла балея з вадой, побач з ёй — мех з яблыкамі. Цяпер трэба было неяк запаліць, завесці дзяцей, каб яблыкі з булькатам паляцелі ў балею, каб салодкія маятнікі завагаліся на дзвярах, каб пачалі знікаць цукеркі, каб дом напоўніўся звонкім разгалосам захаплення. Або страху. Розніцы няма.

А пакуль што дом быў поўны маўклівага чакання. І нечага яшчэ.

Луіза ўвесь час схітралася быць у нейкім іншым, чым ён сам, пакоі. Гэтым яна нібы казала: «Паглядзі, Міч, якая я занятая! Так занятая, што калі ты ўваходзіш у пакой, дзе ёсць я, у мяне заўсёды знаходзяцца справы ў іншым пакоі! Ты толькі паглядзі, як я мушу круціцца!»

Нейкі час ён гуляў з ёй у гульню, брыдкую дзіцячую гульню. Калі яна была ў кухні, ён заходзіў туды і казаў: «Хачу папіць вады». Праз хвіліну, калі ён стаяў і піў ваду, а яна, як варажбітка, схілілася над цукровым сіропам, які булькацеў на пліце, нібы нейкае вядзьмарскае варыва, яна казала: «Ой, мне трэба запаліць гарбузы на вокнах!» — і бегла ў вялікі пакой устаўляць у гарбузы запаленыя свечкі. Ён, усміхаючыся, ішоў за ёй: «Недзе тут мая люлька». «Ой, а сідр!» — крычала яна і бегла ў сталовую. «Я сам пагляджу»,— казаў ён. Але калі ён пайшоў за ёй, яна заскочыла ў ванную і замкнула за сабой дзверы.

Ён стаяў пад дзвярыма ў ванную, неяк дзіўна, без прычыны ўсміхаючыся. Люлька ў роце згасла. Гульня ўжо стаміла яго, але ён упарта прастаяў яшчэ пяць хвілін. З ванной — ані гуку. І, каб яна не злараднічала, пачуўшы, што ён чакае ля дзвярэй, ён раззлаваны паторгаў за ручку і пайшоў уверх па сходах, вясёла свішчучы.

Падняўшыся, ён спыніўся. Пасля пачуў, як дзверы ваннай расчыніліся, жонка выйшла, і жыццё нанізе пацякло далей. Як жыццё ў джунглях, калі міне небяспека і сунімецца страх.

Цяпер, калі ён, паправіўшы матылёк, надзеў цёмны сурдут, з залы пачулася мышыная мітусня. У дзвярах паказалася Мэрыян, убраная як шкілет.

— Ну, як, тата?

— Выдатна!

З-пад маскі выбілася пасмачка белых валасоў. З дзірак чэрапа ўсміхаліся блакітныя вочкі. Ён уздыхнуў. Мэрыян і Луіза, дзве маўклівыя супрацоўніцы яго мужчынскасці і смуглявасці. Што за чары ў Луізе, узяўшы цёмнае ад цёмнага, выбялілі цёмныя вочы і чорныя валасы, вымылі і выбелілі дзіця, пакуль яно яшчэ не нарадзілася? Бялявая Мэрыян з блакітнымі вачыма і ружовымі шчокамі. Часам яму здавалася, што яна зачала дзіця ў думках, бесцялесна — бязгрэшнае зачацце напышлівага розуму. Нібы ў папрок яму яна нарадзіла дзіця паводле **свайго** падабенства і, да ўсяго, неяк намовіла доктара, і той сказаў, пакачаўшы галавой: «На жаль, пане Уайлдэр, у вашай жонкі болей не будзе дзяцей. Гэта было **апошняе**».

— А я хацеў хлопчыка,— сказаў Міч восем год таму.

Яму амаль захацелася абняць Мэрыян у яе страшнай масцы. Яму стала невымоўна яе шкада, бо яна не зазнала бацькавай любові, яна ведала толькі знішчальную, учэплівую любоў маці, абдзеленай любоўю. Але больш за ўсё ён шкадаваў сябе самога. Чаму ён не паспрабаваў усцешыцца тым няўдалым народзінам, чаму не радаваўся сваёй дачцэ, хоць яна была і не цёмная, не падобная на яго, хоць гэта быў і не хлопчык? Ён нешта прапусціў. І каб не ўсё астатняе, ён любіў бы дачку. Але ж, па-першае, Луіза ўвогуле не хацела дзяцей. Яе палохала нават сама думка аб родах. Ён змусіў яе мець дзіця, і з тае ночы, амаль цэлы год, аж да самых родаў яна жыла ў другой частцы дома. Яна спадзявалася памерці разам з нежаданым дзіцём. Луізе было вельмі лёгка ненавідзець мужа, які так хацеў мець сына, што быў гатовы аддаць на смерць сваю адзіную жонку.

Але — Луіза выжыла. Ды яшчэ як! Калі ён прыйшоў да яе ў шпіталь, яна сустрэла яго ледзяным позіркам. «Я жывая,— сказала яна,— і ў мяне бялявая дачка! Вось паглядзі!». І калі ён выцягнуў руку, каб дакрануцца, маці адвярнулася і пачала шаптацца з дачушкай — прэч ад гэтага чарнявага гвалтаўніка-забойцы. Ва ўсім была такая мілая іронія. Ён заслужыў гэтага сваім эгаізмам.

Але цяпер зноў надышоў кастрычнік. Такое было і раней, і калі ён думаў пра доўгую зіму, год за годам яго напаўняў жах перад бясконцымі месяцамі, калі шалёныя завеі замуроўку яго ў доме, куды завабілі яго жанчына з дзіцем, якія яго не любілі. За гэтыя восем год былі і перадышкі. Вясной і летам можна было недзе паехаць, пагуляць на прыродзе. То былі безнадзейныя спробы вырашыць невырашальную праблему. Праблему чалавека, якога ненавідзяць.

Але ўзімку вандроўкі і прагулкі з пікнікамі адляталі ў нябыт разам з восеньскім лісцем. Жыццё было голае, як зімовае дрэва, плады сарваныя, сок выцек у зямлю. Вядома ж, можна было запрасіць гасцей, але ўзімку госці прыходзілі рэдка — то снег, то бура, ці што яшчэ. Аднойчы ён дадумаўся сэканоміць грошай на паездку ў Фларыду. Яны адпачылі на поўдні. Ён гуляў на вольным паветры.

Цяпер наступала восьмая зіма. І ён зразумеў, што нарэшце ўсё падышло да канца. Гэтую зіму яму ўжо проста было не перажыць. Быццам нейкая кіслата ў ім праела з гадамі ўсе тканкі адну за адной і гэтым вечарам падступілася да смертаноснага выбуховага зараду, і ўсяму ўрэшце настане канец!

Нанізе шалёна зазвінеў званок. Луіза пайшла адчыняць. Мэрыян, не сказаўшы ні слова, пабегла ўніз сустракаць першых гасцей. Пачуліся радасныя воклічы.

Ён падышоў да сходаў.

Луіза дапамагала гасцям распранацца. Высокая і зграбная, са светлымі, амаль белымі валасамі, яна смяялася і жартавала з дзецьмі.

Ён вагаўся. Што ўсё гэта было?

Гады? Ці абрыдла жыць? Калі ж гэта пачалося? Вядома ж, не толькі з нараджэннем дзіцяці. Але яно сталася сімвалам усіх іхніх непаразуменняў. А яго рэўнасць і няўдачы на працы дарабілі справу. Чаму ж ён не завярнуўся, не сабраў рэчы і не пайшоў ад іх? Не. Ён не пойдзе, пакуль не адпомсціць за ўвесь той боль, што Луіза яму прычыніла. Так было б занадта проста. Развод яе не засмуціў бы ані кроплі. Гэта проста быў бы канец абрыдлай заўсёднай нявызначанасці. Калі б ён ведаў, што ёй было б прыемна развесціся, ён не разводзіўся б да самай смерці, назло ёй. Не, трэба, каб ёй балела. Можа, нейк забраць у яе Мэрыан? Праз суд? Так. Менавіта так. Гэта будзе самы балючы ўдар. Забраць Мэрыан.

— Усім прывітанні! — ён спусціўся па сходах і заззяў усмешкай.

Луіза не паглядзела на яго.

— Прывітанні, пане Уайлдэр!

Дзеці закрычалі і замахалі ручкамі.

Каля дзесятай гадзіны дзвярны званок перастаў звінець, яблыкі на дзвярах былі абкусаны, ружовыя дзіцячыя тварыкі былі насуха выцерты, абрусы былі заліты順 пуншам і сіропам, і тады ён, гаспадар, сам павёў рэй. Ён забраў вечар у свае рукі. Ён забаўляў размовамі дваццаць дзяцей і дванаццаць бацькоў, якім вельмі спадабаўся сідр, што ён адмыслова ім прыгатаваў. Ён ладзіў гульні «Прышпілі малпе хвост», «Запусці бутэлечку», «Музычныя крэслы» і іншыя, і раз-пораз выбухаў вясёлы смех. Пасля, калі ўсё святло ў доме згасла і засталіся гарэць толькі трохкутныя вочы гарбузоў, ён крыкнуў: «Ціха! Усе за мной!» — і пайшоў на дыбачках да склепа.

Бацькі, што трымаліся наўзбоч ад маскараднай мітусні, перакідаліся словамі, ківалі на добрага гаспадара, размаўлялі са шчаслівай гаспадыняй. «Як добра ён ладзіць з дзецьмі!» — казалі яны.

Дзеці з крыкамі і віскам рушылі за ім.

— Склеп! — закрычаў ён.— Ведзьміна магіла!

Зноў віск і крыкі. Ён прыкінуўся, што дрыжыць ад страху. «Вы, што ўвайшлі, пакіньце ўсе спадзяванні!»

Бацькі захіхікалі.

Адно за адным дзеці слізгалі па схіле, які Міч зладзіў з гладкіх дошак, у змрочны склеп. Ён сычэў, як змяя, і слаў ім услед жудасныя заклёны. Вясёлая гамана напоўніла дом, цьмяна асветлены галовамі-гарбузамі. Гаварылі ўсе разам. Усе апроч Мэрыан. За ўвесь вечар яна не прамовіла ані слова. Усё захапленне і радасць яна хавала ўнутры. «Маленькі троль»,— думаў ён. Бліскучымі вочкамі яна аглядала сваё свята, нібы раскручаныя перад ёй стужкі серпантыну.

Настала чарга бацькоў. З удаванай неахвотай яны слізгалі па кароткім схіле, а маленькая Мэрыан стаяла побач, каб пабачыць усё, каб быць апошняй. Луіза спусцілася без яго дапамогі. Ён быў нахіліўся, каб падаць ёй руку, але яна ўжо з'ехала сама.

Пусты дом наверсе маўчаў у святле свечак.

Мэрыан стаяла каля схілу.

— Хадзем,— сказаў ён і ўзяў яе на рукі.

Яны сядзелі ў склепе вялікім колам. Ад далёкай печы веяла цяплом. Крэслы стаялі доўгім радам пад кожнай сцяной, дваццаць дзяцей вішчалі, дванаццаць бацькоў гамානілі, Луіза была ў самым дальнім канцы. Міч застаўся з гэтага боку, каля сходаў. Ён узіраўся ў цемру, але нічога не было відаць. Усе навобмацак знайшлі крэслы, нібы гуляючы ў жмуркі. З гэтай хвілі дзея мусіла адбывацца ў апраметнай цемры. Міч быў завадатарам. Пахла сырым цэментам, чулася дзіцячая валтузня і скавытанне ветру ў кастрычніцкім небе.

— А цяпер ціха! — крыкнуў гаспадар у цёмным склепе.

Усе прыціхлі.

Было цёмна, хоць вока выкалі. Ні святла, ні пробліску, ні праменьчыка.

Пачуўся скробат глінянага начыння і скрыгат металу.

— Ведзьма памёрла,— злавесна прамовіў гаспадар.

— Іііііііі,— адказалі дзеці.

— Ведзьма забіта вось гэтым нажом.

Ён перадаў нож. Нож пайшоў з рук у рукі праз усё кола. Раз-пораз чуўся хіхат, крыкі, тлумачэнні дарослых.

— Вось ведзьміна галава,— прашаптаў гаспадар і перадаў нейкі прадмет таму, хто сядзеў побач.

— А я ведаю, як гуляюць у гэтую гульню,— радасна закрычаў у цемры нейкі хлопчык.— Дастаеш з лядоўні курыныя трыбухі, перадаеш у кола і кажаш: «Вось яе трыбухі». Пасля робіш з гліны галаву, перадаеш і кажаш, што гэта яе галава, а на костку з супу кажаш: «Гэта яе рука». Тады бярэш шарык і кажаш: «Гэта яе вока!» Пасля бярэш зярняты і кажаш: «Гэта яе зубы!» Пасля накладаеш у пакецік слівовага пудзінгу, перадаеш і кажаш: «Гэта яе страўнік!». Я ведаю, як у гэта гуляюць!

— Сціхні, а то ўсё сапсуеш! — спыніла яго нейкая дзяўчынка.

— А вось ведзьміна рука,— працягваў Міч.

— Іііііііі!

Прадметы ўсё хадзілі і хадзілі па руках, як печаныя бульбіны. Адныя дзеці крычалі і баяліся іх браць. Іншыя ўцякалі на сярэдзіну склепа і чакалі, пакуль страшныя прадметы мінуць іх чаргу.

— Падумаеш, курыныя трыбухі! — засмяяўся хлопчык.— Хэлен, хадзі, не бойся!

Прадметы перадаваліся з рук у рукі адзін за адным, раз-пораз чуліся баязлівыя крыкі.

— Вось ведзьміна сэрца,— сказаў гаспадар.

Шэсць ці сем прадметаў рухаліся колам у смехатлівай і дрыготкай цемры.

Луіза галасна сказала:

— Мэрыан, не бойся, гэта ж гульня.

Мэрыан нічога не адказала.

— Мэрыан? — спыталася Луіза.— Ты баішся?

Мэрыан маўчала.

— Усё ў парадку,— адказаў муж.— Яна не баіцца.

І зноў рух, зноў крыкі боязі і весялосці.

— Мэрыан! — зноў паклікала Луіза з дальняга канца склепа.

Усе навокал гамանілі.

— Мэрыан! — паўтарыла Луіза. Усе прыціхлі.

— Мэрыан, скажы, ты не баішся?

Мэрыан не адказала.

Муж стаяў там, каля сходаў.

Луіза паклікала зноў:

— Мэрыан, ты дзе?

Няма адказу. Склеп маўчаў.

— Дзе Мэрыан? — спыталася Луіза.

— Яна была тут,— адказаў нейкі хлопчык.

— Можа, яна наверсе?

— Мэрыан!

Маўчанне. Мёртвая ціша.

— Мэрыан, Мэрыан! — закрычала Луіза.

— Запаліце святло,— сказаў нехта з дарослых.

Прадметы перасталі перадаваць. Дзеці і дарослыя трымалі ў руках тое, што засталося ад ведзьмы.

— Не...— у Луізы заняло дыханне. У цемры ціха скрыгатнула яе крэсла.— Не! Не запальвайце святло, не запальвайце, о Божа, Божа, не запальвайце святло, я вас малю, не запальвайце, не!!!

Луіза закрычала немым голасам. Увесь склеп застыў у здранцвенні.

Ніхто не варушыўся.

Усе сядзелі ў цемры, знямеўшы ад нечаканага павароту восеньскай гульні. На вуліцы скуголіў вецер і біўся аб сцены дома, пах гарбузоў і яблыкаў змяшаўся з пахам прадметаў, што прысутныя трымалі ў руках. Адзін хлопчык закрычаў: «Я збегаю наверх і пагляджу». І з надзеяй пабег наверх, выскачыў на вуліцу, абабег чатыры разы вакол дома, зноў і зноў клічучы: «Мэрыан, Мэрыан, Мэрыан!» — і ўрэшце вярнуўся ў затоены ў чаканні склеп, прамовіўшы: «Яе нідзе няма».

І тады... нейкі вар'ят запаліў святло.

**Пераклаў з англійскай**
**Сяргей ШУПА.**





# Футбольныя сцэны 80-х гадоў

**Аляксандр СТАНЮТА**



— ...Ну, тады раскажы пра футбол.

Яна смяецца і страсае попел цыгарэты,— кошка, якая сядзела каля яе ног, адыходзіць ад зэдліка, потым вяртаецца. І тут зноў, нібы над самай галавой, гахкае блізкі стадыён, але гул трыбун на гэты раз хутка сціхае, змяняючыся свістам.

— Гол ці не?

— Не, міма.

— Вечна ў вас міма.

Хвілін пяць-шэсць прайшло ўжо з пачатку матча. Відаць, Маню сёння забіраць з садочка не ёй. Што ж, пасядзім яшчэ. Новы выбух крыкаў і залівістага свісту. Мы пераглядваемся, усміхаючыся. Мы ведаем адзін аднаго даўно і даўно прызвычаіліся, што ў цэнтры Мінска футбол заўсёды чуцён так, нібы яго транслююць з «Дынама» на поўнай гучнасці, толькі без каментатара. Ён, дарэчы, быў бы і не патрэбны. У агульных рысах я магу чытаць гульню і так, на адлегласці, па гулу ці маўчанні стадыёна.

Гэта зусім няцяжка, калі сам гуляў і рос тут, у цэнтры горада, калі сам горад таксама рос на тваіх вачах з пасляваенных папялішчаў, калі твой футбол пачынаўся на расчышчаных у гэтых руінах пляцоўках і калі... І калі б хто-небудзь сур'ёзна папрасіў мяне расказаць што-небудзь пра футбол, я, напэўна, паспрабаваў бы. Але не ўпэўнены.

Расказаць пра футбол? Але гэта ж усё роўна, што расказаць пра сваё жыццё, хоць яно ў футболе ніколі не ішло. Проста футбол, як усё жывое, яркае, азартнае, урастаў у яго, як і ў многіх, яшчэ з далёкіх дзіцячых гадоў.

Ён назаўсёды ў ім і застаўся.

Засталіся ў памяці, напрыклад, часы стадыёна «Харчавік» у парку імя Горкага. Гронкі балельшчыкаў на таполях ля старога велатрэка (тут цяпер крыты каток); конная міліцыя са свісткамі на чале з вядомым усім хлапчукам Мінска рыжавусым тоўстым капітанам «Лео» Гінзбургам — яго баяліся неяк весела і з задавальненнем... І мой дзядуля, мастак, з вялізнай папкай, праводзіць нас праз кантроль («Мне трэба зрабіць замалёўкі») — а стадыён ужо дружна крычыць «У-ух!» варатару сталінградскага «Трактара», калі той выбівае мяч у поле.

Потым пачалася эпоха ўжо цяперашняга «Дынама»: спярша пабудавалі амфітэатрам адну трыбуну, заходнюю, затым астатнія, чаша замкнулася, і лёгкая стройная арка паўстала ля ўваходу. Яе відаць ад скрыжавання Ленінскага праспекта і Камсамольскай вуліцы — з адміністрацыйнага будынка з калонамі, што стаіць тут, і пачыналася пасляваенная забудова цэнтральнай часткі горада, і стадыён усё шырэй разбудоўваўся прыкладна ў тыя ж гады. На ім дынамаўская каманда і трэніравалася, і гуляла, і машыну яе тагачаснага ўсемагутнага шэфа Цанавы прывычна пазнавалі ля прыступкаў галоўнай трыбуны, пакуль ён не знік — і, здаецца, яшчэ раней, чым Берыя ў 1953 годзе...

Дык расказаць пра футбол? Няма нічога лягчэйшага. Трэба толькі аддзяліць яго ад усяго астатняга — ад агульнага каларыту і духу зменлівага часу, прыкмет гарадскога побыту, лёсаў мноства людзей, радасцей і нягод узросту, першага і не першага кахання. А як гэта зрабіць?

Хоць дынамаўскі стадыён і пашыраўся, хоць і стаў ён па праву рэспубліканскім, цэнтрам гарадскога футбольнага жыцця заставаўся нейкі час «Харчавік». У той час ужо не было выстаўкі трафейнай нямецкай зброі на вуліцы К. Маркса, ніжэй Дома афіцэраў, дзе стаялі прабітыя савецкімі снарадамі «тыгры», «пантэры» і «фердынанды». Але ў тыя гады яшчэ дэманстраваліся трафейныя фільмы, і самыя любімыя ў нас былі 17-серыйны «Тарзан» з Джоні Вайсмюлерам і «Лёс салдата ў Амерыцы», у якім галоўную ролю

гангстэра Эдзі Бартлета з бляскам іграў Джэймс Кегні... І недзе ў тых самых, здаецца, 50-х, у тым самым Доме афіцэраў упершыню з даваенных часоў выступіў джаз-аркестр заслужанага артыста БССР Эдзі Рознера, які прыехаў з Масквы...

З вясны да позняй восені кожны вечар «Харчавік» поўніўся людзьмі, і кожны вечар ішлі тут запар дзветры гульні — дзяцей, юнакоў і дарослых. Тут на лаўках можна было сустрэць каго хочаце і пра што хочаце даведацца. Гэта быў і стадыён, і ніяк не арганізаваны і таму жывы, непаўторны клуб балельшчыкаў, і месца спатканняў — усё разам. Увогуле тое, без чаго нельга было ўявіць тагачасны лад жыцця горада.

Там, на куп'істым полі стадыёна ў парку імя Горкага, і сыграў я першы раз у сваёй першай юнацкай камандзе, якую трэніраваў Уладзімір Іванавіч Іваноў. Кульгавы пасля ранення на вайне, з кійком і вялікай сеткай з мячамі, ён быў добра знаёмы мне яшчэ з тае пары, калі мы жылі на адной Інтэрнацыянальнай вуліцы, непадалёку ад кінатэатра «Перамога».

І цяпер, пасля яго смерці, мы, былыя яго выхаванцы, пазнаём адзін аднаго ў гарадской мітусні і называем, як і раней, па імёнах, без імя па бацьку... Вось Ігар Дзярбінскі, паўабаронца (хаўбек, паводле англійскай тэрміналогіі, якой прытрымліваўся наш трэнер) — ён цяпер навуковы супрацоўнік акадэмічнага інстытута... Вось Георгій Шадурскі, абаронца, а цяпер кандыдат тэхнічных навук... А вось і іх варатар, аўтар гэтых нататкаў, філолаг і літаратурны крытык, які калісьці ратаваў іх, адбіваючы пенальці, і падводзіў, прапускаючы лёгкі мяч. Усе мы, хоць і любілі Уладзіміра Іванавіча, але займаліся гультаявата, пагаворваючы: «Няхай трэніруецца той, хто гуляць не ўмее».

Што ж, расказваць і далей?

Але няхай бы мне самому хто-небудзь расказаў пра тое, што нас прыцягвала, што вабіла? Мабыць тое, што мы былі менавіта аматарамі гэтай гульні. Яна не была не толькі нашай прафесіяй, але і справай. Мы маглі не прыходзіць на стадыён, калі не хацелася, калі былі занятыя іншым. Але мы не маглі не прыйсці, каб не падвесці каманду, каб не ўзяць рэванш або пакараць якіх-небудзь задавак. Тут давалі сябе адчуць характар, падобная на дваравую або вулічную салідарнасць і смакаванне задавальнення, вострага адчування.

Была нейкая свабода і простасць. І прывычнага ў цяперашняй спартыўнай прэсе выразу «арганізацыя гульні» тады проста ніхто б не зразумеў.

І аднойчы прыехаў у Мінск шведскі аматарскі клуб «Сцюрэ», які аб'ядноўваў работнікаў авіяцыйнай прамысловасці. Яго прынялі на «Дынама». Наша «каманда майстроў» старалася з усіх сіл. Шведы ж здзіўлялі нейкай непрыстойнай легкадумнасцю, нават пасмейваліся са сваіх няўдач і прайгралі, здаецца, з лікам 1 : 6. Мы зразумелі іх пазней, калі яны, пераапрануўшыся пасля гульні, хто з цыгарэтай, хто з люлькаю, вельмі задаволеныя і весела перагаворваючыся, накіроўваліся да рэстарана «Беларусь». Мы зразумелі, дакладней, успомнілі, што гэта сапраўды аматары, і яны былі нам сімпатычныя.

Кожны раз, калі размова заходзіць аб прафесіяналізме і аматарстве, я прыгадваю гэты выпадак.

Працягваць пра футбол?

Але не я адзін пытаюся ў сябе, чаму апошнім часам хадзіць на футбол хочацца ўсё радзей? Дзе, уласна кажучы, свята сённяшняга футбола? Толькі на трыбунах? Часта ўражанне такое, быццам на полі ўсё робіцца з надсадкай, на мяжы нерваў і фізічных сіл.

Тыя, хто павінен гуляць,— працуюць. Ці не таму, што тыя, хто павінен працаваць,— гуляюць? У выніку мы ўсе прайграем.

А паглядзіце на твары трэнераў у час нават звычайнага матча ўнутранага чэмпіянату. Гэта ж нярэдка твары з фільмаў жахаў — такія яны скажоныя выразам страшэннай пакуты і адчаю. Яны перажываюць за сваю каманду? Але, па-першае, чаму ж гэтак доўга сціплыя вынікі? А па-другое, проста страшна ўявіць, які ўжо тады павінен быць выгляд, скажам, у авіяканструктара на выпрабаваннях або ў вайсковага камандзіра на манеўрах. Ды і наогул, калі чалавек так пакутуе, такі няшчасны, што з яго возьмеш?

Але аператары і рэжысёры ўсё даўжэй паказваюць на тэлеэкранах менавіта такія кадры. Мабыць, баяцца, каб, барані божа, не паказаць футбол вельмі вясёлым, несур'ёзным? І вось адзін трэнер хістаецца, нібы ў яго баляць зубы, другі выскоквае з мальбою ў вачах, трэці...

Той, хто памятае леташні вераснёўскі матч сусветных зорак з англійскай зборнай, магчыма, памятае і Лінекера, якога Плаціні і Марадона некалькі разоў выводзілі на вельмі зручныя пазіцыі і які біў або міма, або ў варатара і вяртаўся ні з чым з усмешкай. Сустрэча была паказальная, іграўся спектакль. Але ўсё ж цяжка было ўявіць у такія моманты ўсмешку ў нашых форвардаў у той зборнай свету, хоць нам іх буйна і не паказвалі.

Але ўсё гэта датычыцца «відэараду». А «фанаграма»? Або патэтыка, або сумны каментарый былых ігракоў. А мова! «Злавіў на проціходзе», «гуляў не ў гульца, а ў мяч»... І гэта менавіта адсюль, з футбольнага тэлеэфіру, пайшоў гуляць непісьменны «настрой» (на перамогу) — зусім не беларускае слова, якое азначае не «настроение», а менавіта абстрыжаную рускую «настроенность».

І вось ужо гэты «настр-р-рой», такі нібыта энергічны і рашучы, такі, ведаеце, свойскі, дэмакратычны, чуцён у мове артыстаў, вучоных, пісьменнікаў, настаўнікаў...

Ах, як мы любім націскаць у словах на «р»! Узяць хоць бы ўжо гэтае «тр-рудно, очень тр-рудно», якое так надакучыла ўсім і стала ўжо сакраментальным у нашых каментатараў ад М. Озерава да У. Навіцкага. Ну, а каму лёгка? Шахцёрам? Сталеплавільшчыкам у начную змену? Рыбакам у Атлантыцы?

Аказваецца, не — маладым хлопцам, якія не ведаюць штодзённых чэргаў, праблем з жыллём і прадуктамі, транспартам, гасцініцамі, медыцынскай абслугай, любым дэфіцытам.

Але паглядзіце лепш, «які цудоўны гэты свет» — спорту, вядома, і футбола ў прыватнасці. Хто гэта там з ціхамірнымі ўсмешкамі ідзе напрасткі ад свайго турыстычнага аўтобуса да трапа авіялайнера? А, дык гэта ж зоркі з «Шынніка», віцязі з «Віцязя» — хто не ведае? Сімпатычныя хлопцы, вялікія аматары гульні ў футбол — яны ў вольны ад працы на сваім прадпрыемстве час кіруюцца ў другі горад, на выхадныя, сябе паказаць і на людзей паглядзець...

Праўда, у асобных выпадках сёйтой з такіх маладых людзей, як у цэнтры, так і на месцах, злёгку засмучае, вырашаючы свае асабістыя праблемы вельмі ўжо комплексна. Бывае, што і зацікавяцца, колькі ж яшчэ будзе вядомы футбаліст, кажучы без далікатнасці, спекуляваць «Волгамі» (а не «Запарожцамі», што разыгрываюцца ў латарэі ля паўднёвай трыбуны «Дынама»). Аднак сціхае і гэтая цікавасць, застаецца ў некаторых толькі цікаўнасць: і як толькі вымеркаваў час дзелавы гэты хлопец, прыехаўшы да дзяцей у піянерскі лагер, паказальна згуляўшы з імі перад кінакамерай, «падарыўшы радасць» ад кантакту з самім сабой?

Але прыслухаемся яшчэ раз, як расказваюць пра гульні нашых аматараў мяча на зялёнай траве ў тэлерэпартажах. (Так, аматараў, бо прафесіяналаў пакуль што няма: гэта ўсё студэнты, бачыце, калгаснікі, рабочыя.) А расказваюць жа пра іх нярэдка — даруйце за няўвагу да нюансаў — у тоне ледзь не падлізлівым.

Тое, што ўсім ім наогул неверагодна цяжка, як у гасцях, так і дома, як у пачатку, так і ў канцы сезона,— гэта ўжо ясна ўсім з пялёнак. Але якая гнуткасць лексікі ў рэпарцёраў у канкрэтных выпадках! Дагнаў і збіў саперніка з ног — «не мае рацыі ў эпізодзе», не вельмі, але хуліганяць, штурхаючы і тузаючы за рукі суддзю — «апелююць да арбітра». Як наўмысна кінуўся ў процілеглы ад мяча вугал варотаў — «не здолеў разгадаць». Паслаў мяч партнёру, а не гульцу чужой каманды — «выдатна ўбачыў». Проста не ведае, што рабіць на полі — «не ўвайшоў яшчэ ў гульню».

І ўсё гэта — з такой бояззю гумару, жарту, іроніі, быццам кажуць пра вынікі стыхійнага бедства.

Мы часам забываем, што паведамленне пра вячэрнюю гульню, напрыклад, у Мінску паміж мясцовымі дынамаўцамі і «Гурыяй» з грузінскага гарадка Ланчхуці (а то і «Спартака» з «Дняпром») у заўтрашняй калонцы навін агульнасаюзнай газеты зойме не больш як адзін радок... Такі сапраўдны маштаб таго, што адбылося на фоне падзей сучаснага жыцця, расказаных на старонках нумара. Дык не трэба ствараць ілюзію — і ў нас, і ў спартсменаў — што іхні занятак найважнейшы з усіх. І што пасля крыўды якой-небудзь «зоркі» на крытыку спыніцца транспарт, спыніцца падача электраэнергіі і г. д. (Вось напісалі ж пра Алу Пугачову: «Зорка расперазалася». Пержыла, зноў спявае.) Як кажуць у народзе: «Каб большай бяды не было». Бяда ж не ў тым, што пра футбол у нас часам гавораць як пра хлеб надзённы. А ў тым, што пра сапраўдныя бядоты, вялікія і малыя, яшчэ нядаўна гаварылася так, як можна гаварыць хіба толькі што пра якую-небудзь гульню.

Расказаць пра футбол...

Пазамінулым летам на стадыёне «Дынама» я спусціўся да краю поля і прысеў на нізкай лаўцы за варотамі. Трэніраваўся адэскі «Чарнаморац», які прыехаў тады да нас. Яго варатар, высокі, выдатнага складу, працаваў сумленна. Усё было, як і ў часы нашага юнацтва. Сонца, тугія, са звонам, удары па мячах, белая сетка. Толькі штангі і перакладзіны даўно ўжо не драўляныя, а з жалезных труб. Але гэтак жа, як і дваццаць, як і трыццаць гадоў назад, усе білі па варотах без перашкод, калі хацелі,— як не бывала, не бывае і не будзе ніколі ў гульні.

На трыбунах групкамі сядзелі падлеткі, пакурвалі, чуўся дзявочы смех. Гэта і кінулася ў вочы больш за ўсё. Вось што значыць іншыя часы. Раней у час трэніроўкі сваёй або чужой каманды і юнакі, і дарослыя сцяной, у некалькі радоў, стаялі не толькі за варотамі, але ўздоўж усёй пярэдняй лініі: выкрыкі, жартаўлівыя каментарыі, спробы загаварыць з футбалістамі...

Але да футбола цікавасць цяпер не тая. З'явілася шмат іншых, не менш займальных, але больш зручных, больш камфартабельных забаў. Тэлевізар, дыскатэка, музычныя ансамблі і групы, кафэ, магнітафоны, ролікавыя дошкі, віндсерфінг. Стаў непараўнальна вышэйшы ўзровень жыцця, матэрыяльны і культурны. Выраслі і цэны на футбольныя білеты — непрыкметна, спакваля, але ў цэлым на шмат, асабліва ў 80-я гады. І сотні падлеткаў з флагамі таго ці іншага клуба ходзяць на стадыён не з-за футбола,— яны не гуляюць самі і не любяць яго,— а дзеля вострых адчуванняў, самавыяўлення.

Ці вінаваты ў гэтым футбол? Вядома, не — мяняецца жыццё, мяняюцца захапленні і прыхільнасці. Але калі футбол добры, сапраўдны, калі футбол вялікі — а гэта бывае і цяпер,— ён зноў робіцца той агульнай радасцю, якая аб'ядноўвае людзей, якой заўсёды была святочная дэманстрацыя або салют на плошчы.

Футбол — гульня, якую спыніць нельга.

...Вось маскоўскі спартакавец Ціщчанка са зламанай ключыцай, які па меры сіл падыгрываў сваім на краі поля, але не пакінуў яго ў фінальным — і пераможным! — матчы савецкай зборнай на Алімпіядзе ў Мельбурне, калі правілы не дазвалялі замен.

А вось Яшын, які выглядае, як заўсёды, намнога старэйшым за сваіх таварышаў, прыгнуўшы галаву, ідзе нізкім тунелем да выхаду на поле ў Афінах, паляпваючы па плячах Шасцярнёва і Хурцылаву; праз некалькі мінут пасля Гімна СССР, што гучаў на чужой зямлі з нейкай асабліва прыгожай строгасцю, я ўбачу, стоячы за варотамі «Лёвы», як вераць у яго гэтыя вопытныя байцы, як з надзеяй азіраюцца на яго, выстройваючы «сценку» пры штрафным удары, а ён падбадзёрвае іх нязлымі бурклівамі крыкамі...

Мінаюць гады, адыходзяць старыя і ўзыходзяць новыя зоркі футбола.

Усё ідзе сваім парадкам, шкада толькі, што гэтак хутка ляціць час. Лета мінае, і блікі вячэрняга сонца ляжаць перад намі на пыльным асфальце. І ўжо паглядаючы на гадзіннік, яна кажа:

— Чаго б ты хацеў цяпер больш за ўсё?

Смешна сказаць, але, мабыць, таго ж, што і ў дзесяць гадоў. Таму што тады, жывучы ў Мінску, я гуляў у маскоўскім «Дынама» — разам з Бескавым, Салаўёвым, Карцавым і, вядома ж, Хомічам у варотах — не трэба пытацца, якім чынам, я і сам не ведаў, але не сумняваўся, што гэта было так. І разам са сталічнымі дынамаўцамі я зрабіў тады тое славутае турнэ па Вялікабрытаніі, калі мы перамаглі «Кардыф-Сіці», «Арсенал» і зрабілі нічыю з «Чэлсі» і «Глазга Рэйнджэрс». Ні дома, ні ў школе ніхто нічога пра гэта не ведаў. Хіба што ў дварах, дзе ішлі гарачыя баталіі і зімой, пра нешта здагадваліся. Дык не пра мяне ж аднаго: назвы каманд, прозвішчы славутых футбалістаў былі нашымі назвамі і прозвішчамі. Іх мы ведалі лепш за табліцу множання.

Так, што было — тое было, і няма чаго пра гэта шмат гаварыць...

— ...Ну, тады раскажы пра футбол.

## ПРАДСТАЎЛЯЕМ РЭДАКЦЫЮ



**Анатоль СІДАРЭВІЧ**

**Нямала пішучы пра маладую беларускую літаратуру, я «праславіўся» як «адмоўны» крытык. Як ні дзіўна, але дзякуючы менавіта гэтай акалічнасці на маім стале апынуліся рукапісы шмат чыіх твораў — і паэтычных, і празаічных. Маладыя літаратары неслі мне творы, не прынятыя да друку рэдакцыямі часопісаў і газет. Я ўбачыў, што наша маладая літаратура куды багацейшая і разнастайнейшая, чым яна выглядала на старонках друку. З «адмоўнага» крытыка мне давялося пэўным чынам перакваліфікавацца ў «адваката».**

**Гэта не азначае, аднак, што крытык ува мне памёр. Наадварот. Цяпер, калі я стаў рэдактарам паэзіі і прозы, крытычнае стаўленне да твораў, асабліва да тых, якія прыходзяць у рэдакцыю часопіса, абвострыцца. Пастараюся не забываць і тую ісціну, што рэдактар, калі ён сапраўды клапоціцца аб развіцці літаратуры, мусіць быць адначасова «адвакатам».**

**Ці ўдасца мне спалучыць у сабе гэтыя дзве якасці, пакажа практыка.**



**Сяргей ФІЛІПАЎ,**
мастацкі рэдактар

**«Камень, што коціцца, мохам не абрастае»,— падзяляю я думку Міка Джагера. Яго фатаграфія будзе змешчана ў бліжэйшых нумарах.**





Ян БОХАН

# «ФРАГМЕНТ-87»

**Колькі радкоў пра выстаўку, якую зрабілі ў Мінскім Доме кіно мастакі Ігар і Фёдар КАШКУРЭВІЧЫ з Людмілай РУСАВАЙ**

«Фрагмент-87»— гэта назва самай спрэчнай выстаўкі з усіх, што адбыліся ў Мінску за 1987 год. А калі ўлічыць, што выставак у параўнанні з папярэднім 1986 годам было шмат, дык можна ўявіць сабе напал спрэчак, якія разгортваліся вакол палотнаў, скульптур і поп-артычных аб'ектаў. Асобныя наведнікі прапаноўвалі знішчыць усе творы, а маладых мастакоў «убрать из нашего общества, чтобы они не портили наш прекрасный мир». Называліся нават канкрэтныя адрасы, куды трэба прыбраць творцаў — Амерыка і «іншы свет». Былі выступленні прыхільнікаў творчасці Кашкурэвічаў і Русавай. Толькі мяне як маланкай працяла слова «убрать». Не ведаю, ці былі такія страсці на якой другой выстаўцы, у прыватнасці я не чуў, каб дзе-небудзь прапаноўвалі прыбраць мастака толькі за тое, што ён піша карціны і ладзіць выстаўку. Чуў, як прапаноўвалі закрыць выстаўкі, прапаноўвалі зняць тое ці іншае палатно... Зрэшты, некаторыя выстаўкі так і не пабачылі наведнікаў, як, напрыклад, «1+1+1+1+1+1=6», у стварэнні якой прымалі актыўны ўдзел тыя ж Л. Русава, І. Кашкурэвіч і якую меліся паказаць у Доме літаратара, ды так і не паказалі. Гледачы, прастаяўшы каля дзвярэй колькі гадзін, так і не атрымалі тлумачэнняў ні ад сакратара Саюза мастакоў БССР У. Ц. Гардзеенкі, ні ад кансультанта секцыі маладых мастакоў У. У. Васюка, якія знялі і паставілі карціны каля сцяны, а ўдзельнікам выстаўкі глыбакадумна паказалі пальцам на столь. Выстаўку «1+1+1+1+1+1=6» адкрылі праз месяц у іншым памяшканні, бо, як высветлілася, столь Дома літаратара не мела ніякага дачынення да рашэння, якое прынялі У. У. Васюк з У. Ц. Гардзеенкам. Але гэта ўсё ж такі іншае, гэта не прапанова «убрать».

Адкуль такая адназначнасць? Мне яна, як і стваральнікам «Фрагменту-87», незразумелая. Чалавек, які пісаў такія катэгарычныя словы ў кнізе водгукаў, напэўна, лічыў сябе досыць кампетэнтным, каб выносіць такі прысуд. Думаю, ён і сёння лічыць, што не памыліўся, што меў рацыю.






Ні Ігар Кашкурэвіч, ні Людміла Русава, ні Фёдар Кашкурэвіч ні ў якую Амерыку не збіраюцца. А што ім там рабіць? Усіх трох мастакоў аб'ядноўвае адна думка: сапраўднае мастацтва — не сумяшчальнае з кан'юнктурай. Думка, можа, банальная, але на пэўным этапе станаўлення асобы неабходная кожнаму мастаку. Было вельмі прыемна, што ні ў кнізе водгукаў, ні на абмеркаванні выстаўкі ніводны чалавек не наракаў на мастакоў за кан'юнктурнасць або за недастатковасць прафесіяналізму.

Рабіць даследаванне творчасці Л. Русавай, І. Кашкурэвіча, Ф. Кашкурэвіча дамо нашым мастацтвазнаўцам, няхай яны напішуць сумленны крытычны агляд і распавядуць у грунтоўных спецыялізаваных выданнях пра набыткі і страты мастакоў. А чытачам «Крыніцы», якіх цікавіць стан сучаснага маладога мастацтва, мы даем магчымасць убачыць на рэпрадукцыях творы няхай сабе і спрэчныя, але выкананыя таленавітымі мастакамі, і выказаць свае думкі, уражанні. А той, хто думае, што вернуцца тыя часы, калі можна будзе «убирать» мастакоў, мяркую, моцна памыляецца.

**Ігар КАШКУРЭВІЧ «Нацюрморт»**
**Людміла РУСАВА «Імправізацыя»**
**Фёдар КАШКУРЭВІЧ «Кампазіцыя»**
**Фёдар КАШКУРЭВІЧ «Кампазіцыя»**
**Фёдар КАШКУРЭВІЧ «Кампазіцыя»**
**Ігар КАШКУРЭВІЧ «Нацюрморт»**










**ЖАДАЕМ ПОСПЕХУ!**

Таццяна ЦЮРЫНА

# ПАСТКА



Яны лічаць за лепшае не хадзіць па адным — заўсёды групай. У гэтых кампаній свае законы, сваё разуменне сяброўства, «кодэкс гонару», мода на вопратку, музыку, стыль паводзін. У іхніх паводзінах, у іхняй агрэсіўнасці, у выкліку ўсім і ўсяму нешта палохае. Яны могуць да фанатызму «хварэць» за нейкую спартыўную каманду ці рок-гурт, і гэтае пакланенне перад кумірамі згуртоўвае іх у асаблівы, замкнуты ў сабе свет. На ўмяшанне звонку, на неразуменне гэты свет рэагуе абвострана, хваравіта.

Можа, яны вельмі адзінокія? І штучна падагрэтымі страсцямі спрабуюць кампенсаваць тое, што ім недадаюць дарослыя: духоўнае кантактаванне, хатнюю ўтульнасць, разуменне таго, што яны патрэбныя ў гэтым жыцці? Не ведаю дакладна. Але Мішка па мянушцы Арлекіна з фільма пад умоўнай пакуль што назвай «Пастка-87»— адзінокі. Хоць ён заўсёды ў акружэнні сваёй «каманды». Ён тут лідэр, мае ўладу над равеснікамі, адчувае сваю сілу і значнасць. Толькі вось падзяліцца сваімі радасцямі, згрызотамі і клопатам не мае з кім. Арлекіна становіцца жорсткі — асабліва калі знаёміцца з кампаніяй сваіх равеснікаў — дзецьмі забяспечаных бацькоў, якія пазіраюць на яго звысоку, як на плебея,— і ператвараецца ў «ваўка».

У аснове будучай карціны, якая здымаецца на «Беларусьфільме»,— п'еса журналіста Юрыя Шчакачыхіна «Пастка 46, рост 2», якая вырасла з газетнага нарыса. Пра што яна? Пра непазбежныя памылкі маладосці і пра неабходнасць своечасова ўбачыць мяжу, за якою гэтыя памылкі нельга выправіць. Пра тое, як, баронячы ўласную годнасць, малады чалавек ледзь не стаў забойцам...

— Мы паспрабавалі перавесці ў мастацкую тканіну тое, пра што сёння спрачаюцца, разважаюць педагогі, сацыёлагі, псіхолагі: што робіцца з моладдзю?— кажа пастаноўшчык фільма Валерый Рыбараў.— Кожны з нас праходзіў праз гэта: важна знайсці ў сабе сілы вырвацца з «пастак», якія расстаўляе жыццё. Усведамленне гэтых памылак, сорам, пакуты сумлення ачышчаюць душу. Калі, вядома, яна ёсць...

Прагледваю ў мантажнай знятыя кавалкі фільма. Стары даваенны дом ля чыгункі, камунальныя кватэры, абшарпаныя калідоры, лесвіцы, прахадныя двары. Здымкі ў асноўным у сутонні, таму што жыццё героя стужкі, ягоныя прыгоды выпадаюць на вячэрнія гадзіны, калі ўсё становіцца няпэўным, размытым. Здаецца, рэжысёр бярэ жыццё «кавалкамі» і пераносіць без змяненняў на плёнку. Ролю Арлекіна выконвае артыст Рыжскага тэатра юнага гледача Алег Фамін (гэта яго дэбют у кіно), сяброўку героя — заблуканую ў жыцці дзяўчыну Лену — іграе Святлана Капылова (рэжысёр «адкрыў» яе ў сваёй папярэдняй карціне «Сведка», дзе яна іграла дзетдомаўку пасляваенных гадоў). Гэтыя падлеткі нібыта выйшлі з гарадскога натоўпу, маюць тыповае аблічча тых, хто прымае законы вуліцы за законы чалавечых адносін наогул.

Няпроста раскрыць карэнныя прычыны тых ці іншых з'яў, убачыць за асобным фактам ланцуг грамадскіх адносін. Але рэжысёр В. Рыбараў імкнецца да гэтага ў кожным знятым эпізодзе. Спрабуе зразумець: чаго хоча, ад чаго ўцякае ягоны герой? Спрабуе разглядзець рэшткі нястрачанай чалавечнасці ў Арлекіна. І, здымаючы гэтую трагічную гісторыю, хоча верыць у гэткіх жа «ракавых» хлопчыкаў, як і яго саманадзейны і непуцёвы герой,— у тых, каму пакуль што няма куды падзець сябе, каму ніхто са старэйшых не бярэцца адказаць на іхнія пытанні, сказаць праўду. Тую праўду, якая ачысціла б няпэўныя далягляды.



Юрый ЦЫБІН

# БРЭЙК

## ІМПРАВІЗАЦЫЯ Ў ЛАМАНЫМ РЫТМЕ



... А ці патрэбны нам брэйк?

Што і казаць: заморскае паходжанне новага танца-фаварыта не вельмі радуе. Хоць, з іншага боку, хакей, згадваецца, таксама не ў нас нарадзіўся. Ці, скажам, балет. І не рэжа сёння нам слых, калі вымаўляем: хакей, вальс, балет.

Хто ведае, можа, такі ж будзённы стане і брэйк?

Вопыт падказвае: калі ўжо за што бяромся — бяромся ўсур'ёз.

Ці даўно, здаецца, здзіўлена назіралі за падлеткамі, якія засвойвалі складанасці новага танца на імправізаваных вулічных пляцоўках? А ўжо ходзім у кінатэатры глядзець фільмы з брэйкам і пра брэйк, і не імпартнай —«масфільмаўскай» вытворчасці. Чытаем у газетах матэрыялы пра брэйк-фестывалі, што хваляю коцяцца па краіне. І ўсё гэта адбываецца пад акампанемент размовы энтузіястаў аб неабходнасці стварэння ў краіне адпаведнай федэрацыі,— размовы, якая робіцца ўсё больш гучнаю.

Вялікая справа — энтузіязм!

Дый не такі ўжо ён «не наш», гэты самы «ламаны» танец. Угледзьцеся пільна ў рухі выканаўцаў. Хіба не ўгадваюцца ў іх элементы рускага «пераплясу» ці ўкраінскага гапака?

Нішто, нішто не новае пад сонцам! Шкада толькі, што разумеем гэта чамусьці не адразу. А нешта падобнае было ўжо: гадоў дваццаць — дваццаць пяць назад Захад вярнуў нам моду на «казачок». Цікава, што будзем вытанцоўваць з чарговай падачы яшчэ праз пяць гадоў? Уяўляеце, калі карагод? Дзе ж тады нашы ўласныя ідэі па выкарыстанні нашых жа ўласных — багатых — традыцый!

Гэта, зрэшты, між іншым.

А брэйк, вядома, танец незвычайны. І незвычайнасць гэтая — у мудрагелістым перапляценні элементаў пантамімы, харэаграфіі і акрабатыкі. Ці не паўтары тысячы розных рухаў у яго ў арсенале — такое засвоіць пад сілу не кожнаму. Танец вымагае пэўнай спрытнасці і падрыхтаванасці. Так што не дзіўна, што ён звярнуў на сябе ўвагу спартсменаў і прафесійных выканаўцаў, даў магутны штуршок развіццю спартыўнага танца на нашай эстрадзе!

У іншым накірунку ідзе пошук у брэйкераў-аматараў. Ім шлях эстрадызацыі раўназначны здрадзе — бо адрывае танец ад звыклага асяродку пражывання, ад вуліцы. Нязмушаны, імправізацыйны характар сустрэч-«тусовак», калі кожны можа памерацца сілаю з кожным, адчуўшы радасць самавыяўлення ў коле роўных сабе,— вось што вулічны брэйк-рыцар ставіць вышэй за ўсё. Але нават ён, апантаны прыхільнік чысціні жанру, усведамляе, што ўсякі рух мусіць развівацца. Брэйк перайначваецца: яму надаецца сюжэтны характар (так званы «локінг»), ён злучаецца з рэчытатывам («рэп») і нават з ...асаблівай манераю малявання («графіці»). Ці ўратуе гэта яго ад застою?

Самі выканаўцы прасякнуты аптымізмам: магчымасцей у іх дужа багата! Можна, напрыклад, паставіць танцора на ролікі. Або пасадзіць на веласіпед. У Амерыцы, кажуць, ужо так і робяць, з'явіліся нават спецыяльныя клубы велабрэйкераў.

Зноў кінемся даганяць?







Максім КЛІМКОВІЧ

# ПЕРАМОЖЦЫ

НАВЕЛА *



**Максім любіць казкі з 1958 года. У яго ёсць старое піяніна, над якім вісіць баракальная жырандоля і краявід з Друйскім кляштарам. Такі інтэр'ер, на Максімаву думку, спрыяе літаратурным заняткам.**

**Піша Максім Клімковіч хутка, але, на жаль, асноўная работа інжынера-будаўніка забірае з 1978 года амаль увесь час, а ў суботу і нядзелю ён гуляе з сынам Францішкам.**

**Яшчэ Максім кожную вясну садзіць настуркі на лецішчы.**

Няміра прыўзняўся на ложы і паглядзеў на невялікі куфэрак. Чырвоныя воскавыя пячаткі з каралеўскім гербам трымаліся на ранейшым месцы. Карабель злёгку пагойдвала. У прамакутніку дзвярэй каюты свяцілася мора, муарам пераходзячы ў неба, чарнела колькі цяжарных балясін карабельнай балюстрады. Абапершыся на яе, спінай да Няміры стаяў Барута. Чорны плашч збіўся на бок, аслабаніўшы шаблю ў шырокай пазалочанай похве. Барута стаяў нерухома, расставіўшы ногі ў высокіх, пад самы зрэз плашча ботах з тонкімі масянжовымі шпорамі на венскіх абцасах. Няміра бязгучна апрануўся, наўздагад паправіў валасы і выйшаў на палубу. З-за сіне-зялёнага мыса выходзіў горад: чырвоныя, закураныя вежы, муры, спічастыя дахі над імі, караблі ў прыкрытым дамбай ад хваль порце.

* Часопісны варыянт.

— Ужо?— спытаўся Няміра.

— Карабель заходзіць толькі дзеля нас і гэтага куфэрка,— Барута, не азірнуўшыся, паказаў цераз плячо на дзверы каюты, затым трохі адвярнуў раструб манжэты, прыадкрыўшы рог папяровага пакета, запячатанага такімі ж, што і куфэрак, пячаткамі, і дадаў:

— А таксама з-за гэтага ліста. Калі ўсё будзе добра, карабель забярэ нас на зваротным шляху.

Няміра ўжо не раз чуў тое, што зноў пераказваў Барута, таму слухаў няўважліва і чакаў, калі ён скончыць, каб запытацца пра тое, аб чым падумаў ужо даўно, адразу пасля прапановы ехаць разам па каралеўскім даручэнні да пасла яго каралеўскай міласці ў гэтай краіне — да пана палкоўніка Парэцкага. Няміра яшчэ трохі павагаўся. Памаўчаўшы, загаварыў:

— Цікаўнасць — уласцівасць жанчын, але часам ёй падуладны і мы, асабліва калі даводзіцца рызыкаваць жыццём дзеля чужых інтарэсаў.

— Ты лічыш інтарэсы Рэчы Паспалітай і караля чужымі?

— Я не ведаю, у чым яны, і таму, калі не чужыя, дык, прынамсі, і не мае.

— Яны ў запячатаным куфэрку.

— Мяне не цікавіць, што ў ім, ды і ты, напэўна, гэтага не ведаеш, як, хутчэй за ўсё, не будзе ведаць і Парэцкі, бо яго місія — перадаць куфэрак адрасату, што ўказаны ў лісце. Цікава іншае: чаму менавіта мяне ты абраў у спадарожнікі? Я ж нават не ведаю мовы гэтай краіны. Чаму нам не дазволілі ўзяць з сабой слуг, якія б за свінячы харч цягалі гэты куфэрак да сконy?

Барута нарэшце павярнуўся да Няміры:

— Ведаеш, слугам сапраўды трэба менш плаціць, чым нам, але іх лягчэй і купіць. Няхай гэты куфэрак і досыць лёгкі, каб яго нёс адзін чалавек, але занадта нязручны, каб кожны раз браць з сабой да ветру. Вось чаму мы ўдваіх, а не я сам, кіруемся да Парэцкага. А што той другі, з кім мне несці куфэрак, менавіта ты, дык цябе я ведаю з дзяцінства, а значыць, раней, чым трапіў на каралеўскую службу.

Барута тлумачыў нешта афіцэрам аховы порта, паказваў ім лісты, а Няміра, услухоўваючыся ў незнаёмую гаворку, выхопліваючы з яе рэдкія зразумелыя словы, стаяў на самым краі прычала і разглядаў здрабнелы пасля цеснай каюты куфэрак...

Упарадкаваўшы свае рэчы ў пакоі гатэля, Барута сеў на ложак, а Няміра абапёрся аб край стала і пачаў размінаць зацёкшыя ад сталёвай ручкі куфэрка пальцы.

— Тут мы будзем жыць,— Барута абвёў памяшканне рукой,— каб не замінаць палкоўніку і каб ён не перашкаджаў нам. Але хадзем да Парэцкага, справа перш за ўсё.

Сталёвая ручка зноў упілася ў Няміраву далонь. Ішлі бочнымі вулкамі, падпарадкоўваючыся ламанай лініі ўтворанага камяніцамі калідора. Мінуўшы доўгую закінутую галерэю, выйшлі да невялікага, але на грунтоўныя два паверхі, свежа выбеленага дома, ушчэмленага між кляштарам і ёмістым складам. Куфар апусцілі на каменныя пліты ганка, і Барута нямоцна, але ўпэўнена пагрукаў у квадратныя дзверы, з фортак якіх абыякава ўсміхаліся выразаныя з дрэва галовы анёлаў. Дзверы адчыніў слуга Парэцкага, нізка схіліўся і падаўся быў дакладваць гаспадару, але той ужо з'явіўся наверсе сходаў. Палкоўнік павітаўся, запрасіў гасцей у кабінет, а слугу накіраваў у шынок, каб адтуль прынеслі абед на трох чалавек. Куфэрак грукнуў аб падлогу непадалёку ад масіўнага пісьмовага стала. Рука Баруты кранула манжэту, і з'явіўся ліст. Парэцкі ўрачыста прыняў яго, распячатаў і стаў чытаць, разпораз адрываючыся, каб паглядзець на Няміру. Скончыўшы з чытаннем, ён пачаў распытваць пра рознае: пра нязручнасці падарожжа, пра здароўе караля, канцлера і бацькоў прысутных. Нарэшце дзверы адчыніліся, і адзіны ў доме слуга далажыў, што абед чакае шаноўных паноў у зале...

Яны з'елі ледзь не ўсё, што было на стале, і цяпер пілі чырвонае віно. Гаварылі ў асноўным Парэцкі і Барута.

— Ну, толькі не трэба мне казаць, што людзі засталіся такія, якія яны былі стагоддзяў сем таму,—бліснулі зубы палкоўніка.— І гэта я зараз даваду на нашым прыкладзе. Уявіце сабе,— доўгія вусы Парэцкага пачалі рухацца жвавей,— што цяпер год ад нараджэння Хрыстова нейкі там, ну такі, што мы нават самі не ведаем, які; уявілі — год ёсць, а мы не ведаем, які, хаця людзі не менш радавіты, чым цяпер. Вы прыязджаеце да мяне, ведама ж, не так хутка і лёгка, як сёння. Я пытаюся ў вас: «Хто вы такія, панове, адкуль, у якой справе прыехалі?» Вы кажаце: «Ад князя, пан палкоўнік». І я вам веру не таму, што даверлівы да глупства, а проста нічога лепшага не застаецца. Самае годнае веры слова сказанае: слова напісанага для нас не існуе. А цяперашнім часам ды кажы мне нават пан Барута, якога я добра ведаю, маўляў, яго міласць кароль загадаў зрабіць тое і тое, я не паверу: ліст, ліст, і не абы-які, а толькі з подпісам, з пячаткай, пераканае мяне. Вось розніца паміж намі і продкамі — для іх існавала ўсё, што было сказана, для нас — толькі тое, што напісана.

— Але ёсць яшчэ і друкаванае слова,— сказаў Няміра.

— Тут ужо трохі інакш, яно не проста існуе, яно мацуе вечнасць, святыя рэчы. Па мне, дык трэба было б дазволіць друкаваць толькі святыя кнігі, бо яны ад бога, і законы, бо яны ад каралёў, а тыя ізноў ад бога,— закончыў палкоўнік, зірнуў спачатку на Няміру, потым на Баруту, потым на стол і загадаў слузе прынесці яшчэ віна.

Развіваліся ўжо па цёмнаму. Спачатку муры ўздоўж вуліцы злёгку пагойдвала, як і брук пад нагамі, але свежае паветра неўзабаве паставіла ўсё на свае месцы. Моўчкі выйшлі на невялікую плошчу. Выразны жаночы крык спыніў іх на першых кроках. Трое аднолькава, відаць, у форму, апранутых мужчын стаялі на рагу плошчы. А за іх спінамі чацвёрты трымаў дзяўчыну, апранутую ў цалкам чорную, дарагую аксамітную сукню. Дзяўчына звівалася, то адрываючы ногі ад зямлі, то перагінаючыся напалам, імкнулася вызваліцца. Няміра, павагаўшыся, крануў рукаяць шаблі, Барута прасычэў: «Ідзі і не лезь у чужыя справы». Але руку на эфес паклаў таксама. Напружанасць узрасла. І тут Барута, які хацеў быў пайсці далей, паслізнуўся, нагу панесла ўбок і, каб захаваць раўнавагу, давялося падскочыць, але пачатковага імпэту хапіла, каб яго занесла на тых трох. Яны з бразгатам выхапілі шаблі, і Баруту напаткаў удар у левы бок. Ён пахіснуўся і, абхапіўшы рукой шаблю, рэжучы пальцы, павольна асеў, нават не паспеўшы выцягнуць шаблю з похвы. Тут Чорная, так адразу ахрысціў для сябе Няміра дзяўчыну, скарыстаўшы замяшанне, вырвалася і, аббягаючы Няміру, пацягнула яго за сабой; ён адчуў: біцца супроць чатырох не выпадае — і кінуўся бегчы ўслед за ёй. За спінамі грукацелі восем ботаў. Выбегшы на плошчу, Чорная кінулася пад уваходную арку бліжэйшага дома, Няміра — за ёй, і там яны разам заціхлі, прыкрытыя цемрай. Чацвёра выскачылі на плошчу, гучна саплі і размахвалі шаблямі. Раптам нейкі цень з'явіўся пад суседняй аркай і імкліва знік у бочнай вулачцы, пакідаючы за сабой адчайны тупат. Трое з шаблямі, бы з ланцуга, рынулі за ім, і толькі чацвёрты, маленькі лысаваты чалавечак з кароткімі рукамі, уважліва агледзеў праём аркі; заўважыўшы Няміру, ён адразу ж пачаў крычаць наўздагон сваім таварышам, але тупат паступова сціх.

Тады Няміра выслізнуў з-пад аркі. Удары шабляй былі жахлівыя, выходзіла злосць на недарэчную смерць Баруты. Але бараніўся чалавечак адмыслова. Няміра яшчэ больш раз'ятрана закруціў шабляй. І падцікаваўшы ў адмысловай абароне праціўніка пракол, нават не вельмі моцна секануў па скроні тлустага чалавечка; той яшчэ раз са смешным храбусценнем схапіў паветра, раскінуў кароткія рукі, укленчыў, цела страціла пругкасць і паволі асунулася на брук. Адкаснуўшыся, Няміра адчуў за спінай прысутнасць Чорнай, яна тарганула яго за карункавую манжэту і адступіла ў чорны змрок нішы, толькі працягнутая рука засталася на шэрым святле месячнай ночы. Ніша перакулілася доўгім тунелем пад камяніцай, дзе існавалі толькі гукі асцярожных дыханняў, шолах сукенкі ды вільгаць аслізлых муроў. Потым яны ляцелі праз суцэльныя муры, і тупат ног то імчаў наперадзе, то гнаўся ззаду, то гайдаўся над галовамі. Абцасы яшчэ раз ляснулі дзесьці ў вышыні, і запала ціша. Чорная абаперлася на касы цень карніза, а Няміра зрабіў яшчэ адзін крок наперад. Ён убачыў яе твар зблізку, у вачах стаяла пытанне: што рабіць? Які мог быць адказ, калі ён толькі адзін дзень у гэтым горадзе, не ведаў як след мовы жыхароў і сам прагнуў адказу на тое ж самае пытанне?

Няміра паказаў пальцам на дзяўчыну і на правы бок плошчы, пасля на сябе і на левы бок плошчы, потым пратупаў пальцамі па ценю карніза. Вочы Чорнай зрабіліся ўдвая вузейшыя, твар стаў пагардлівы, але праз імгненне на яго глядзелі акругленыя вочы, у якіх нічога, акрамя адчаю, заўважыць было нельга. Тады Няміра ўзяў Чорную за руку і пайшоў. Дзяўчына, угнуўшы галаў, бязгучна рухалася на паўкроку далей ад мэты, бо ён ужо ведаў, куды ідзе разам з ёй. За калонамі, за месячным святлом, у ценю акрэсліваліся дзверы дома Парэцкага. Няміра паказаў Чорнай — чакаць. Яна млява прытулілася да аблушчанай тынкоўкі. Няміра выйшаў на святло. Ён спыніўся перад зацененымі дзвярыма і ўзняў руку. Першы раз грукнуў нагой, а потым ужо біў і кулакамі, і падкаванымі жалезам наскамі ботаў. Нарэшце на другім паверсе зарыпела аканіца. Няміра крыкнуў падкрэслена на роднай мове:

— Я жадаю бачыць пана палкоўніка Парэцкага. Пільная справа. Я — учарашні Няміра.

— Зараз паспрабую, такі час...

Няміра вярнуўся пад скляпенні галерэі, Чорная нерухома ляжала на каменных плітах ходніка. Ён укленчыў і злёгку сціснуў двума пальцамі тонкія крылы яе носа, Чорная растуліла вусны, зрабіла няроўны ўздых, але вачэй не расплюшчыла.

— Учарашні Няміра, а сённяшні ты хто, га?— прасычэў ён, узяў Чорную на рукі і рушыў да дзвярэй.

У глыбіні перадпакоя стаяў гаспадар з пісталетам ва ўзнятай руцэ.

— Але, я сапраўды бачу, што гэта пан, тлумачэнні заўтра, а цяпер, я разумею, вам патрэбны прытулак, бо наўрад ці пану толькі хацелася пажадаць мне дабранач. Што з паненкай?

— Прытомнасць... страціла...— шэптам прамовіў Няміра.

— Я адчуваю, заўтра мяне чакае цікавая гісторыя,— сказаў гаспадар.

Дзяўчына здрыганулася, расплюшчыла вочы, раптам мёртва абхапіла Няміраву шыю, выкрыкнула доўгую істэрычную фразу, потым павольна апусціла галаву на Нямірава плячо і заплакала. Па дарозе наверх Парэцкі, не азіраючыся, спытаўся:

— Пан ведае, аб чым яна прасіла?

— Думаю, што ведаю.

— Яна прасіла,— сказаў Парэцкі, ігнаруючы яго адказ,— пакінуць вас з ёй сам-насам, у адным пакоі, бо пасля ўсяго, што здарылася гэтай ноччу, яна не давярае больш нікому, акрамя пана. Я адчуваю, пану будзе раніцай больш чаго расказаць мне, чым ёсць у яго цяпер, бо на адну прыгоду стане больш.

Няміру здалося, што палкоўнікава патыліца ўсміхаецца.

Слуга з запаленым кандэлябрам у руцэ прасунуўся наперад. Калі перад рэфлектарамі жырандоляў заіскрыліся агеньчыкі, цемра раздалася па кутках, аслабаніўшы пачварных памераў пакой, пасярэдзіне якога стаяў суадносны толькі з гэтым пакоем, але ніяк не з чалавекам, ложак пад высачэзным закураным балдахінам. Слуга выйшаў. Парэцкі падміргнуў спачатку левым вокам, пасля правым, на заканчэнне абодвума разам і сказаў:

— Ну што ж, дабранач, гэта... да раніцы.

Крутануўся на абцасах і пругка пайшоў, спяшаючы за сферай святла ў канцы калідора.

Чорная, ледзь толькі цела яе сутыкнулася з ложкам, безуладна расчапіла рукі, прамармытала колькі абыякавых слоў чужой незразумелай мовы і ўбіла твар у падушку, не аказваючы болей ні руху, ні гуку. Можа, яна спала, а можа, і не, гэта ўжо не цікавіла Няміру. Яму не хацелася ні думаць, ні спаць. Патрэбны быў нейкі занятак, і ён знайшоў яго, пачаўшы агледаць пакой. Той быў падобны больш да сямейнай спальні, чым да памяшкання для гасцей. І таму дзіўнай была прысутнасць у ім, менавіта прысутнасць, а не наяўнасць бязважкага венецыянскага крэселка перад гэткім жа легкадумным столікам, на цёмнай паверхні якога ляжалі аркушы чыстай паперы і свінцовы аловак. Няміра сеў на крэсла, узяў аловак і лёгкімі рухамі пачаў крэсліць на адным з аркушаў. Хутка стала вымалёўвацца постаць маленькага чалавечка, які застаўся самотна ляжаць на трохкутніку плошчы. Твару яго Няміра не мог успомніць, таму і на паперы той ляжаў, падставіўшы небу плечы. З вопраткай было лягчэй, вельмі ўжо яна была не цывільная. «Гэта выдае на форму, і не абы-якую, а на форму асабістай аховы каго-небудзь адтуль, з высокіх сфер,— разважаў Няміра, падмалёўваючы скураную камізэльку,— а гэта дрэнна і азначае, што раніцай мяне не толькі не перастануць шукаць, а будуць рабіць гэта яшчэ больш пільна, а можа, і плённа. Хто-небудзь успомніць мой характэрны выгляд. Вось тут яны і з'явяцца да Парэцкага: ваш суайчыннік... дзяржаўны злодзей... Прыкідвацца, што не ведае, аб кім ідзе гаворка, палкоўнік не стане, асабліва, калі пабачыць Барутаў труп, а вось казаць пра мой начны візіт не наважыцца, аднак апошняе пры ўмове, што мяне і Чорнай тут ужо не будзе. Таму на самым золку, ледзь толькі на вуліцах з'явяцца людзі, трэба пераапрануцца памясцоваму — спадзяюся, сёе-тое ў Парэцкага знойдзецца — і як мага хутчэй уцякаць адсюль, спачатку ў порт, а адтуль як-небудзь на радзіму». Няміра ўспомніў пра Чорную. «А ёй скажу пачакаць мяне дзе-небудзь, маўляў, усё добра будзе, а сам... Няхай чакае. Сёння ёй магло быць і горай»,— дадаў ён амаль з нянавісцю, сам не заўважыўшы, як для яго з ночы паміж днём учарашнім і заўтрашнім узнік трэці дзень — сённяшні, асабістая ўласнасць яго ды яшчэ Чорнай. Палова аркуша засталася чыстая, і, каб запоўніць гэтую пустэчу, ён размашыста, наўскос накрэсліў: «Epistola non erubescit» * і намаляваў вакол воблака.

Няміра згасіў свечкі, потым, як быў, скінуўшы толькі боты, лёг на коўдру за добрыя чатыры футы ад Чорнай. Трохі павагаўшыся, паклаў шаблю паміж сабою і ёю. Думалася пра тое, што хутка ён вернецца на радзіму і забудзе і сённяшні дзень, як сон, што зараз прысніць. Павольна закружляў балдахін над галавою, і ўжо на мяжы сну і явы самі сабой скlаліся і адразу ж рассыпаліся словы: «Таго наогул не было, аб чым не ведае ніхто. Забудзься тых, з кім разам быў, і ў новы дзень ідзі адзін».

Прачнуўся Няміра раптоўна, пры добрай памяці, дасканала ведаючы, што здарылася ўчора і дзе ён цяпер. Ранішняе святло калыхалася ў пакоі. Чорнай не было. Шабля ляжала на падлозе. А ў дзвярах стаяў Парэцкі, часта лыпаючы вачыма. Ён нахабна прыглядаўся да Няміры.

— Як прабавілі ноч?— спытаў палкоўнік, знарок ужываючы множны лік.— Здаецца, я ўгадаў жаданні і стварыў усе ўмовы, каб...— Палкоўнік падміргнуў.— Але лепей, калі пан мне раскажа ўсё па чарзе, усю сваю гісторыю, там унізе, пасля снядання.

— Дзякуй пану за клопат,— сказаў Няміра, ужо стоячы каля ложка і прымацоўваючы шаблю.— Зведаўшы панскую гасціннасць, я наважуся прасіць яшчэ аб адным: мне трэба пераапрануцца. Спадзяюся, што-небудзь мне ў пана знойдзецца, а маю вопратку я раіў бы спаліць.

— Добра,— сказаў Парэцкі,— я загадаю, каб сюды прынеслі неабходнае, а на мой конт хвалявацца не трэба, пра здарэнні гэтай ночы праз мяне не даведаецца ніхто. Слова. Дарэчы, дзе паненка? Але ж гэта таксама частка панскай гісторыі,— спахапіўся Парэцкі,— і я даведаюся пра гэта ў свой час, пасля сняданка, а зараз не буду перашкаджаць пану.

Няміра пераапрануўся і падумаў: як добра — Чорная пайшла сама. Ён агледзеў пакой: не, не магла яна проста так знікнуць, не пакінуўшы ніякага напамінку. Ён чакаў знайсці пярсцёнак, насоўку з манаграмай, у горшым разе манету, толькі не запіску, якая ляжала, прыціснутая свінцовым алоўкам да матавай паверхні стала. Няміра ўглядаўся ў незнаёмыя спалучэнні знаёмых літар. Зычныя дваіліся, над галоснымі дзе-нідзе стаялі кропкі. Адзінае чытэльнае было толькі лацінскае «Epistola non erubescit», перапісанае Чорнай з адваротнага боку аркуша. Ён двойчы перагнуў паперу і засунуў яе за камізэльку, адзінае, што пакінуў ад старой вопраткі: там за падваротамі былі зашытыя колькі залатых манет.

За сняданнем палкоўнік не спяшаўся. Няміра чакаў яго, ужо добра страціўшы цярпенне.

— Прашу ў мой кабінет!— прагучала нарэшце.

— Дзякуй пану,—Няміра падняўся і надаў свайму твару выраз найглыбейшай пачцівасці.

— Ну, я чакаю панскай гісторыі,— па-сапраўднаму зацікаўленыя вочы глядзелі неміргаючы.

Падчас апавядання палкоўнік то змрачнеў, то ўсміхаўся, то спачувальна хітаў галавой і нават пачаў быў падскокваць у крэсле, калі Няміра закруціў у паветры пустой рукой, узнаўляючы начное фехтаванне. Парэцкі з хвіліну маўчаў, яўна засмучаны не столькі смерцю Баруты, колькі адсутнасцю амурнай прыгоды ў другой частцы гісторыі.

— Шкада, шкада. Барута быў сапраўдны шляхціц, і такая смерць, нават не паспеў выцягнуць шаблю. А пан дагэтуль не ведае, кім была і куды знікла раніцай дзяўчына?— нарэшце з недаверам запытаў ён.

— Так, але, думаю, пан дапаможа мне тут. Вось ліст. Я ж не ведаю мовы...

Няміра перадаў ліст Парэцкаму, той разгарнуў і пачаў чытаць.

— Тут напісана, што ліст прызначаны толькі пану і нікому іншаму чытаць яго нельга. Што рабіць далей?— з-за абрэзу аркуша запытальна глянулі вочы Парэцкага. Няміра перасмыкнуў плячыма: «Не вывучаць жа,— маўляў,— з-за гэтага тутэйшую мову».

Вочы зноў схаваліся за абрэзам аркуша, але не надоўга. Хутка яны з'явіліся зноў, але ў іх больш не было звычайнай цікаўнасці — Няміру разглядалі, быццам першы раз у жыцці бачылі. Палкоўнік яшчэ раз глянуў у ліст, але хутка, відаць, нават не дачытаўшы да канца, скамечыў і шпурнуў яго па стале Няміру і, сунімаючы пачварную моц, што пачала трэсці ўсё яго цела, прамовіў:

— Прэч з майго дому... І гэты чалавек можа называць сябе шляхціцам, каб болей ніколі...

Няміра, які не чакаў такой метамарфозы, ледзь паспеў прамовіць:

— Пан палкоўнік, я не разумею, калі там што напісана, дык гэта мана, я расказаў усё.

Парэцкі яшчэ больш змяніўся з твару і ўжо захроп:

— Калі сам не пойдзеш, дык выкіну,— і пачаў прабірацца ўздоўж стала. Можна было схапіцца за шаблю, але Няміра не адчуваў у сябе на гэта права, таму ён ускочыў у дзверы, па дарозе кінуўшы:

— Усё яшчэ высвятліцца, пан палкоўнік...

Наўздагон яму паляцела нешта цяжкое, відаць, крэсла. Ударылася аб філёнгу і па частках загрукацела па пакоі. Высвятляць цяпер што-небудзь з Парэцкім было небяспечна, і Няміра праз, дзякуй богу, прыадчыненыя дзверы выскачыў на вуліцу пад скляпенні галерэі, адтуль скіраваў у правулак. Упэўніўшыся, што пагоні няма, спыніўся, расціснуў кулак і асцярожна расправіў ліст скамечанай паперы, доўга ўглядаўся ў незразумелыя спалучэнні літар, шукаючы, дзе там схаваны пачварны сэнс. Нічога не атрымлівалася. Тады Няміра склаў паперу ўдвая, і тая зноў знікла за крысом камізэлькі. «Усё склалася не так ужо і дрэнна,— падумаў ён.— Што трэба было мне ад Парэцкага, я атрымаў, а развітацца прыйшлося б так ці інакш». Няміра мацнуў кашалёк з грашыма, які вісеў на поясе, і наўскос плошчы скіраваў да гавані, дзе ў маленькіх прыўзбярэжных шынках можна было сустрэць каго-небудзь з караблёў, якія стаялі ў порце.

*Заканчэнне будзе.*

**Мастак С. ПЧАЛІНЦАЎ**

---

* Лісты не чырванеюць (лац.).



**Шаноўныя чытачы, а ці не паспрабаваць вам сілы ў дэтэктыўным жанры! Як вы думаеце, што напісала Чорная ў сваёй запісцы Няміру! Дашліце ў рэдакцыю вашы варыянты запіскі. Можа, яны змогуць змяніць сюжэт аповесці! Лепшыя з іх абяцаем надрукаваць.**



Свой першы верш Алесь Бадак склаў у шасцігадовым узросце ў 1971 годзе. Той верш Алесь забыў, але спадзяецца, што ўспомніць.

Вершы, якія тут друкуюцца, напісаны ім у час службы ў арміі.

Калі Алесь, сённяшні студэнт універсітэта, спыняецца пагаманіць са знаёмымі ў падземных мінскіх пераходах, дык абавязкова згадае родныя мясціны на Брэстчыне.

Алесь БАДАК

## РАЗМОВА

Стукне туфлікаў пара пад вечар
Аб падлогу за шэрай сцяной.
Асцярожна адчыняцца дзверы,
І дзяўчына ўвойдзе ў пакой.

— Я гарбаты зраблю табе, будзеш?—
Папытаю ў госці сваёй.
— З мяне сёння смяяліся людзі,
З беларускае мовы маёй.

— Ну і як ты, пакуль што жывая?—
З весялосцю скажу напускной.—
Знаеш, розныя людзі бываюць.
Я да гэтага звыкся даўно.

Будзе жыць наша мова, і болей
Аптымізму насі ў душы.
— Замаўчы!— яна мовіць
журботна.—
Замаўчы, я прашу, замаўчы!

Апушчу на плячо яе голаў:
— Я не знаю, чым боль твой суняць...
І падступіць
пад самае горла
Цішыня,
цішыня,
цішыня...

● ● ●

Доўгія салдацкія дарогі
Горбяцца пад лаянкай і ботамі.
Пылу слуп, як воблака, пад ногі,
Каб мякчэй ступалі мы з табою.

На прывале цішыня цяжкая.
Упадзе салдат у сум мурожны.
Да шчакі прытуліцца чужая
Палявая кветка асцярожна.

## СТАРАЯ ХАТА

Хатка
старою шпакоўняй
з трыма сумнымі цьмянымі ваконцамі
тулілася на ўскрайку вёскі
сваім трухлявым бокам
да маладой бярозы.
Хата замінала ёй
цягнуцца ўгору;
крывіліся галіны,
не ў сілах вырвацца
на свабоду.
Пахіліўся ствол.

Бачылі,
як павольна, але ўпарта
дрэва расло.
Не бачылі,
як павольна ўрастала,
апускалася ў зямлю хатка.

Зрэдку з дзвярэй
выходзіла старэнькая бабуля
даць япручку
ці прынесці дроў,
каб выпаліць у печы.
Часам з надворку
няслося ў свет
слабое гаханне сякеры
альбо незадаволенае, нуднае
вішчанне пілы.

Нікога не чапала старая,
ні з кім не сварылася
(хіба адно
са сваім япручком),
нікуды не хадзіла,
нібыта цуралася людзей.
І людзі таксама
не чапалі яе.
Трава раз'ела
сцежку з надворка на вуліцу,
не чапаную людскімі крокамі.

Дужэла бяроза.
Апускалася хата.
Усё радзей і радзей
паказвалася на свет бабуля.

Шумела бяроза.
Апускалася хата.
Вось ужо па самыя вокны
асунулася ў зямлю.

Вось ужо гарбаціўся
адзін толькі дах.
Нарэшце і яго не стала.
Засталася пустэча і —
бяроза.

Спахапіліся:
як дапусцілі,
каб гэтулькі зямлі
пуставала!

Пасеялі,
можа, канюшыну,
можа, пшаніцу.

Шумела бяроза.

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ

**Чаму ў школе «сшыбаюць» («трасуць», «цібраць», «пазычаюць», забіраюць) грошы?**

**Смешнае пытанне!**

**Вядома, што на «пазычаны» пятак, ці максімум пятнаццаць капеек віна або папярос не набудзеш. Але ж можна купіць булачку, ці шклянку соку, ці ў суседняй краме — марожанае.**

**А забіраем грошы таму, што бацькі не даюць або дома забываешся ўзяць.**

**Як трэсці «клапу» («клоп»— дробная медная манета)? Вельмі проста. Становішся каля ўваходу ў сталоўку. Вылоўліваеш за каўнер — з агульнай масы тых, што ідуць у сталоўку, якога-небудзь белагаловага трэцякласніка і цягнеш да сябе. Сурова пытаешся:**

**— Грошы ёсць?**

**Той звініць поўнымі кішэнямі, але кажа:**

**— Няма.**

**Даеш яму лёгкую аплявуху і далікатна цікавішся:**

**— У кішэні ў цябе, пэўна, ключы звіняць?**

**Трэцякласнік азіраецца па баках. Бачыць, што настаўнікаў паблізу няма. Дае дзесяць капеек і «клеіць пяту» (уцякае, «змываецца», «саслізгвае адсюль па паркеце»).**

**Вось так і стаіш хвілін дзесяць каля ўваходу, «абкладаеш падаткам меншае насельніцтва». Саромеешся забіраць грошы толькі тады, калі непадалёк з'яўляюцца настаўнікі. На дзяжурных увагі не звяртаеш.**

**Потым заходзіш у сталоўку і бачыш велізарную чаргу. Адпіхваеш у чарзе якога-небудзь пяцікласніка і купляеш булачку.**

**Адыходзіш і пазіраеш, як таўкуцца ў чарзе (нехта б'е некага локцем у жывот). Слухаеш крыкі:**

**— Прапусціце дзіцятка без чаргі!!!**

**— Ты ў мяне хутка спінаю наперад хадзіць пачнеш!**

**Пасля можна ісці за вугал, курыць або мяньціць языком з сябрукамі. Можна спазніцца на ўрок, сказаўшы, што быў у сталоўцы і не пачуў званка.**

**Але памылковая думка, быццам грошы забіраюць толькі ў малых. Пэўна ж, не будзеш забіраць дзесяць капеек у амбала-пераростка, які можа ў адзін момант цябе «засцяліць» (чытай: пакласці адным ударам). Адзін мой аднакласнік не забірае грошай у малых, бо лічыць гэта «ніжэй сваёй годнасці». Ён забірае грошы ў сваіх равеснікаў. Аднагодкі ведаюць, што ён можа злавіць іх пасля ўрокаў і зрабіць «радыяцыю» (выдзіраць з галавы валасы). І тады ўжо дзесяць капеек не ўратуюць, а спатрэбяцца дзесяць рублёў. Часам бываюць дні, калі не паспееш за перапынак натрэсці грошай. У такіх экстрэмальных выпадках бяжыш у калідор, ловіш любога пяцікласніка і забіраеш у яго булачку. Калі не шкада, можаш пакінуць і яму кавалачак.**

**Ад голаду ў нашай школцы ніхто не пакутаваў. Але прыемна зарабіць права на кавалак хлеба ўласнымі рукамі.**

**Ягор КОНЕЎ,**
вучань дзесятага класа,
г. Мінск



# НАМ ЗДОРАВА Ў ШКОЛЕ!







**Фота Цімура ГРЫБА,**
вучня дзесятага класа,
г. Мінск

НАДЗВЫЧАЙНАЯ СІТУАЦЫЯ

# ЗАБОЙСТВА

Твар у яе круглы, і калі яна ўсміхаецца, ледзь-ледзь растуліўшы пухлыя вусны, звяртаеш увагу на яе вільготныя белыя зубы. Яны як зярняты ў ядраным кукурузным пачатку. Адзін да аднаго. Зрэшты, можа, асаблівая ўвага да яе зубоў з'явілася ў мяне таму, што ўсё хацелася і хацелася знайсці штосьці непрыемнае, настроіць сябе на якуюсьці пэўную хвалю, хоць неяк зразумець гэты ашаламляльны кантраст — яе і тое, што яна зрабіла. Так і хацелася, гледзячы на гэтую ўсмешку, пераканаць сябе — вось, маўляў, які драпежны выскал! Мае рацыю Ламброза, вонкавае абліччa мае непасрэднае дачыненне да матывацыі ўчынкаў...

Але ўсмешка павольна, бы кругі на вадзе пасля таго, як кінеш туды каменьчык, згасае — і перада мною, узнервавана цярэбячы край накінутае на плечы цёплае хусткі, сядзіць самая звычайная дзяўчына. Сустрэнь такую на вуліцы, у тралейбусе, вока звычна адзначыць стандартную прычоску, не затрымаецца на маладзёжнай уніформе — джынсы, куртка. Вось толькі хустка...

Нашая размова доўжыцца, голас у дзяўчыны глухі, нейкі безабліччны, і фразы чамусьці будуе яна дзіўна. Пачынае са «зразумейце правільна».

«Зразумейце правільна, што я хацела сабе шчасця...»

«Зразумейце правільна, што так склаліся акалічнасці...»

А як на самай справе скаліся акалічнасці?

Летась у лістападзе ёй споўнілася дваццаць два гады, і ў вёсцы, куды яна рэгулярна наведвалася разы са два на месяц, суседкі казалі яе маці:

— Пашчасціла табе, Міхайлаўна, дачка вунь як добра ў горадзе абжылася.

Маці не хавала радасці. Дый праўда было чым ганарыцца перад суседкамі. У адной сын працуе тут жа, у калгасе, шафёрам, у другой дачка кожнае раніцы, на самым золку, тупае ў гумавых ботах да фермы. Што тут добрага? А яе дачка ўладкавалася машыністкаю, чысценькая, апрануытая бы лялька — ну як тут не ўкалоць суседзяў у жартаўлівай нават гамонцы, маўляў, адным лёс у зямлі калупацца, а іншыя створаны для высокага палёту. І, шчыльна напакаваўшы дачцэ сумку, маці любіла прайсціся з ёю па самай сярэдзіне вуліцы, выводзячы яе да аўтобуснага прыпынку. Няхай усе бачаць. Праўда, сама дачка, пабываўшы дома і сустрэўшы былых суседак, пашчабятаўшы з імі пра тое, як усё цудоўна ў яе жыцці, ад'язджала з вёскі з благім настроем. У горадзе яе чакаў ложак у інтэрнаце, рэдкія выхады ў кіно, і пакутлівыя, да злога румянцу на твары, стаянні каля сценкі на дыскатэцы.

Іншы раз ёй здавалася, што ўсё гэтае ўбогае жыццё, зусім не падобнае на тое, што ўяўлялася пасля васьмігодкі, калі яна прыехала ў горад, раптоўна пераменіцца. Трэба толькі знайсці вартага жаніха. Колькі ж хітрыкаў і прыніжэнняў выпала на год актыўнага пошуку! Але першы эксперымент быў няўдалы. Муж быў хлопец просты, і яго размовы наконт каапэратыўнай кватэры хутка надакучылі ёй: усяго хацелася неадкладна, а наўрад ці гэты малады рабочы быў здольны ў бліжэйшай будучыні ажыццявіць яе запаветную мару — прыдбаць машыну і павезці куды-небудзь каханую, пажадана на Каўказ. Чамусьці вояж у Сочы быў мяжою яе жаданняў, але калі зайшла размова пра летні адпачынак, муж «легкадумна» сказаў:

— Маханем летам да маіх. На гаспадарцы дапаможам і адпачнем заадно.

Яна пайшла ад яго ў інтэрнат і стала чакаць другога мужа. Дакладней, кандыдата на яго месца, якога гэтым разам яна сабралася выбраць з ліку больш годных, з такіх, што ўмеюць сучасна мысліць. Аднак справа пасоўвалася досыць беспаспяхова. Мікалай ахвотна затрымліваўся ў яе ў пакоі па суботах, калі раз'язджаліся сяброўкі, але распісвацца не спяшаўся. І тады ў яе выспеў план.

Прыйшоўшы на працу, яна адвяла ўбок каляжанку, вядомую аматарку перамыць чужыя костачкі, і, надаўшы твару самы сур'ёзны выгляд, сказала:

— Я цяжарная...

Тая вылупіла вочы:

— Ды ты што?

— Супакойся, усё як мае быць. Выходжу замуж. Ты бачыла яго. Статны такі, Мікалай.

Навіна хутка абляцела ўстанову, а потым і інтэрнат. І, як усялякая навіна, з часам састарэла, затое адносіны да машыністкі сталі іншыя. Паважлівыя, сур'ёзныя. Жанчыны ў аддзеле пачалі прыдумваць розныя сюрпрызы, якія вельмі нават могуць спатрэбіцца будучай маме. Хтосьці з захапленнем пацікавіўся на вушка: «Як гэта яна так умее захаваць фігуру?» Бо ўжо і лета набліжаецца, а яна што чарацінка. Вадэвільная фраза «Муж даведваецца апошні...» у дадзеным выпадку поўнасцю стасуецца да Мікалая. Калі яна сказала яму пра тое, што хутка ён стане бацькам, ён спярша разгубіўся, але потым, расчулены, пацалаваў яе і адразу ж стаў будаваць планы блізкага вяселля.

Будзённая гісторыя. Але, на жаль, адна дэталь рабіла яе непадобнаю на звычайныя расказы пра шчаслівых жаніха і нявесту. Зімою нявеста прастудзілася, і дактары параілі падлячыцца, перш чым заводзіць дзіця. Але гэта азначала б: здзяйсненне мары перабрацца з абрыдлага інтэрната ў Мікалаеву кватэру адсунецца на некалькі месяцаў. Навошта чакаць? І яна абдумала план.

...Маладая жанчына беражліва паставіла ў цянёк дзіцячую каляску, папраівла коўдрачку, усміхнулася, гледзячы на дзяўчынку, што так соладка спала, і таропка зайшла ў магазін «Тавары жанчынам». Калі праз дзесяць хвілін вярнулася, дзяўчынкі ў калясцы не было.

...Яна сядзіць, хутаючыся ў цёплую хустку, і цягне гэтае сваё любімае «зразумейце правільна».

«Зразумейце правільна, што я не хацела рабіць той жанчыне непрыемнасцей». «Зразумейце правільна, што мы з Мікалаем ужо аб усім дамовіліся, і я павінна была прад'явіць яму дзіця».

Яна так і сказала: «прад'явіць».

...Узяўшы з каляскі дзяўчынку, яна хутка падышла да «Жыгулёў», што стаялі непадалёк, папрасіла шафёра давезці яе да аўтапарку. Гледзячы на яе ўстрывожаны твар, уладальнік «Жыгулёў» не стаў ні пра што распытваць, дапамог уладкавацца на заднім сядзенні і рвануў з месца.

А праз хвіліну каля пустой каляскі пачуўся поўны адчаю крык.

На таксі яна прыехала дамоў. Маці стала ўвіхацца вакол дзяўчынкі, а потым выклікала па тэлефоне «хуткую дапамогу». Гэта было часткаю плана.

«Хуткая» прыехала ўначы, не стала ні аб чым пытацца. У прыёмным пакоі яна зарэгістравала дзяўчынку пад іменем Ізольда (потым яна казала мне: «Майце на ўвазе, што мне вельмі падабаецца імя Ізольда»), назвала прозвішча Мікалая і, пасля таго як нагаварыла нечага ўстрывожанаму дзяжурнаму доктару, была праведзена ў палату.

Пакуль што ўсё ішло паводле плана. Ёсць першы афіцыйны дакумент — рэгістрацыйны запіс, а потым, нават калі ў дзіцяці нічога не знойдуць, можна будзе ўзяць выпіску і атрымаць у сельсавеце якую-небудзь паперу з пячаткай. Хто там стане разбірацца? Падмахнуць — і ўсё, свае ж людзі.

Аднак раніцою з рэпрадуктара, што стаяў у куце палаты, яна пачула зварот міліцыі да жыхароў вобласці. Яна пахаладзела: шукалі. І, сяк-так захутаўшы дзяўчынку, выскачыла з акна і пабегла да аўтобуснага прыпынку. Гісторыю хваробы яна неўпрыкметку выцягнула з тумбачкі дзяжурнае сястры.

— Зразумейце правільна, што мне было страшна.

...Дзіця, змучанае ўсёй гэтай сумятнёю, заходзілася ад крыку. Гэта было ёй гідка, дый небяспечна, бо хто-небудзь мог падысці, пацікавіцца. І, азірнуўшыся, убачыўшы, што нікога няма, яна распавіла дзяўчынку, узяла яе за ножку, акуратна размахнулася і некалькі разоў ударыла галавою аб сасну. Потым захутала дзяўчынку ў коўдру, прыехала да сястры, пераапранулася і паехала да маці ў вёску. Не дайшоўшы да дому, падышла да старога меліярацыйнага канала, кінула «скрутак» у застаялую зялёную ваду і пайшла дамоў. За гарбатаю расказала пра ўсё маці.

— Ты, дачка, дрэнна зрабіла,— разважліва сказала ёй маці.— Трэба закапаць. А то яшчэ наткнецца хто-небудзь.

— Ага!

Калі сцямнела, яны прыйшлі да канала... Твар у дзяўчынкі быў знявечаны кіпцюрамі барсука. Вылаяўшы нахабных барсукоў (звяр'ё!), яны выкапалі яму, а потым утрамбавалі нагамі.

— Зразумейце правільна, я думала, што ўсё будзе інакш.

Яна кажа яшчэ нешта, я гляджу на яе твар, на пульхныя вусны і не магу не зрабіць дзіўнага параўнання: мне здаецца, што перада мною бязлітасны танк, звараны з брані разважлівасці і абыякавасці. Яна ўжо супакоілася і дзелавіта расказвае пра сваё новае жыццё-быццё, пра тое, што затрымліваюць перадачы, што пазнаёмілася з добрай дзяўчынай, якую судзілі за крадзеж, што яны сябруюць, разам харчуюцца, што тэрмін яна атрымала, вядома, вялікі, але нічога, усё будзе нармальна:

— Майце на ўвазе, я ж зусім маладая...

І, уявіце, пры ўсім гэтым — ніякіх эмоцый! Не ўдалося задуманае, ну што ж, бывае, хоць і шкада, усё ж так адмыслова выходзіла! Быў бы муж, была б даўно жаданая паездка на Каўказ. А Ізольда?..

Яна на секунду задумваецца. Што?.. А, дзяўчынка!

Ізольду (ёй, дарэчы, быў усяго адзін месяц) яна збіралася здаць у Дом дзіцяці. Чаму? Ды проста таму, што няма ў ёй патрэбы. Пасля завяла б, вядома, сваіх дзяцей. Яна расказвае пра ўсё гэта, нават не бравіруючы, а зусім натуральна, як пра даўно вырашанае. Дэманструючы дзелавую хватку. І практычнасць. Яна не бачыць нічога благога ў ілюзіі лёгкай падмены: жыццё ёсць жыццё. Замест Ізольды быў бы іншы чалавек. Хоць вось як бязладна здарылася. Бывае...

Мне хочацца крыкнуць ёй, што кожны Чалавек унікальны, што няма нічога даражэйшага за чалавечае жыццё, што ўсё шчасце свету нявартае аднае дзіцячае слязінкі, але яна ўсміхаецца і кажа:

— Зразумейце правільна, што я разлічваю на вашу дапамогу. Вы ж журналіст.

Я змяніў у гэтай гісторыі некаторыя імёны. Але яе імя мяняць не стаў, хоць тут гучыць яно як блюзнерства. Яе завуць Любоў.

**Павел ЯКУБОВІЧ**

ПРАДСТАЎЛЯЕМ РЭДАКЦЫЮ

**Фельетаністы — людзі папулярныя, але ў адным яны адчуваюць сябе абдзеленымі: іх цураюцца рэпарцёры. Таму пераходжу на самаабслугу. На пачатак (для асабліва пільных) анкета: не быў, не прыцягваўся, з'яўляюся, не, ніколі ў жыцці.**

**А цяпер аўтаінтэрв'ю.**

**Пытанне: Як складваюцца вашы адносіны з вашымі героямі?**

**Адказ: Па-рознаму. Пра некаторыя адносіны лепей не ўспамінаць.**

**Пытанне: Ці хочаце вы, каб ваш сын стаў фельетаністам?**

**Адказ: Не, бо гэтая прафесія шкодная для здароўя.**

**— У такім разе дазвольце пажадаць вам здароўя!**

**— Дзякуй! Усё астатняе мы заробім!**





Юрый БУДЗЬКО

# ПУБЛІКА, ЯКАЯ КРЫЧАЛА САМА ПА САБЕ

**Пасля наведвання маладзёжных вечароў адпачынку**

Чаму пра публіку? Усё надта проста. Напэўна, як і ўсе, хто ў свой час «перахварэў» першымі пласцінкамі «Дып Пёрпл» і «Лэд Зэпэлін», аўтар без асаблівага энтузіязму ставіцца да сучасных выканаўцаў «цяжкага металу», не без падстаў лічачы іх эпігонамі. Але як чалавека, да року неабыякавага, аўтара не можа не хваляваць праблема «металістаў», пра якіх сёння гэтак многа гавораць.

Дык вось, адным пагодлівым зімовым вечарам я прыйшоў на маладзёжны вечар у Дом культуры імя... Зрэшты, не мае значэння: тое, пра што пойдзе гаворка, з'ява дастаткова масавая, і, як потым высветліў аўтар, магло адбыцца і адбываецца пастаянна ў многіх ДК. Такім чынам, маладзёжны вечар, гэта значыць канцэрт самадзейнасці, а дакладней самадзейных рок-гуртоў. Не сказаць, каб падпольных,— гурты гэтыя не тояцца, канцэрты даюць,— але ў той жа час афіцыйна яшчэ не прызнаных, і многім з іх папулярнасць яшчэ доўга не будзе пагражаць.

Але ўсё ж цікавасць да іх досыць вялікая.

Гавораць і пішуць пра гэтых музыкантаў шмат, і ўвага зразумелая — па-першае, гэта рэзерв, з якога чэрпае сілы вялікая эстрада,— прыгадаем «Брава» і «Ронда», якія прыйшлі зусім нядаўна з радоў аматараў, або больш старую «Машыну часу». Па-другое, нават застаючыся ў статусе аматарскіх, яркія групы «Акварыум» або «Аліса» робяць пэўны (і спрыяльны) уплыў на прафесійную эстраду. Яшчэ пару гадоў назад, калі ўсе гэтыя гурты ўжо былі, а некаторыя былі вельмі даўно, якаясьці інфармацыя пра іх адсутнічала абсалютна. І, безумоўна, менавіта з гэтай прычыны тое, што адбывалася наўкол падобных «вечароў самадзейнасці», дакладней было б назваць не «цікавасць», а «ажыятаж». На маёй памяці яшчэ свежыя ўспаміны пра наведанне некалькі год назад у Маскве канцэрта тады яшчэ мала вядомага Уладзіміра Кузьміна з гуртам «Дынамік». Здабыць запрашальныя і даведацца пра сам канцэрт удалося толькі дзякуючы маскоўскім знаёмым з ліку тых, якія «усё ведаюць». Ніякіх аб'яў пра канцэрт не было, але ўсё ж за гадзіну да пачатку і за квартал да ўваходу ў тыпавы маскоўскі ДК за лішнім білетам паляваў вялікі натоўп.

А ў зале іранічны Валодзя Кузьмін выплюхваў імклівыя пасажы з гітары, скрыпкі і саксафона. Публіка слухала і супержывала, шчаслівая ўжо ад таго, што яна тут, а не там, за перагародкай. Ну, і паслухаць было што.

І вось я зноў у Маскве і, памятаючы пра той вечар, на гэты канцэрт прыйшоў загадзя. Раскіслая гразь — расталы снег — роўным слоем пакрывала падлогу каля кас. Двое юнакоў, дэманструючы еўрапейскую раскаванасць і свабоду ад забабонаў, спакойна курылі, паўлежачы ў гразі, напаўголасу абмяркоўваючы мясцовыя «хэвіметалічныя» навіны. Дама гадоў пятнаццаці з баявой расфарбоўкай на твары і ў лахманах, якія некалі былі, напэўна, джынсовым касцюмам, размаўляла па тэлефоне-аўтамаце. У руцэ ў яе таксама дымілася «беламорына». Болей у фае нікога не было. З абрыўкаў размовы я зразумеў, што канцэрт не адмянілі («Боб, я прыйду позна, у нас сёння сэйшн...»). Касірка абыякава аддзяліла ад некранутага пачка білет. Не разумеючы — можа, рок страціў ужо папулярнасць?— я выйшаў на вуліцу і пераканаўся, што афіша, якая паведамляла пра канцэрт гуртаў «Клон» і «99%», на месцы. Потым ціха ўзрадаваўся, што паслухаць адзін з вядучых маскоўскіх гуртаў у стылі «цяжкі метал» не стала праблемай. Праз паўгадзіны ў фае з'явіліся першыя гледачы. О, гэта было цікавае відовішча! Я з задавальненнем адзначыў, што сцверджанне, нібыта ўсе паклоннікі і выканаўцы «цяжмета» адзяваюцца ў скурана-металічную уніформу — няпраўда. Колькі тут было выдумкі! Ад школьнай формы з какетліва прыладжаным ланцужком у тым месцы, дзе звычайна бывае камсамольскі значок, да неверагодных куртак, на якіх заклёпак і маланак было больш, чым матэрыі. У сімвалах і з дэталёвым узнаўленнем шрыфту былі прадстаўлены ўсе вядучыя «цяжкаметалічныя гурты» свету. З'яўленне новых фігур у фае нагадвала выхад манекеншчыц на памост у час паказу мод. Увайшоўшы, кожны даваў магчымасць разгледзець сябе і адначасова пільным позіркам ацэньваў тых, хто прыйшоў раней.

Пяройдзем, аднак, да канцэрта. Першым выступаў гурт «Клон». Вядучы аб'явіў, што будзе выканана сюіта паводле матываў вядомай кнігі Льюіса Кэрала. Загучаў эпічны ўступ, гітарыст пачаў чытаць даволі доўгі тэкст. У зале захоўвалася атмасфера фае. Народ прагульваўся, гучна перагаворваючыся. Сентыментальныя балады нікога не кранalі. Троху падбадзёрыўшыся на рок-н-роле, публіка павярнула была галовы ў бок сцэны, але зразумеўшы, што гэта быў толькі эпізод, канчаткова страціла цікавасць да таго, што адбывалася. Вялікімі групамі «металісты» пачалі выходзіць у буфет. Хлопцы ў маім радзе дружна ўлегліся спаць. Толькі некалькі крыкуноў ніяк не маглі супакоіцца і скандзіравалі: «Не гань метал!». Гэта было крыху дзіўна, бо на сцэне было не так ужо і сумна. Клавішнік паказаў, што ён нядрэнна знаёмы з манерай ігры Рыка Уэйкмана, а гітарыст — Марка Ноплера. Форма сюіты была знойдзена ўдала — выканаўцы маглі прадэманстраваць сваю музычную эрудыцыю. Тут былі фрагменты і рэгэй, і старога хард-рока а ля «Дып Пёрпл», і джаз-рок. Нельга сказаць, што ўсё было дрэнна, зусім не. Музыканты стараліся з усяе сілы хоць неяк разварушыць залу, хоць іх шоу заключалася ў паўтарэнні вядомых з вокладак заходніх пласцінак пастаў.

Але зала сумавала. Было зразумела, што ўсе чакаюць другога аддзялення. Справа ад мяне ішла гарачая спрэчка знаўцаў пра тое, ці будзе сёння выкананы стары шлягер «Збор металалому», прычым абодва бакі праявілі добрую дасведчанасць у рэпертуары, біяграфіі і стылі групы «99%».

І вось яны з'явіліся. Адзетыя ў той самай манеры, але з меншай вынаходлівасцю, чым маладыя людзі ў зале. Вылучаўся толькі вакаліст. У чорным балахоне на манер казачнага ведзьмара, на шыі з дзесятак рознакаліберных ланцугоў і пацеркаў, з тварам, выпацканым грымам (лоб заліты чырвонай фарбай і цераз твар па дыяганалі чорная паласа). Скакаў ён так, што міжволі падумалася пра балет. Адкуль толькі ўзяліся рэзервы ў старэнькіх чэшскіх калонках! У адказ на першы ж акорд пераможна зараўла зала, ды так, што музыкантаў проста не стала чуваць. Гледачы ўскочылі на ногі. Мне за сваё жыццё даводзілася бываць на розных канцэртах, але гэты аказаўся першым, які ад пачатку да канца давялося слухаць стоячы. Інакш проста нічога не было відаць. А гэта быў выключны спектакль. Не на сцэне, у зале. Гледачы падзяліліся на тры групы. Першыя імітавалі гітарыстаў і раз'юшана білі па ўяўных струнах, другія былі клавішнікамі, а трэцяя група, натуральна, уяўляла сабой барабаншчыкаў. Спявалі ўсе. Усе прымалі якіясьці ненатуральныя паставы. Відовішча было проста фантастычнае. Мне здавалася, што нават самі музыканты з цікавасцю ўглядаюцца са сцэны ў залу. Двое хлопцаў з палаючымі вачыма селі на парэнчы балкона, звесіўшы ногі ўніз. Іх проста калаціла, і было ясна, што яны непазбежна сарвуцца ўніз. Жыццё абодвум выратавала міліцыя (адзіны момант, дарэчы, калі міліцыя перашкодзіла гледачам весяліцца — два міліцыянеры знаходзіліся ў зале ўвесь час, але на тое, што адбывалася, глядзелі зусім бязуважліва, з чаго я зразумеў, што «металічныя» канцэрты праходзяць у гэтым клубе рэгулярна).

Канцэрт працягваўся. Танцавалі на крэслах, танцавалі, забраўшыся суседу на плечы. Пара ў «ненармальна» нармальных касцюмах, захоўваючы спакой, паднялася і зноў села, але ўжо на спінкі крэслаў.

Нарэшце ўсё скончылася. Але што характэрна, ніхто не пабег у гардэроб — у фае сталі ўтварацца вялікія і малыя гурткі, дзе жыва дзяліліся ўражаннямі. Мне было цікава пачуць думкі пра выступленне ансамбля. Рэплікі былі, аднак, трохі іншага плана:

— Ух ты, я так крычаў, што голас страціў...

— А ў мяне вуха баліць, што было да калонкі павернута...

— Ну мы і далі...

Але я так і не пачуў ніводнай слушнай заўвагі пра канцэрт. Вось такі дзіўны парадокс, публіка абмяркоўвала не музыкантаў, а... сябе, сваё выступленне.

Напрошваецца лагічная выснова. Можа, таму і стаў такі папулярны «металічны» рок, што прыхільнікі могуць яго не толькі любіць, а выказаць у ім сваё «я»? Падумайце толькі, якая прастора для творчасці, для самавыяўлення: пошук і стварэнне касцюма, прычоскі, таямнічыя шматзначныя жэсты рукамі, свая мова, поўная замежных слоў, прыгожыя эмблемы,— гэткае баявое таварыства, куды прымаюць толькі сапраўдных суровых мужчын, а наўкол — варожая стыхія. Іх не любяць газеты і настаўнікі, прахожыя абыходзяць бокам, равеснікі паважаюць, і ўсе звяртаюць на іх увагу. Залічаны ў «металісты» адчувае сябе ледзь не членам якогасьці тайнага таварыства тыпу масонскай ложы.

А музыка? Гм, музыка... Сярод «металістаў» той, хто ведае назвы 20—25 груп, ужо карыстаецца аўтарытэтам знаўцы, хоць не бывае, каб ён усе іх чуў. З запісамі вялікія праблемы. Большасць, зазвычай, сваю адукацыю ў року заканчвае праслухоўваннем дзвюх-трох стужак найгоршай якасці на разбітым касетніку аднакласніка. Якія там могуць быць пытанні пра тэксты— дай бог музыку праслухаць! І хіба гэта мае нейкае значэнне, калі прычоскі, касцюмы... Таму на пытанне пра музыку «металіст» шчасліва закоціць вочы, растапырыць два пальцы і скажа «Ка-а-айф!».

Справа, мне здаецца, не ў тым, добры ці дрэнны «цяжмет» як музычны стыль — урэшце, гэта справа густу. Тое, што маладыя людзі, якія ходзяць на падобныя канцэрты, у самім жанры разбіраюцца не вельмі,— гэта не маё павярхоўнае назіранне, а правераны факт. Ім проста вельмі неабходна мець і адстойваць нешта сваё: у 60-я гады яны (мы) змагаліся за права насіць вузкія штаны, у 70-я — клёш і доўгія валасы, цяпер вось —«пеўнеў грэбень» і скураны ашыйнік з заклёпкамі. Трэба, ну проста неабходна самавыявіцца і самазацвердзіцца. Мэты, праўда, драбнаватыя, але разуменне гэтага прыходзіць потым...

А цяпер пытанне сабе, нам: наколькі ўсё гэта дрэнна? Вядома, кожная эмблема з англійскімі літарамі на куртцы ў падлетка — гэта маленькае паражэнне ў ідэалагічнай барацьбе. А калі б там была эмблема «99%»? (Няма такой эмблемы, не прыдумаў ніхто; каб стварыць яркі лагатып, патрэбны талковы мастак.) Ці насілі б? Упэўнены! Тыя, хто быў у зале, тыя насілі б. Тое, што яны скандзіравалі: «Мы даём краіне метал», вядома, не высокая паэзія, але ўсё ж па-руску. А значыць, ужо невялікі рэванш у тым самым змаганні — я так разумею. Што з гэтага вынікае? Спакойна чакаць, пакуль падрастуць і паразумнеюць, стануць «нармальныя»? Не варта: так можна і пралічыцца і прайграць змаганне зусім — ужо занадта шмат у гэтым стылі злавесных сімвалаў і іншамоўных куміраў. Забараняць, вядома, не варта — перш за ўсё таму, што гэта зусім бескарысна. Трэба шукаць альтэрнатыву, нешта сваё, тым больш, што «свайго» ёсць нямала. Паболей бы музыкі добрай і рознай, спецыялізаваны часопіс і спецыяльную перадачу. Вядома, калі прапагандаваць тое лепшае, а ў «цяжкім метале», як і ў любым іншым стылі, лепшае абавязкова прысутнічае побач з горшым. А музыканты з «працэнтаў», атрымаўшы запрашэнне ад тэлебачання, думаю, вельмі сур'ёзна перагледзяць свой рэпертуар, перш чым прапанаваць нешта мільённаму слухачу. Прынамсі яны прапанавалі свой варыянт баўлення вольнага часу тым маладым людзям, якіх мы не здолелі нічым захапіць. Няхай танцуюць, скандзіруюць «Рок над Масквой», трацяць лішкі энергіі, гэта ўсё ж лепей, чым сядзець у падвалах і прыставаць да прахожых. Усе яны непазбежна пасталеюць: хто зоймецца праблемамі больш сур'ёзнымі, а ў некага, мабыць, з гэтага пачнецца вялікая любоў да музыкі...

* * *

Пасля канцэрта ля ўваходу ў метро я ўбачыў вялікую групу хлопцаў-старшакласнікаў. Яны згуртаваліся паміж тэлефонамі-аўтаматамі, замінаючы людзям заходзіць у метро, натужна гучна смяяліся, спрабуючы выдаць сум за весялосць. Хапіла аднаго позірку, каб зразумець, што мёрзнуць яны тут ужо не першую гадзіну і што ім абсалютна няма чым сябе заняць. І я нечакана для самога сябе падумаў: «Ужо лепш бы вы прыйшлі на канцэрт!».

## ТЭЛЕТАЙП

**З поспехам прайшлі ў краінах Заходняй Еўропы гастролі англійскага вакаліста і кампазітара Дэвіда Боўі (турнэ называлася «Гастролі Шклянога Павука 1987» — па назве адной з кампазіцый апошняга альбома Боўі). Музычная крытыка адзначае, акрамя ўласна музычнай часткі канцэртаў, якія вылучаюцца, як звычайна, высокім прафесіяналізмам выканання і цікавым песенным матэрыялам, прывабнасць відовішча ўсіх выступленняў Боўі. Сцэна аздаблялася дзівоснымі дэкарацыямі, над якімі навісаў муляж павука. Гледачы, якія сядзелі на апошніх радах, маглі сачыць за ўсім, што адбывалася, на вялізным тэлеэкране, які размяшчаўся непадалёк ад сцэны.**

**На канцэртах, што працягваліся каля дзвюх гадзін, Боўі выконваў па 25 кампазіцый, сярод якіх песні з яго апошняга альбома «Ніколі не падводзь мяне», і «баявікі» мінулых гадоў, такія, як «Кітаянка», «Мода», «Кахаючы чужынца», «Давай патанцуем». Усяго Боўі мяркуе даць каля 100 канцэртаў у самых розных кутках свету.**

**Гітарыст Джон Норэм, які выступаў да лістапада 1986 года разам са шведскай групай «Еўропа», закончыў работу над сваёй сольнай пласцінкай. У запісе пласцінкі прынялі ўдзел бас-гітарыст Марсэль Якабс, барабаншчык Петэр Хермансан і вакаліст Еран Эдман. Усе кампазіцыі альбома напісаў сам 23-гадовы гітарыст са Стакгольма.**

**Нядаўна на прылаўках магазінаў з'явіўся новы альбом Майкла Джэксана, які з нецярпеннем чакалі як шматлікія прыхільнікі амерыканскага музыканта, так і музычная крытыка. Альбом мае назву «Бэд» («Дрэнна»), у ім змешчаны 10 кампазіцый. Восем з іх напісаны самім Джэксанам. У запісе дыска бралі ўдзел такія вядомыя музыканты, як Стыві Уандэр, Джымі Сміт, Стыві Стывенс, а таксама вельмі вядомая цяпер група «Ран Ды-Эм-Сі». Альбом прадзюсіраваў Куінсі Джоўнс (прадзюсер папярэдняга альбома Джэксана «Трылер»). У музычнай прэсе ЗША ўзніклі спрэчкі наконт таго, ці зможа новы альбом паўтарыць гіганцкі камерцыйны поспех «Трылера» (на сённяшні дзень прададзена каля 38 мільёнаў копій гэтай пласцінкі), але нават першыя водгукі гавораць пра тое, што ў музычных адносінах альбом наўрад ці можна назваць надта ўдалым. З асаблівай заклапочанасцю за навінамі з магазінаў грампласцінак сочыць і фірма «Пепсі-Кола», якая падпісала з Майклам Джэксанам кантракт на круглую суму ў 10 мільёнаў долараў, за якую ён згадзіўся зняцца ў ролiку, што рэкламуе прадукцыю гэтай фірмы. Згодна з кантрактам «Пепсі-Коле» таксама належаць усе прыбыткі ад продажу аднаго з будучых сінглаў Джэксана.**

**Найбольш папулярнай пласцінкай у еўрапейскіх краінах, а таксама ў Злучаных Штатах Амерыкі з'яўляецца цяпер альбом, які выпусцілі з нагоды 25-годдзя адной з самых вядомых фірм грамзапісу «Айлэнд» («Востраў»). На пласцінцы сабраныя кампазіцыі музыкантаў, якія запісваліся на гэтай фірме ў розны час: Боба Марлі, Кэта Стывенса, Кіда Крэола, Роберта Палмэра, Стыва Уінвуда, Грэйс Джоўнс, Джуліяна Коўпа, груп «Фры», «Трэфік», «Роксі М'юзік», «Фрэнкі Гоўз ту Холівуд».**

**Новым вакалістам групы «Эксэпт» стаў амерыканец Роб Эрмітыдж. Былога свайго вакаліста Уда Дзіркшнайдэра ўдзельнікі групы папрасілі пайсці ад іх «па музычных прычынах».**

**У верасні 1987 года ў Лос-Анжэлесе адбыўся «Канцэрт міру епіскапа Туту», які мае такую назву ў гонар паўднёваафрыкан-**



Яраслаў КАМЕНСКІ

# Бонда

Бонда — доля (частка, мера), бочка, хлеб, мера зямлі і рок-гурт «Бонда».

Заснаваны рок-гурт «Бонда» ў 1985 годзе студэнтамі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. «Бонда» выконвае музыку для моладзі, але, як сцвярджаюць музыканты, наша аўдыторыя павінна мець мінімальную дасведчанасць пра стан сучаснай рок-культуры. Асноўны жанр, у якім працуе рок-гурт,— песня.

Муравалі камяніцу —
Будавалі хмарачос.
Са званіцай і байніцай
Рылі студню да нябёс.

А мы ўсё глядзелі
Праз сваё акно,
Праз сваё акно.

Такімі словамі пачынаецца адна з апошніх песень — «Вежа». Мяркуючы нават па гэтых радках, можна ўявіць, што рок-гурт «Бонда» шукае свой шлях не толькі ў музыцы, але і ў тэкстах. Горад, а калі канкрэтызаваць, Мінск, для «Бонды» не толькі месца жыхарства, але і аб'ект натхнення. Дый як можа не натхняць горад, апеты Янкам Купалам і Піменам Панчанкам?

Спявае «Бонда» па-беларуску. «Мы імкнемся ўнесці свой уклад у стварэнне урбаністычнага фальклору,— кажа кіраўнік рок-гурту Іван Маркаў.— Мы звярталіся да лепшых узораў польскай і амерыканскай рок-музыкі, але заўсёды захоўвалі ўласны твар. Можна спрачацца, ці наш гэта твар, ці павінен ён быць менавіта такі, ці адрозніваемся мы ад польскіх рок-музык толькі мовай, на якой спяваем... Спрачайцеся, калі ласка, а мы будзем працаваць над нашым трэцім магнітафонным альбомам з кідкай назваю — «Проста ў твар».

Рок-гурт «Бонда» выступае ў наступным складзе:

лідэр-гітарыст — Іван Маркаў (кіраўнік),
бас-гітарыст — Сяржук Краўчанка,
ударныя — Сяргей Кныш,
лідэр-вакал — Ігар Варашкевіч,
гітарыст — Вячаслаў Корань,
гармонік — Георгій Воўчак.

«Бонда» працуе, яе выступленні запісваюць на тэлебачанні і перадаюць па радыё. Пра «Бонду» пішуць газеты і згадваюць часопісы, часам з'яўляюцца ў друку і здымкі ўдзельнікаў гурта. Усё цудоўна! Што яшчэ трэба? А трэба, як высветлілася з гутаркі, шмат. Патрэбна лепшая акустычная апаратура, яе няма і няма за што набыць. Трэба зрабіць якасныя запісы, бо на тэлебачанні і радыё «круцяць» толькі чатыры песні «Бонды». З рэпетыцыйнай залай справы таксама ідуць не лепшым чынам. Карацей, рок-гурт «Бонда» на сённяшні дзень знаходзіцца ў даволі цяжкіх умовах. Як змяніць сітуацыю? Як стаць прафесійным калектывам і не патануць у грашовых калямузычных вірах? Над гэтым пытаннем задумваюцца і кіраўнік, і ўсе астатнія музыканты. Калі ніхто не звярнуў увагі на «Бонду», дык, можа, група і не патрэбная? Але ўвагу звярнулі: Мінску патрэбны інтэлігентны, гарадскі, прафесійны рок-ансамбль, які ў супрацоўніцтве з маладымі паэтамі змог бы адлюстраваць праблемы сучаснай гарадской моладзі. На маю думку, у «Бонды» ёсць усе дадзеныя, каб стаць у будучым добрым прафесійным калектывам і перамагчы цяжкасці. Думаю, што і адказныя за стан музычнага мастацтва не будуць падобныя на герояў песні «Вежа»:

Дзе вы былі на той час?
Мы назіралі гэта праз акно
Праз сваё акно.

**скага епіскапа Дэзманда Туту, што атрымаў Нобелеўскую прэмію міру. Канцэрт быў арганізаваны камітэтам «Артысты супраць апартэіду», які ўзначальвае вядомы амерыканскі музыкант Літл Стывен. У ім прынялі ўдзел шматлікія зоркі рок-музыкі, у тым ліку і Пол Сайман.**

**Вялікі канцэрт меў мэтай збор сродкаў у дапамогу маладым паўднёваафрыканцам з нябелым колерам скуры, якія пакутуюць у турмах ПАР, прайшоў таксама ў амерыканскім горадзе Мілуокі. Сярод яго ўдзельнікаў: Уітні Х'юстан, Пол Сайман, «Бэнглз», «Біч Бойз», «Чыкага», «Д'юрэн, Д'юрэн», «Брус Хорнбі энд зэ Рэйндж».**

**У час канцэрту ў Ліверпулі ў рамках турнэ, адметнымі рысамі якога сталі бясконцыя бойкі і скандалы, удзельнік групы «Бісці Бойз» («Лютыя хлопцы») Эдэм Гаравіц, які выступае пад псеўданімам Эд-Рок, шпурнуў у гледачоў бляшанку піва і параніў адну дзяўчыну. Канцэрт быў адразу спынены, і Эдэма адправілі ў паліцэйскі ўчастак. Пасля таго як музыкант унёс задатак у 10 000 фунтаў стэрлінгаў, ён быў выпушчаны на волю, аднак яго чакае суд.**

**Філ Колінз вырашыў працягваць кар'еру кінаакцёра, якая пачалася з ролі ў адной з серый тэлесерыяла «Маямі Вайс». На гэты раз яму прапанавалі ролю ў фільме пра Бастэра Эдвардса, бандыта, які ўчыніў «рабаўніцтва стагоддзя» — нападзенне на цягнік, што вёз вельмі вялікую суму грошай. Цікава, што адначасова Філ застаецца лідэрам групы «Джэнэсіс», працуе над сваім сольным альбомам, піша музыку і прадзюсіруе іншых музыкантаў.**

**Прэстыжны універсітэт у штаце Канэктыкут (ЗША) надаў яму годнасць ганаровага доктара «за асобыя выдатныя дасягненні».**

**Не так даўно музыканты групы «Мотлі Кру» («Каманда Мотлі») былі выкліканы ў суд. Маці адной з тых, хто захапляецца імі, узбудзіла іск супраць групы, абвінаваціўшы яе ў тым, што з-за моцнага гучання музыкі ў час канцэрта ў яе дачкі пагоршыўся слых.**




# РОК-СЛОЎНІК «КРЫНІЦЫ»

Ансамбль «Бітлз», які ўзнёсся ў 1963 годзе на музычны Алімп, вывеў за сабою цэлае пакаленне маладых музыкантаў. На працягу толькі года на брытанскай эстрадзе з'явілася больш за дзесятак новых прозвішчаў, ды якіх: «Ролінг Стоўнз», «Ху», «Мудзі Блюз», «Холіз»... Сярод гэтых выканаўцаў быў таксама ансамбль, пра які сёння згадваюць рэдка,— група «Кінкс» («Дзівацтвы»).

Дык вось, у 1964 годзе музыканты «Кінкс» прыдумалі прыём, які пры ўсёй сваёй звычайнасці ўздзейнічаў на публіку ашаламляльна. Музыканты проста сталі іграць адзін і той самы матыў, які паўтараўся ва унісон трыма гітарамі. Уражанне было незвычайна моцнае (па тым часе, вядома). Менавіта кампазіцыі «Кінкс», як лічаць знаўцы, паклалі пачатак фармаванню стылю «хэві мэтал». Далей эстафету падхапіла другая брытанская група — «Айран Батэрфляй» («Жалезны матылёк»). У 1967 годзе «Матылёк» запісаў пласцінку, якая так і называлася — «Хэві». На ёй была 20-хвілінная кампазіцыя, якая, мяркуючы па ўсім, уяўляла сабой сапраўдны «цяжкі метал» — на працягу ўсёй п'есы бясконца гучаў адзін і той самы «цяжкі» рыф бас-гітары. Для многіх музыка «Айран Батэрфляй» стала літаральна адкрыццём. У прыватнасці, не без уплыву «Жалезнага матылька» прыдумаў сабе назву ансамбль, які пасля найбольш спрыяў пашырэнню новага стылю ва ўсім свеце. Гэта група «Лэд Зэпэлін» («Свінцовы дырыжабль») — у назве такое ж неверагоднае спалучэнне цяжкага і лёгкага.

Са з'яўленнем у продажы першых пласцінак «Лэд Зэпэлін» сталі паўсюдна пераймаць, як «Бітлз» у 60-я гады. Аднак прафесіяналізм «Лэд Зэпэлін» быў настолькі высокі, што параўнацца з ансамблем, пэўна, не змог ніхто. Гэтая група, адна з нешматлікіх у року, ніколі не спынялася на знойдзеным, з кожнаю пласцінкаю мянялася і ўдасканальвалася. Пазбегнуць самаплагіяту музыкантам дапамаглі сур'ёзныя адносіны да блюзу і фолк-музыкі.

Амаль адначасова з «Лэд Зэпэлін» на сцэну выйшла яшчэ адна група, якая стала заканадаўцам мод,— «Дып Пёрпл» («Цёмны пурпур»). У гэтых музыкантаў асаблівае гучанне дасягалася дзякуючы незвычайнаму спалучэнню «класічнага» аргана і імклівай электрагітары. У «Лэд Зэпэлін» і «Дып Пёрпл» ігралі музыку хуткую, рэзкую, якая суправаджалася віртуознай гітараю і вельмі высокім, замала не крыкам, вакалам.

Тады яшчэ, у 1969 годзе, калі з'явіліся гэтыя групы, на рок-фестывалі ў Атланце музычны крытык Лестэр Бэнгс, знаходзячыся пад уплывам ігры Марка Фарнэра, гітарыста групы «Грэнд Фанк», у сваім артыкуле ўсклікнуў: «О, гэта проста цяжкі метал!»

Удалы выраз даў назву ўсяму накірунку, хаця спачатку музыканты крыўдавалі, што іх творчасць асацыіравалася з цяжкай прамысловасцю, а «Ілюстраваная энцыклапедыя року» 1970 года адзначала, што мода на «хэві-мэтал» праходзіць...

Як паказала гісторыя, мода троху затрымалася. З'явіліся новыя выканаўцы, якія змаглі знайсці ў гэтай музыцы нешта новае, сваё: «Слэйд», «Назарэт», «Блэк Сабат», «Юрая Хіп». У гэты перыяд музыканты найбольш цесна адчувалі сваю сувязь з аўдыторыяй. Будучы пераважна выхадцамі з рабочых сем'яў, яны спявалі пра тое, што хвалявала юнакоў з іх асяроддзя. Іхняя музыка была простая, зразумелая, шчырая, захапляла дынамікай і гукавой магутнасцю, часта мела і сацыяльную накіраванасць. Пад'ём, аднак, працягваўся нядоўга.

У 1973 годзе новыя пласцінкі цяжкага року, як зазвычай, паўтаралі ў асноўным раней знойдзеныя прыёмы. З'явілася вялізная колькасць адкрыта пераймальных, эпігонскіх груп. Тое, што зусім нядаўна здавалася знаходкаю, распаўсюджанае тысячамі выканаўцаў, стала штампам. Таму не дзіўна, што шмат увагі пачалі надаваць розным немузычным аспектам выступленняў: з'явіліся «Кіс» з іх размаляванымі тварамі, змрочныя, містычныя тэксты.

Пакуль на двары была шумлівая эра «дыска», «металісты» адышлі ў цень. Некаторыя нават змянілі стыль. Але, відаць, насычаныя салодкай музыкай гледачы захацелі больш вострых адчуванняў. У пачатку 80-х гадоў цікавасць да цяжкага року ўзрасла з падвоенай сілай. З'явіліся і новыя імёны. Выканаўцаў стала так многа, што для адрознення «метал» пачалі дзяліць на падплыні. Характэрна, што прыкметы гэтага падзелу — не музычныя. «Блэк-мэтал» аб'ядноўвае выканаўцаў, схільных да ўсялякай містыкі і д'ябальшчыны ў тэкстах. Заснавальнікам тут стаў ансамбль «Блэк Сабат» і яго «гатычны» рок. «Трэш-мэтал» («трэш» — смецце) уяўляе сабой ухіл у бок разнастайных візуальных эфектаў, бліскучага шоу. Першыя спробы гэтага накірунку ў свой час паказалі музыканты «Кіс». «Спід-мэтал» — музыка асабліва хуткая і магутная. Спецыяльныя «хэві-металічныя» часопісы, якіх так шмат з'явілася апошнім часам, вызначаюць яшчэ добрыя паўтара дзесятка накірункаў, зрэшты, досыць умоўных.

Сярод велізарнай арміі музыкантаў, якія іграюць «хэві-мэтал», сваім майстэрствам вызначаюцца нямногія. Наш кароткі слоўнік, хочацца верыць, дапаможа вам арыентавацца ў гэтым моры музыкі. Чакаем, што вашы лісты ў сваю чаргу падкажуць нам, пра каго вы хацелі б прачытаць на старонках часопіса.

## ГУМАР

Сяргей БУЛЫГА

# БЕ-МАЖОР

*БАЙКА Ў ПРОЗЕ*

Так ужо здарылася, што ў вялікім аркестры знікла дырыжорская палачка. Укралі яе ці зламалі, выкінулі ці яна сама ўцякла — мы пра гэта шмат думаць не будзем, а станем перад фактам: няма палачкі!

Спярша была збянтэжанасць, інакш кажучы — музычная паўза. Цішыня ў аркестровую яму спусцілася, роспач струны агарнула. Сядзяць інструменты, адно на аднаго з бояззю пазіраюць — і ні гу-гу. Хіба што балалаечка ўсё роўна як бразне, бібікне фагот, валторна ўздыхне — і зноў цішыня.

Але патроху асвойталіся. Ажывіліся, настроіліся, сталі пытацца: дзе дырыжорская палачка? Як надалей гучаць? У якім рытме? У якой танальнасці? Што, калі выскачыць палачка, застукае па пюпітры, а то і па грыфе заедзе, па клавішах шваркне? Так што маўчаць да пары: да пакорлівасці прывыклі, усё жыццё па дыезах распісана. Але...

Першая скрыпка, як самая смелая, віскнула ўзнервавана, смычком замахала і гучна прамовіла:

— Не, досыць душою крывіць! Доўга з нас жылы цягнулі, хопіць. Я, як першая скрыпка, вам шчыра скажу...

Але не даслухалі. Зразумелі: воля настала, дырыжорская палачка да іх не вернецца. І — загаласілі, загудзелі, завухкалі! Усё прыгадалі: і пра тое, што пры палачцы калегіяльнасці не было, і што адным яна раты затыкала, а другіх незаслужана вылучала. Не забыліся і пра карупцыю, і аб раскрадванні ўспомнілі — дзе каніфоль абяцаная? Хто з усіх струн серабро саскроб? Хто ў кларнет-а-пістоне брагу вытрымліваў? Выпіць дык выпілі, а інструмент заржавеў! І чаму клавесін дагэтуль усё яшчэ не на пенсіі?.. Ну, і гэтак далей. Раз'ятрыліся, раскрычаліся. А тут яшчэ ўдарныя пары паддалі.

— Бі яе! Бі! — загарланілі.

Кінуліся біць... ды спахапіліся — каго? Віноўніцы няма — знікла. Разгубіліся трошку... Але худая чэлеста ім падказала:

— Бі фаварытку! Лаві! На ліхтар яе!

А фаварытка, ведама ж, першая скрыпка. Кінуліся першую скрыпку лавіць, ды куды ўжо там! Мітусня і калатнеча. І тады пад гарачую руку — каб памылкі не выйшла — услед за скрыпкаю і віяланчэль, і альт, і кантрабасы ўсялякія ў расход адправілі. З аднаго боку, вядома, шкада, а з другога — сёння ён альт, а заўтра на квінту вышэй падымецца...

Але ўсё роўна непрыемна. Сядзяць інструменты, на абломкі смычковых і шчыпковых таварышаў паглядваюць і ўздыхаюць. Добра яшчэ, што балалайку пакінулі, бо народная, ды яшчэ за банджа бубен заступіўся як нейкая радня. А то б зусім...

Адна толькі худая чэлеста аніяк не сумуе. Сядзіць і пазяхае — у яе ад нараджэння нота «ля» западала. І хтосьці шапнуў:

— Сябры, пільнавацца трэба, каб ад бяды далей! Чэлеста з аднаго боку клавесіну радня, а з другога — самому камертону.

Камертону! І сказаць брыдка! Вось ужо хто нізавошта ні да кога не прыслухаецца! І... не стала чэлесты. Потым...

Аднак не стану вас доўга таміць, а адразу скажу, што неўзабаве ў аркестровай яме засталіся адны ўдарныя, талеркі з барабанамі. Самы тоўсты барабан уладу ўзурпіраваў, а спачатку ўсё ладна было — з ранку да ночы маршы грымелі, пабудкі, адбоі і ўсялякія іншыя правільныя мелодыі. Мір усталяваўся... Але ненадоўга, бо не прайшло шмат часу, як стаў самы тоўсты барабан заўважаць, што кожны, нават самы нікчэмны барабанчык, з усяе сілы пнецца, каб гучней ударыць, яго заглушыць. Прыйшлося сяго-таго прыцішыць, наскрозь градзіравіць. Суняліся ворагі, затаіліся, сталі — ведама ж — рыхтавацца да путчу. Але самы тоўсты і гэтую магчымасць улічыў, не сумеўся, апярэдзіў падзеі — неяк цёмнай ноччу ўсіх сваіх калег пад корань звёў.

Звёў, супакоіўся, стаў талеркамі камандаваць. Талеркі — асобы простыя, не інтрыганкі, у іх толькі боршч які ці суп разліваць. Але і сярод іх... барабан на адну загледзеўся, спатыкнуўся і лопнуў. Гучна, з трэскам і грукатам. І была гэта, дарэчы, апошняя нота, таму што талеркі, застаўшыся адны, музыку зусім ужо закінулі і разбегліся па сферы абслугі — там узровень жыцця шмат вышэйшы, чым у сферы мастацтва.

Пераклаў Алесь ЖГІРОЎСКІ.

БУДЗЬЦЕ ПРЫГОЖЫЯ

# Спытайцеся ў Тані



Дзень добры, мяне завуць Таня, я прафесійная манекеншчыца, і, прызнаюся, паводле водгукаў маіх знаёмых, сучасны чалавек. Хоць, калі ўдумацца, што такое сучасны? Можа, абмяркуем разам? А пакуль вось што. Сёння ты пазнаёмішся з «Крыніцаю», «дагартаўся» да гэтай старонкі. Мабыць, звярнуў увагу на рубрыку «Будзьце прыгожыя»? Прыгажосць — гэта і ёсць сутнасць размовы, якую буду весці з табою на старонках часопіса. Твае лісты, пытанні, меркаванні і стануць галоўнай тэмай нашых штомесячных сустрэч.

Кола праблем вызначыць цяжка, як цяжка прадбачыць усе сумненні і засмучэнні, звязаныя з натуральным імкненнем маладога чалавека быць прывабным і цікавым і для іншых людзей, і для самога сябе. Пакуль зробім гэта ў агульных рысах: гутаркі пра ўсё, што робіць нашу знешнасць цікавейшай, а можа, і не толькі знешнасць; пра моду: зменлівую, яркую, супярэчлівую, пра ўменне пераймаць яе павевы і ўменне ад іх адмаўляцца; пра культуру адзення ў цэлым і ўменне ствараць свой індывідуальны вобраз.

Фарміраваць нашу рубрыку ў многім будзеш ты сам. Яе змястоўнасць, атмасфера залежаць і ад цябе. Але нават разыходжанне поглядаў і густаў не павінна ўплываць на шчырасць і добразычлівасць нашых адносін. Пастараемся выслухаць і зразумець адно аднаго.

А ў гэтым нумары:

## МОДА

Расказаць пра зімовую экіпіроўку я папрасіла сваю знаёмую, мастака-мадэльера групы перспектыўнага мадэліравання рэспубліканскага Дома мадэляў Надзею Прышчэп. Я вельмі давяраю яе густу. Надзея — адна з тых, хто стварыў калекцыі, якія вазілі ў Італію, Румынію, Польшчу. На міжнародным фестывалі ў Брно яе мадэлі былі адзначаны дыпломам. Асноўны напрамак творчасці — маладзёжная мода.

— Паколькі цяпер зіма, пагаворым, Надзея, пра зімовы касцюм.

— Маладзёжны зімовы касцюм надзвычай дэмакратычны і універсальны. Натуральна, галоўнае — ён павінен быць цёплы і зручны. Але гэта зусім не азначае, што я рэкамендую мядзведжыя кажухі і сабаліныя каўняры — для маладзёжнага зімовага адзення штучнае футра проста незаменнае.

Курткі-паліто камплектуюцца з вялікай колькасцю разнастайных трыкатажных рэчаў: са світэрамі, сукенкамі, шалямі, шапачкамі, рукавіцамі (нават з футра), гетрамі. Паспрабуйце пафантазіраваць, і вы ўбачыце, што гэта дазволіць ствараць мноства новых і нечаканых па колеры і прапорцыях варыянтаў. У цэлым маладзёжная мода гэтай зімы дэкаратыўная і маляўнічая. Мне падабаецца, што няма падпарадкавання якомусьці канкрэтнаму колеру, а разнастайнасць спалучэнняў проста бясконцая. Яркія, насычаныя колеры, дэмакратычныя манеры, у такой ступені ўласцівыя юнацтву, упэўнена, створаць вам святочны, прыўзняты настрой.

А вось яшчэ асаблівасці сёлетняй зімы — спадніцы могуць быць да самай шчыкалаткі. Але сёння мода — гэта яшчэ і мэтанакіраванасць. Такім чынам, даўжыня — не толькі новыя прапорцыі ў адзенні, але і закрыццё нагі ад зімовай сцюжы. Штаны папулярныя на ўцяпляльнай падшыўцы, часта кантраснага колеру. Не першы год папулярная сукенка-світэр. Мяккая і цёплая, яна па-ранейшаму прывабная. Настрой карнавалу, свята ўносіць у будзённае адзенне вышыўка блішчынкамі, бісерам.

Абутак, як і ўсё адзенне, павінен быць практычны, камфортны і таксама іграць на «вобраз». Перавага аддаецца безабцасным боцікам, чаравікам, і толькі ў шыкоўным абутку з'яўляецца абцасік. Для аматараў экстравагантнасці магу парэкамендаваць вельмі авангардысцкую мадэль зімовага абутку: так званыя альпійскія чаравікі. Іх наўмысна тоўстая рыфленая падэшва, высокія халявы, строчкі і шнуркі выдатна ўпісваюцца ў агульны ансамбль маладзёжнага касцюма.

— Надзея, дзякуй за расказ пра моду і за вось гэты эскіз. Абяцаю, што сустрэчы з мастакамі-мадэльерамі стануць у нас у рубрыцы традыцыйныя.

## КАСМЕТЫКА

Але яшчэ раз зірнем на каляндар. У разгары студзень, і як бы цёпла ні былі мы апранутыя, схаваць твар ад ветру і марозу, на жаль, немагчыма. Папулярныя парады, накшталт «...змажце перад выхадам на вуліцу твар шмальцам...», сёння — тыповы анахранізм. Сучасныя касметолагі рэкамендуюць пажыўныя маскі. І я вам прапаную рэцэпты, якімі карыстаюся я і мае знаёмыя.

Калі ў вас сухая скура, то рэкамендую:

1. Змяшаць роўныя часткі мукі, ільнянога семя, вады. Даць набракнуць, нанесці на твар, праз паўгадзіны змыць.

2. Тварог змяшаць з алеем (аліўкавым) або рыцынай (персікавым, міндальным алеем). Наклаўшы на твар, пачакаць, пакуль падсохне. Змыць цёплай вадой.

3. Адвараную бульбу расцерці, дадаць гарачае малако, алей. Праз паўгадзіны зняць.

А калі ў вас тлустая скура, то хачу параіць:

1. Змяшаць кіслае малако, агурочны сок, мёд, белую гліну. Патрымаць 10 хвілін, змыць цёплай вадой.

2. Змяшаць узбіты бялок, паўлыжкі квасцоў і чайную лыжку мукі. Нанесці на твар; калі маска засохне, расцерці яе пальцамі, каб часцінкі асыпаліся. Змыць халоднай вадой. Паўтараць раз у 10 дзён.

3. Растварыць 2 чайныя лыжкі марской солі ў 50 мл вады. Працерці твар алеем. Змачыўшы пальцы ў салёнай вадзе, расціраць імі скуру. Зрабіць кампрэс, намачыўшы марлю ў той жа вадзе; зняўшы яго, выцерці твар ручніком.

На нармальную скуру добрае ўздзеянне аказваюць маскі з жаўтка з лімонам, смятаны з лімонам, рыцыны з мёдам і лімонам, кашыцы з тоўчанай зялёнай салаты з гарачым аліўкавым алеем і некалькімі кроплямі лімоннага соку, са смятаны з тварагом і лімонным сокам, тварагу і клубніц, з жытняга хлеба з малаком.

Перад маскай трэба зрабіць паравую ванну або гарачы кампрэс. Наносячы маску на твар, не трэба забываць пра шыю. Памятайце, чым таўсцейшы слой маскі, тым марудней яна дзейнічае. Гарачыя маскі ўзбуджаюць скуру, халодныя супакойваюць.

Каб лягчэй зняць маску, трэба пакрыць твар на некалькі хвілін разагрэтым ручніком.

Але нашым чытачкам (паміж намі, вядома!) дам яшчэ адну параду: не рабіць гэтыя працэдуры на вачах у мужчын.

А пакуль — да спаткання. Буду чакаць тваіх лістоў.

**Таццяна ЧАРНЯЎСКАЯ**

ШКОЛА АТЛЕТЫЗМУ

# АТЛАНТЫ ТРЫМАЮЦЬ НЯБЁСЫ



**— Мяне завуць Уладзімір. Я член Усесаюзнага трэнерскага савета па атлетычнай гімнастыцы, працую на Мінскай гарадской тэлефоннай станцыі. Некалькі разоў перамагаў ва ўсесаюзных турнірах, уваходжу ў зборную каманду Савецкага Саюза па атлетычнай гімнастыцы. Рэдакцыя часопіса прапанавала мне весці «Школу атлетызму». Прапанову прыняў з задавальненнем, таму што лічу атлетычную гімнастыку вельмі займальным і карысным відам спорту. Усім маладым людзям хочацца мець прыгожую постаць, мужную паставу, моцныя біцэпсы. Увогуле быць прыгожым і дужым. Абяцаю, што заняткі ў клубе на старонках нашага часопіса дапамогуць вам у гэтым. Хачу працытаваць ліст, які прыйшоў з Віцебска ад Сяргея Канавалава. Ён піша: «Мне споўнілася 19 гадоў. Вясною іду ў армію. Калі б вы ведалі, колькі непрыемнасцей меў я ў дзяцінстве. Адно запаленне лёгкіх за другім. Дайшло да астмы. У класе і ў двары ўсе лічылі мяне хіляком. Думаю, што любы хлопец разумее мой стан. Аб'ём грудзей у мяне быў тады 81 сантыметр, біцэпса — 24 см. Пачуўшы пра атлетычную гімнастыку, я дастаў дапаможнік і стаў займацца самастойна з гантэлямі. Сёння я не пазнаю сябе на тых старых, двухгадовай даўнасці фатаграфіях. Пры росце 171 см аб'ём грудзей дасягнуў 109 см, біцэпса — 39 см. Пра хваробы я і не ўспамінаю».**

**Я ведаю такіх хлопцаў мноства. Так што давайце займацца разам.**

**Прапаную вам першы комплекс практыкаванняў для пачаткоўцаў. Мушу папярэдзіць, што перш чым пачаць трэніроўкі з гантэлямі, гірамі, эспандэрам, штангай, неабходна падрыхтаваць арганізм да нагрузак.**

**Абавязковым з'яўляецца месячны курс практыкаванняў, накіраваных на паляпшэнне агульнай фізічнай формы. Не трэба рабіць памылак, ваш арганізм не палігон для выпрабаванняў. Трэба памятаць, што атлетызм садзейнічае прапарцыянальнаму, гарманічнаму развіццю чалавека, таму пачатковы комплекс павінен падрыхтаваць да павышаных нагрузак асноўныя групы мышцаў.**

**Пачатковы комплекс.**

**1. Бег у спакойным тэмпе (10—20 хвілін) — у дні, вольныя ад астатніх практыкаванняў.**

**2. Адцісканне на руках ад падлогі (3—4 падыходы па 10 разоў).**

**3. Падцягванне на турніку «за галаву». Хват рук шырокі (3—4 падыходы па 10 разоў).**

**4. Расцяжка гумовых бінтоў на дэльтападобныя мышцы. Стоячы з падняццем рук у бакі па чарзе (3 падыходы па 10 разоў).**

**5. Практыкаванні на біцэпс з бінтамі. Стоячы згінаць рукі ў локцях (3 падыходы па 10 разоў).**

**6. Цяга бінта трохгаловымі мышцамі рук нахіліўшыся (3×10).**

**7. Прысяданне без вагі. Ногі на шырыні плеч (3—4 падыходы па 10 разоў).**

**8. Падыманне на наскі па чарзе кожнай нагою (4×15).**

**9. Нахілы тулава ўперад (4×15).**

**10. Практыкаванні для прэса:**

**а) падняцце тулава лежачы на дыване (3×20);**

**б) падняцце ног седзячы на лаўцы, стуле — рукі ва ўпоры назад (3×20);**

**в) павароты тулава ў бакі на дыску «Здароўе» (3 падыходы па 30 разоў).**

**У першыя падрыхтоўкі пастарайцеся запісацца ў клуб атлетычнай гімнастыкі па месцы жыхарства. Калі вы не ведаеце, як знайсці яго, звярніцеся ў спорткамітэт пры мясцовым выканкоме, дзе павінны быць зарэгістраваны клубы. Калі такіх няма, аб'ядноўвайцеся з такімі ж энтузіястамі, як вы.**

**Сумесныя трэніроўкі дапамогуць вам згуртавацца і пасябраваць, а школа атлетызму часопіса «Крыніца» дапаможа з чарцяжамі для блокаў і станкоў, дасць парады, як абсталяваць залу, рэкамендацыі па методыцы трэніровак, рэжыме харчавання, распарадку дня.**

**Да сустрэчы ў другім нумары «Крыніцы»!**

**Уладзімір АЛЕКСАНДРОВІЧ.**



Адам ГЛОБУС

# КАЛІ ШТО ЯКОЕ, ЗАХОДЗЬ...

АПАВЯДАННЕ



**Я, мастак паводле адукацыі, пішу прозу і вершы. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» падрыхтавана кніга вершаў «Парк».**

**Люблю ампір і нашу капялюш.**

**Люблю ўздымацца на вежы.**

**Убачыў свет у 1958 годзе і з таго часу люблю сваю маці.**

**Калі-нікалі пішу афарызмы. Вось адзін з іх: «Чорныя дні надыходзяць тады, калі пачынаеш да іх рыхтавацца».**

Барыс упэўненай хадою шпарка ішоў праз парк.

— Мужык...

«Толькі гэтага не хапала».

— ...Пастой. Дапамажы, дай пару капеек.

«Яшчэ адзін у тэлефоннай будцы»,— падумаў Барыс.

— Зараз,— ён дастаў з кішэні колькі манет і падаў іх таму, хто прасіў. Той схапіў Барыса за рукаво і сказаў:

— А ты бага-аты.

«Хопіць. Не хацеў, але...» — падумаў Барыс і ўдарыў вольнай рукою таму, хто трымаў яго за рукаво, у твар.

Манеты зазвінелі па асфальце. Лязгнулі дзверцы тэлефоннай будкі.

Барыс пабег насустрач таму, хто чакаў у будцы. Ударыў і прамахнуўся. Яму ўдарылі ў жывот, потым у плячук і зноў у жывот. Барыс пачаў задыхацца. Ударылі збоку ў скронь.

«На-а!» — пачуў Барыс, і свет разляцеўся на дробныя кавалкі.

«Дзе я? Скронь. Ударылі ў скронь. Паркавая лаўка, я пад ёю. Скаты, завалаклі пад лаўку, каб не валяўся навідавоку. Здагадаліся ж... М-м-м... Зараз пройдзе. Кулаком так не шарахнеш. Чаго ляжаць? Уставай!»

Барыс выбраўся з-пад лаўкі. У парку было пустэльна. Сосны знерухомелі ў шарай гадзіне.

«Вечарэе. Колькі я праляжаў? Гадзіну? Болей? Ну і выгляд!»

Барыс паабтрасаў пыл і сухое лісце, што былі на вопратцы, і пайшоў да цэнтральнай паркавай брамы.

«Пачысціцца, памыецца, адпрасуецца і будзе, як новае. Колькі часу? Скаты, гадзіннік за дзве капейкі і той забралі. Так табе і трэба. Так і павінна было быць. Раней ці пазней — без розніцы. Інакш і быць не магло. Пасаду захацеў мець?! Штаны пачысціў, туфлі наваксаваў, пастрыгся, пагаліўся?! Як жа ж, на прыём да міністра першы раз ідзеш! Сам міністр запрасіў, час прызначыў. Трэба выгляд мець, каб не Барысам, а Барысам Барысавічам дапамаглі зрабіцца. Не ў джынсах жа чакаць пераўвасаблення. Вось і пераўвасобіўся. Чаго папёрся праз парк? Забыў? Не забыў. Тады было інакш. Мы прасілі не так. Мы грошы сшыбалі да-лі-кат-на».

Барыс прыпыніўся каля пустой лаўкі і загаварыў:

— Дзяўчаткі, прыгожыя, добры вечар. Паглядзіце на мяне. Паглядзіце ўважліва на мяне, на мае джынсы і куртку, яны бачылі ўсе айчынныя хіт-парады. А цяпер мне так баліць жывот, што няма аніякага ратунку, акрамя шклянкі таннага вермуту. Можа, вы дасцё беднаму хіпі адзін рубель дваццаць дзве капейкі і ўратуеце яго ад пакутлівай смерці? Дзякуй, прыгожыя. Мне толькі рубель і дваццаць дзве капейкі, а больш не трэба. Дзякуй, дарагія. Гуд бай!

Барыс перайшоў да наступнай лаўкі, схіліў галаву і зноў загаварыў да пустой лаўкі. Ён прамаўляў ціха, але з упэўненасцю, якая з'яўляецца ў чалавека, калі ён адны і тыя ж словы гаворыць сто першы раз.

— Хлопец. Брат, прабач, дапамажы. Калі можаш, дай колькі манет. Калі можаш... Я прашу. Не крыўдуй. Дзякуй, брат.

«Давалі. Адчынялі сумачкі і давалі. Даставалі з кішэні і сыпалі на далонь. Выцягвалі партманэ і адлічвалі. Хто капейкі, хто рублі. Хто на віно, хто на хлеб, хто на білет. Дапамагалі беднаму хіпі, выратоўвалі небараку студэнта, шкадавалі абрабаванага чалавека... Сотні версій, сотні шляхоў. Людзі давалі нам грошы. Мы прасілі — яны давалі.

Але было і па-другому, калі заехалі Шведу пасля першага слова свінцовым кастэтам. Ён так падаў патыліцай на асфальт, што я спалохаўся: ці не забілі Шведа? Толькі яго не забілі. А пасля бойкі былі разборы і скрынка віна.

А дзе цяпер той Швед? Няўжо ён застаўся такі, які быў пад крамай «Тытунь», у сваім бомбасховішчы? Сто год не бачыліся. Пэўна ж, Барыс, ты стаў іншы, ты ў падвалы і бункеры не ходзіш, ты віна таннага не п'еш, анашу не курыш, калёсы не глытаеш... Ты — асоба! Ты да міністра на прыём ішоў. Асоба! Міністр! Прыём! Атрымаў? Цябе чакалі, а ты ў парку рогам зачапіўся. Цябе шпана мужыком называе, а ты біцца палез. Дапамог бы хлопцам і пайшоў бы ціха. Як жа ж, пайшоў бы... Яны што, не ведаюць такіх, як ты — адпрасаваных, пастрыжаных? Такія як да першага тэлефона дапаўзаюць, так і пачынаюць дапамогу клікаць. Толькі не ведалі хлопцы, што не будзеш ты ні званіць, ні выклікаць. А пойдзеш ты, Барыс, па сістэмнай мянушцы — Бэр, да Шведа ў бомбасховішча, бо што гэта за свет, калі Бэр у Мінску праз парк прайсці не можа? Міністр? У міністра папросім прабачэння».

Няпэўнае святло запалкі намацала ў цемры магутныя дзверы ў бомбасховішча. Бэр ударыў у дзверы нагою — раз, другі, трэці... Заскрыгатала засаўка. У светлым прагале цямнеў сілуэт. Ён быў напагатове.

— Што трэба? — гыркнуў сілуэт.

— Швед ёсць?

— Залазь,— сілуэт саступіў дарогу.

Зялёныя сцены бомбасховішча і слабыя лямпачкі ў драцяных каўпаках сустрэлі госця больш ветліва.

— Хто? — Шведаў голас пад нізкай столлю праз пакоі і калідоры даляцеў да Бэра.

— Да цябе,— пачулася з-за Бэравай спіны.

Бэр зайшоў у пакой, застаўлены станкамі і варштатамі. Швед ляжаў на канапе, якая сваёй бардовай аксамітнай абіўкаю і белымі гнутымі ножкамі ў стылі ракако зусім не пасавала да шызага халата на гаспадары.

«Пастарэў Швед. Няма джынсаў. Няма курткі. Няма доўгіх, па плечы, валасоў. Няма хіпі».

— Бэр? Заходзь! Не чакаў я. Сядай ці кладзіся, калі хочаш.— Швед сеў на канапе.

— Пастарэў ты, Швед, а з падвала не вылез,— Бэр сеў побач са Шведам.

— Добра, што зайшоў. Пастарэў, кажаш? А я газету бачыў, а ў ёй — твой партрэт. Дык ты высока залез. Правільна... Павярні галаву.

Бэр паказаў Шведу чырвоную прыпухлую скронь.

— Нармуль. Дапамаглі, кажаш, мяне ўспомніць,— сказаў той, разглядаючы кровападцёк.

— Дапамаглі, як бачыш. Вось я і прыйшоў спытаць. Хто мяне ў парку пад лаўку паклаў? Ішоў я праз парк. Падыходзіць адзін і кажа дапамажы. Другі ў тэлефоннай будцы чакае. Я спяшаўся, думаю, чорт з табой. Дастаў я жменю дробязі. А ён мне кажа — багаты мужык ты. Сам разумееш, гэта ўжо — нявыкрутка. І панеслася, і пакацілася... Прачнуўся я пад лаўкаю.

— Дзе гэта было? — Швед устаў, засунуў кулакі ў кішэні халата, потым дастаў з кішэні папяросу, прадзьмуў, закурыў і крыкнуў у бок дзвярэй: — Тушкан, вентыляцыю ўключы!

— Зараз,— азваўся той, што адчыняў дзверы ў бомбасховішча.

Загула вентыляцыйная сістэма. Па пакоі прабег ледзь заўважаны скразнячок.

— Каля дзіцячай чыгункі,— удакладніў Бэр.

— А з выгляду яны як?

— Думаў, што калі я пачну, дык і пакладу абодвух.

— А дакладней можна, ці так гахнулі, што памяць адбілі?

— Шарахнулі як мае быць, але памяці не адбілі. Наадварот, як бачыш, дарогу ў твой падвал успомніў. Слухай. Адзін меншы за мяне, рэдказубы, з вусікамі рэдкімі, да цырульніка падобны ці да бармэна, на ім джынсовая куртка і значок: рот з высалапленым языком — Ролінг Стоўнз.

— Ведаю,— ашчэрыўся Швед,— ёсць такая гніль рэдказубая. Алекс яго мянушка. Хіба ты яго не мог навучыць, як грошы сшыбаюць?

— Гэтага я навучыў, але быў і другі, той, што ў будцы стаяў. Яго не помню. Як счапіліся, сам разумееш, не было калі разглядаць...

— Забралі што? Ці так пабілі?

— Грошы, гадзіннік...

— Ясна. Эй, Тушкан, мы пайшлі, а ты сядзі, не адчыняй.

Побач са Шведам Бэр адчуваў сябе маладзейшым на год дзесяць.

«Раней хадзілі мы па вуліцах і не было ў тых вуліц тупікоў. Сядзелі мы ў скверах і пілі вермут, і забаўляліся з дзеўкамі, і слухалі музыку, і самі спявалі... Была сістэма, і ездзілі мы па краіне аўтастопам, і ў кожным вялікім горадзе нас чакалі падвалы з напісанымі на сценах адрасамі іншых такіх падвалаў, дзе не зачыняюцца дзверы і ёсць віно і хлеб. Называлі нас і хіпі, і патлатымі, і джынсовымі, і падонкамі, і шкодным элементам, і люмпен-пралетарыятам, і чорт ведае чым, і бог ведае кім... А мы пляваць хацелі на ўсе гэтыя назвы, мы ехалі, а потым ішлі, а потым зноў ехалі, і ў дарозе не было тупікоў. Толькі Шведу не пашанцавала, трапіў ён у тунель, дзе выключылі святло,— знайшлі ў ягонай сумцы шпрыц і ампулы з кайфам. Два гады Шведа не было ў абдымках дзяўчат і на дарогах. Вярнуўся ён стрыжаны, з вялікім шнарам на вуху. Выпілі мы пляшку каньяку ў вакзальным буфеце за сустрэчу, за сяброўства, за два доўгія-доўгія гады і разбегліся ў розныя бакі...»

— Знойдзем. Гадам буду, а мы іх вылавім. Калі не памыліліся і ў парку Алекс быў,— мы іх каля нямецкага рэстарана і знойдзем,— Швед заводзіў сам сябе.

У рэстаран ён зайшоў адзін. Бэр застаўся чакаць на алеі, ён сеў так, каб быў відзён, на ўсялякі выпадак, рэстаранны ганак, дзе курылі п'янаватыя кліенты.

Швед хутка з'явіўся на ганку.

— Зробім так. Я падыду адзін, быццам п'яны, і паклічу іх у двор, быццам хачу пярсцёнак ім здаць, быццам не хапіла мне сёння і я хачу дабавіць, а на кішэні — нулі... Карацей, напляту. Як толькі завяду іх пад арку, уставай і за намі ідзі, толькі не спяшай, я адзін іх пакладу.

— Адзін такі паклаў, а потым пад лаўкай прачнуўся,— Бэр адчуў, як задрыжэла ў яго калена, яно заўсёды дрыжэла перад бойкаю, да першага ўдару.

— Спакойна, Бэр. Яны, як цапы, панабіраліся, а я ў форме. Ведаеш, я з бухаддзелам завязаў. Не магу піць,

